ГРОДЗЕНСКАЕ АБЛАСНОЕ АДДЗЯЛЕННЕ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ
«САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»

# НОВЫ ЗАМАК

ЛІТАРАТУРНЫ АЛЬМАНАХ. ГРОДНА. MMXII

МІНСК «КНІГАЗБОР» 2012



ПАЭЗІЯ. ПРОЗА. ПЕРАКЛАДЫ. КРЫТЫКА

УДК 821.161.3(059)
ББК 84(4Беи)
Н72

Літаратурны альманах Гродзенскага абласнога аддзялення грамадскага аб’яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў»



Р э д а к т а р:
Ю. Голуб.

У к л а д а н н е:
С. Астравец.

Тэхнічная падрыхтоўка выдання, раздзел «Хроніка», здымкі:
С. Астравец.

Н72 **Новы замак** : літаратурны альманах. Гродна. MMXII / укл. С. Астравец. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 248 с.
ISBN 978-985-7057-29-0.

У першым выпуску літаратурнага альманаха «Новы Замак» Гродзенскага абласнога аддзялення грамадскага аб’яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» прадстаўлены творы дваццаці аднаго аўтара. Апроч вершаў і прозы, публікуюцца таксама пераклады паэзіі, эсэ, крытыка, дзённікі. Назва альманаха мае ўвасабляць духоўныя каштоўнасці Гродзеншчыны: у Новым каралеўскім замку захоўваюцца музейныя зборы, калекцыя старадрукаў і фонды Абласной бібліятэкі імя акадэміка Яўхіма Карскага.

**УДК 821.161.3(059)**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7057-29-0**



# Сфінксы Новага замка

Калі мы гаворым «Новы замак», мы бачым спачатку браму. Так, мы апынаемся перад двума сфінксамі, якія яе ахоўваюць. Сфінксы заўсёды маўчаць. Але бачылі яны шмат за сваіх дзвесце пяцьдзясят год. Так, яны параўнаўча маладыя. Больш за тое, нашыя сфінксы — да́мы. У пэўным сэнсе яны замянілі сярэднявечных мадонн. Нашыя мадонны з эпохі Асветніцтва таксама з дзіцём, але яно не патрабуе больш цыцкі, хаця — гляньце — бюст у наяўнасці, як мае быць у такім выпадку. Вось яно, кучаравае, на спіне ў сфінкса. Як вершнік. Вольнасць зусім у духу XVIII стагоддзя.

Вальяжны выгляд гродзенскіх сфінксаў бянтэжыць незнаёмцаў. Ці гэта не жарт? А мы прызвычаіліся, мы іх любім. Сфінксы нібы дэкларуюць: заходзьце, будуць россыпы агнёў у небе, будзе баль, келіхі шампанскага, будзе забава. Так, яны нібы запрашаюць да прыгоды, і мы адчуваем, што запрашэнне не фармальнае. І ноч у музеі, і канцэрт камернай музыкі пад дахам. А на падворку джазісты з саксафонамі на сцэне, а іншым разам рыцары скрыжавалі мячы публіцы на пацеху. І сапраўды неўзабаве выбухаюць-іскраць феерверкі. Як калісьці ў каралеўскія часы. Сёння гэта вясельныя петарды. У Авальнай зале бяруць шлюб.

Але феерверкі нагадваюць аб запаленых паходнях чужынскіх жаўнераў, якія каля гармат чакалі каманды. Якой? Паліць напрасткі ў Новы замак, дзе шляхецкія дэпутаты марудзілі галасаваць за падзел земляў паміж імперскімі суседзямі? Ці не ўзяўся б Шэкспір за няроўную мілітарна-палітычную дуэль паміж дваімі былымі каханкамі? Паміж каралём Станіславам Аўгустам Панятоўскім і расійскай імператрыцай Кацярынай II? Зрэшты, у сённяшнім жыцці гэта ўсяго толькі эпізод у гістарычных дэкарацыях. Паміж калонамі палаца сёлета з’явіліся тантамарэскі караля і царыцы: калі ласка, устаўце свой твар у авал — і вось вам здымак для сямейнага альбома.

Новы замак — нібы куфар, у якім ёсць месца для кнігадрукаў мінулых стагоддзяў, для рыцарскіх латаў і каралеўскіх партрэтаў, для сучаснай бібліятэкі. Гэта той вялікі кнігазбор з патаемнымі дзверцамі, пра які французскі пісьменнік Жан Жубэр стварыў надзвычай цікавы раман «Незадоўга да наступлення ночы». Прафесар літаратуры накіроўваецца ў сталіцу, каб атрымаць доступ да дзённікаў памерлага паэта. Яны заходзяцца ў бібліятэцы, гмах якой — нібы горад у горадзе, дзе існуюць малавядомыя загадкавыя месцы, тупікі, варта толькі ступіць убок ад прамянаду. Жан Жубэр пісаў раманы-прытчы. Новы замак дае багатую глебу для прытчаў. А ўласна кажучы — для розных жанраў.

Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі перажываў тут драму скасавання Рэчы Паспалітай. На сцэне замест акцёраў гледачы ўбачылі нечакана генералаў з чужымі эпалетамі, з шаблямі: краіны з такой назвай больш не будзе, спектакль скончаны! Загадана пакінуць памяшканне! Штосьці манарх даверыў свайму гусінаму пяру і паперы, але не ўсе пачуцці адлюстраваў у дзённіку. Хаця часу меў даволі: яго трымалі ў сценах Новага замка пад хатнім арыштам.

Мінула больш чым сто гадоў, убачыць сфінксаў, наведаць каралеўскі палац прыязджаў пісьменнік Уладыслаў Рэймант. Каб напісаць эпапею пра пахаванне Рэчы Паспалітай, пра спробу Тадэвуша Касцюшкі гэтаму перашкодзіць. У Гродне добра

ведаюць раман «Апошні сейм Рэчы Паспалітай». Аднойчы, калі праходзіла «Ноч у музеі», публіка ў Сенатарскай зале слухала ўрыўкі з рамана: дзеянне адбывалася менавіта тут. Там сядзеў кароль, тут паслы, а наверсе, на галерэі, — гледачы. Драматычны «маўклівы сейм».

Уладыслаў Рэймант з жалем аб тых падзеях напісаў трылогію аб скасаванні Рэчы Паспалітай. Закончыў яе ў 1918-м. І Польшча адрадзілася. А пісьменніка ўзнагародзілі пазней Нобелеўскай прэміяй па літаратуры. Перад Новым замкам сёння таксама мог бы быць помнік Уладыславу Рэйманту, які знаходзіцца ў Лодзі: пісьменнік сядзіць на куфры, куфар стаіць на тратуары.

«Сфінксы ніколі не плачуць», пераконвала французская спявачка. Так і ёсць, пэўна. Але падманлівым бывае выгляд. Не, яны нічога нам не скажуць. Мы можам толькі ўявіць іх думкі, аформіўшы ў словы падзеі, сведкамі якіх яны былі. Дзякуй ім за такую магчымасць. Вядома: ад сфінксаў нічога не залежыць. Дзіўна, што яны самі ацалелі. Але без іх было б сумна. Як добра, што можна пастаяць знізу, параіцца ў думках, памаўчаць разам з імі.

*Сяргей АСТРАВЕЦ*



■ *Тантамарэска Кацярыны II каля Новага замка.*



# Паэзія

## Ганна Аўчыннікава

### Кепскае прадчуванне

Гэта няпраўда, што выйсце ўжо блізка.
Гэта хлусня, што маглі мы стрымацца…
Восень гайдаецца ў чорнай калысцы.
(Пэўна, яе пераўжыць мне не ўдасца.)
Гэта абсурдна… Не дойдзе да смерці!
Час перакіне сябе праз экватар,
Ноч перакуліць сябе цераз сэрца,
Каб з адваротнага боку заплакаць.
Раптам захочацца верыць, не гінуць,
Быць не самотнаю і нецвярозай…
Знакам на голлі гайдаецца восень —
Яблык, падгнілы пад тонкай лупінкай.

### Дараванне

Калі дараванне прыйшло ў нашы сэрцы,
Яно было сховам, апошнім прытулкам,
Дзе заўсёды сабою любоў застаецца
І дзе можна маўчаць,
Пакуль мовіць адсутнасць.
Як ад хмараў на дол апускаюцца цені
І ў той час, як жаданні знікаюць без следу,
Нам патрэбна яшчэ навучыцца цярпенню,
Хоць не проста чакаць,
І ты ведаеш гэта.
Сотня тысячаў зорак над кратамі стрэхаў
Хай з жалобнага вэлюму ў горад страсецца!
Калі дараванне прыйшло ў нашы сэрцы —
Яно было снегам.



Далікатная рэстаўрацыя кадраў, сцёртых у памяці…
Каму гэта зараз трэба,
Чаго гэта стала варта?
Мы ведаем добра так
Сябе, што ты маеш рацыю:
Гуляць і ў адкрытыя карты —
Для нас няшчыра занадта…
Ну што ж, пакінем гульню!
На свеце — нічога новага.
Між мной і табой нішто
Не можа гарэць — адно
Ледзь бачна ў ночы свяціць,
А потым кроплямі цёмнымі
Сцякаць пад чыстай вадой
З расталым снегам на дно.

## Максіму Багдановічу

Мой сябра, якога не ведаю,
Дазволь крануць твой вянок,
Дазволь прачытаць лісты,
Напісаныя да самоты,
Паверыць, што толькі ты
Размаўляць так зможаш са мной,
Як ніхто, і ў любові светлай
Уваскрэснуць і знікнуць потым.
Убачыць дазволь тыя кветкі,
Што растуць між пажоўклых старонак, —
І кветкі стануць мне сёстрамі,
Каб забыцца ў глыбокім даверы
І пайсці за табой, і ўсё роўна,
Ці знайсці суцяшэнне ў сяброўстве,
Ці красу ў палыновай ростані.






Нарадзілася ў 1986 годзе ў Гродне. Скончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы. Аўтар кнігі вершаў «Ад зачыненай брамы», публікацый у часопісах «Дзеяслоў», «Маладосць», газеце «Наша ніва», калектыўных зборніках. Жыве ў Гродне.

ДАНУТА БІЧЭЛЬ

*ПРЫСВЯЧЭННІ СЯБРОЎКАМ І СЯБРАМ*

## Малюнак

Малюнак Івана Пратасені «Максім Багдановіч
і Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая) у Мінску
на Катэдральным пляцы ў 1916 годзе»

Максім з Людвікай у ваенным Мінску.
Зіма суровая… Расстанне блізка…
Не даў ім Божа ні вясны, ні лета,
але пакуль не думаюць пра гэта…

Гародню ўспамінаюць мілай казкай.
Паміж Садовай і Гараднічанскай
малая кладачка праз Гарадніцу…
Яна дагэтуль кожнаму з іх сніцца…

Максім з Людвікай… Паміж імі вершы…
Галуб з галубкай на касцельнай вежы.
А Мінск заснуў і будзе доўга спаць…
Прачнуцца людзі — а яны стаяць.

…Так узвышаў мяне малюнак светлы
да вежаў, што гайдаліся ў паветры,
так саграваў мяне цяплом і болем
малюнак, на якім яны абое…

…Святыняў вежы свецяцца здалёку!
Ды наляцела груганнё са змроку,
і той касцёл, які я так любіла,
знявечаны, пакутаваў бяскрыла.

Але прыслаў нам Божа вецер свежы,
збудзіў званы на катэдральнай вежы!
Лятуць малітвы, нібы зоркі з прыску.
…Максім з Людвікай у ваенным Мінску…

*22.04.2010*

## На досвітку

Хто закінуў на хмаркі мярэжы?
Гэта вецер з заснежанай вежы…
Ён бяссонны і грэшны, ён першы…
Б'юцца словы, як рыбіны, ў вершы…

Нехта ж грае на лютні наверсе,
на святой вышыні паднябесся
пачынаецца ветрава песня…
Галубок чысціць пёрыйка ў снезе…

Шчэ бяссонная хмарка заспана…
Шчэ не дыхаюць духі аргана…
Шчэ прасветлена плакаць зарана…
Шчэ нічогачкі не змарнавана…

## Ларыса Геніюш

*Да стагоддзя з дня нараджэння паэткі 9 жніўня 2010 года*

**1. Кветкі няволі**

Так, як некалі вочы ў акенца глядзелі,
пазнавалі людзей па вачах штонядзелі, —
так і цяпер яе вочы душы
паглядаюць аднекуль з невідочных вышынь
праз дрот, які іржою цвіце
ў Абезі, у Інце, у Варкуце…

Турма — гэта смерць, смерць — гэта турма…
Між турмою і смерцю прагалу няма…
І ніякая кветка не ўлагодзіць адчай,
апроч лёзаў двулёзых штылетаў, мяча…

І куды гэты свет у нябыт заляціць?
І куды гэты свет праз акенца глядзіць?
Так, як некалі ў Жлобаўцах, як пры жыцці,
як пасля нараджэння, як у ноч на куцці…

У Жлобаўцах — лодачкі, у Палаўках
палоняцца плотачкі на паплаўках…
У Зэльве — залеўнік, у Абезі — бэз…
Як ён у няволю праз дрот пералез?..

А дзе тая праўда з надзеяй на радасць,
без права на надзею, калі гарката
падкрадваецца да перасохлага гарляка…
з кожным нявольным крокам…
А вецер, і снег, і спёка
з’ядаюць з зямлі насенне,
а тое, якое не з’елі,
якое ўзышло, зелянее, —
ганьбяць, топчуць і гнуць,
заганяюць жыўцом у зямлю,
абы толькі яго вярнуць
ізноў у бясформенны змрок,

адкуль яно вырвалася і прарасло —
па законах жыцця, а нібы незнарок…

Цвілі мазалі ад рыдлёўкі і кельмы…
Калолі не церні — наглядчыкаў бельмы…
А толькі задрэмле — душа яе ў Зэльве
з братамі і браткамі, з мроямі ў сне…

У Казахстане маці магіла
яснее крылаткамі, але бяскрыла,
крылаткі, як сончыкі, ноч пасадзіла…
А бацьку забілі ў Гародні ў турме…

О кветкі нявол і кветкі за дротам!
Хто вас палівае крывёю і потам?
О, калісьці прачнецца народ-пілігрым…
і рассцеле свабоды кілім!

Папяровыя кветкі называліся ксівы…
А яна іх расаду садзіла з-за крат…
І не слёзы цвілі ў вачах яе сініх,
а чырвоныя макі з-пад Монтэ-Касіна,
дзе загінуў Аркадзь, яе брат…

Кажа брат:
— На сябе сам зямлю нацягну…
Бо пад сэрцам пясчынка той, якую люблю…
А на сэрцы кашуля, вышывана сястрой,
а ў вачах — неабсяжных нябёсаў сувой…

**2. Гародчык**

Святы Францішак гэтаму сведка:
адбывалася ўсё, нібы ў сне,—
у гародчыку ціхім святая паэтка
працягнула руку да мяне…

Усё цудоўнае дзеецца так —
гэта *нябесны* быў знак…

**3. Каменная кніга**

Хвіліна маўчання, пакуль разглядаем
стракаты дыван, сатканы на золку,
усыпаны бісерам росаў, —
слова зямное, якое паэтка сказаць не паспела,
з цемры святла вырываецца —
без гуку, без вобразу і без выгляду,
прагнучы кроплі неспазнанае ласкі
сухім горлам няўтоленага прызнання
ад жывых, якія грэюцца каля спакойнага каменя…

Скульптар Алесь Шатэрнік шліфаваў гэты помнік…
Маўклівае сумаўленне з шэрым каменнем,
вечнай памяццю аб паэтцы,
каменны вобраз яе спрадвечнага слова
пад небам ясным, як яе вочы…
І мы, асleплыя ў хвіліну прасвятлення,
з вялікай прагай пераменаў, балесных, як рана…
Смуга з тонкіх ніткаў світання,
невыказная туга па добрай Краіне,
у якую паэтка была прыслана
стаць духоўнаю маці народа, а стала
толькі духоўнаю маці некалькіх выкінутых,
некалькіх Богам абраных…

А каля каменя над магілай паэткі і яе мужа,
пад сонцам, якое заўсёды ёсць, як і памяць
пра жыццё пакаленняў, іх жаданняў, імкненняў,
іх расстанняў, збліжэнняў, іх смерцяў і нараджэнняў —
бязмежнае мора жыцця…

Магілку паэткі вартуюць кветкі…
Сон пад каменнаю кнігай з двух вершаў паэткі…
І Беларусь — старажытная, несмяротная,
з добрай будучыняй у цішы пад крыжам.

…Тут яшчэ жывуць людзі.
Іх самаробныя хаты ўнізе на грудзе…
Адчыню маляваныя веснічкі, якія спяваюць…
Голас з хаты на мове паэткі спытае:
— Хто гэта там?
Кожная хата мае свой голас…
— Свае, — адкажу…
Мяне пазнаюць па гэтым кароткім слове…
Ірэна Тукальская адчыніць дзверы,
мы прытулімся і шчасліва заплачам.
Паміж намі — любоў,
якую паэтка пакінула ў спадчыну…

У маўчанні прытоіцца свет…
Мы — жывы запавет…
А калі нас тут не стане,
дзяўчаты будуць чытаць
мову кветак і кнігу на камені…

**4. Малітва**

Маці Божая з чыстай Жыровы,
Ты прымі мае горкія словы!

…Дзічкі, што трымалі блакіт,
пад корань пайшлі ў нябыт…
не ўтрымалі блакіт Твае дзічкі —
не наглядчыцы, не бальшавічкі…

Зніклі з дзічкамі межы на полі,
зруйнаваў іх савецкі калгас…
Маці Божая, маліся за нас
і за тых, якім добра ў няволі…

Маці Божая з ціхай Жыровы,
толькі Ты нас малітвай адновіш!

Праз краіны, межы, сусветы
між сабой размаўляюць паэты,
праз нябёсы і агароды,
праз галовы вялікіх народаў, —
і народы не прападаюць,
і галовы з плячэй не спадаюць…

Не тое, што новыя каралі —
сюды прыйшлі і тут доўга былі…

Разам з даносчыкамі і самазванцамі,
разам са следчымі і іх дарадцамі,
ды з іх прыблудамі, ды з самаедкамі,
што тварылі суд над паэткамі…

З крывадушнымі іх прысягамі,
з гідкімі знявагамі, звягамі,
з кананадамі, з канакрадамі,
з чырвонай навалаю чорнаю,
якая нібы не бачыць нічога, —
кожны думае, што сам сабе пан,
кожны сам сябе ўводзіць у зман,
кожны ўсё разумее і грэшыць —
кажа: усё йдзе так, як належыць…

Маці Божая, апякунка жывых!
Няхай болей тут дрэні не родзяцца!
Няхай іх уздыме вышэй іх саміх
Твой Божы Сын і Твая Жыровіца!

**5. Пытанне**

Час затрымаўся… стагоддзе мінае…
Ці ўспамінае душа сваё цела —
як неспакойнае сэрца балела…
музыку слова ці ўспамінае…

## Каложа

Цудны Каложы снапок:
кветка і крыж…
Цуд гэты звыш…

Мусіць, быў дойлідам Бог…
Так чалавек бы
не змог…

## Пілігрымка ў Катынь

У Катынь па нябёсах дарогі… Здаецца, дарог шмат…
Маглі вярнуцца, ды ў перамогі няма дарогі назад…
Іх кроў уквеціла ў чырвань увесь беспрасветны змрок.
Загінуўшых за Айчыну да сябе прытуляе Бог.

Людзі бяды баяцца. А Бог не баіцца бяды.
Ён дапамог ім узняцца, вярнуцца назад праз гады…
Заціснуць старую рану любоўю і дабрынёй…
Мужчын і жанчын, каханых, смерцю злучыць адной…

Раптам на лес і балота лягла густая імгла.
Вырай нябесных істотаў імгла стрымаць не змагла.
Выраем сэрцаў дужых у нябёсы Катыні ўзляцець.
Бяссмерцем прыгожых душаў паправіць нявінную смерць…

Смерць раззброеных вязняў, зганьбаваных маўчання ілжой,
апраўдаць у вачах нашчадкаў, ачысціць ахвярнай крывёй.
Таямніцаю складзеных жыццяў прыгожых публічных эліт,
добрым Богам узнятых у вечных нябёс аксаміт…

Людабойства, адчай, дратаванне крывавае, згінь!
Адвалены камень маўчання з сэрца твайго, Катынь!
На белым абломку світаннем гарэў акрываўлены шнар —
харугва Змёртвыхпаўстання і польскі штандар!

Што мог пасланць з самалёта сям'і сваёй бацька і муж?
Упрыгожвайце сцежкі сіротаў у вязанкі вясновых руж!
Чалавецтва яднаецца ў моцы ад ценяў тваіх, Катынь!
У малітве, у болю, у сонцы, у смутку святым…

— Простите нас, если можете! — сказаў расійскі прэм'ер…
Ці пакрыецца вечнаю ганьбай вусаты раз'ятраны звер?
Ці прабачаны каты Катыні? Ці адпушчаны грэх?

Бог… Гонар… Айчына… Марыя… Лех…

## Сніцца мне хатка

Сніцца мне хатка:
нізкі парог,
Бог не застрэміць
стомленых ног…

Лапкі там грэе
Бонка старая —
тая, што ў раі
кветкі збірае…

Сонейка ў поўдзень
ткнецца да клямкі —

вочкі заспаныя,
носік у плямкі…

Нейкі вандроўнік
глядзіць вінавата…
Твар не паголены…
Гэта ж мой тата!

## Марыся і яе дочкі

Яшчэ разгорнем Краіну-бранку,
як лекар кнігі старыя!
Гадуй, Марыся, дачушку Янку!
З вамі Святая Марыя!

Табе бабуля, жняя з Заполля,
на кроснах выткала долю!
Табе дзядуля, сейбіт з Заполля,
на ніве пасеяў долю!

Няхай пачуццяў Божая ласка
вас цёплым небам накрые!
Жывіце ў шчасці, Янка і Радка!
З вамі Святая Марыя!

## Кастусь Тарасаў

> Выбрацца ў неба ўзняцца…
> убачыць людзей на пляцы…
> ведаць, што не схавацца…
> *Песня змаганца*

Кастусь Тарасаў сябе спаліў…
Не хацеў марнавацца ў парнай зямлі…
Да зор паляцеў ракетаю срэбнай…

— Тут Кастусь быў непатрэбны…
пісаў не пра тую гісторыю,
за якую шануюць канторы…

Нехта пацэліў у самае сэрца…
А ніхто не пачуў Кастусёву бяду…
І пад зямлёй не хапіла месца,
Кастусь не ўцякаў, нібы рак, пад ваду…

У Менску самотны, адзін, —
бы ў Ялце самотны Максім…

Паляцеў за няўлоўным ветрам
між блакітаў рабрыстым шнарам,
смерці жывым штандарам…
Быў адзінокі, як ветах…
Кастусь Тарасаў — месяцаў брат…

І кніг пакінуў не шмат…
У якіх ажывіў увесь гвалт
паразаў і перамог
на вузлах тутэйшых дарог,
якія мінаў нават Бог…

Дым—
пілігрым
між абломкаў-крыг…

Я ўжо не маю малітваў за ўсіх,
хмаркі-абломкі — сёстры-браты…
Я сама прападаю,
і прапасці не маю куды…

А недзе над лесам, над Рымам
выспелым зрэбным дымам
знікае з вачэй Кастусь…
Жыве Беларусь…

## Ксёндз Адам Станкевіч

> У буру і нягоду
> родны сцяг і крыж трымаў,
> беларускаму народу
> праўду засяваў…
>
> *Надпіс на помніку*

Каб цвілі тут яблынькі ў садзе,
нехта выбіў на камені верш.
Спіць пад каменем толькі маці.
Сын згубіўся між кніг і папер.

З Божай волі ён крыж вольны нёс,
узнімаў Беларусь да нябёс.
Прапаведаваў бальшавікам,
а гэта страшней, чым ваўкам.

Прысудзілі, што ён японскі шпіён.
У палоне не вытрываў ксёндз.
Цераз смерць, як праз плот, уцёк —
беларускі прарок.

Не шукайце яго ў Тайшэце,
ён вярнуўся па зорках дамоў —
з сэрцам, прабітым па смерці,
з пакалечанай галавой.

## Памяці Уладзіміра Конана

*(1937–2011)*

Божа высокі, будзь пахвалёны,
пакуль па зямлі мы, ціхія, ходзім.
Нашы малітвы, нашы каноны.
Мудры філосаф Конан Валодзя.

Ён ціхім словам вяртаў нашу славу.
Ён узмацняў да голасу трубнага
Адама Станкевіча, князя Ўсяслава,
святога паэта Кірылу з Турава.

Сам, як Кірыл, «увайшоў у слуп»,
узняўся моцай нябачных крыл,
умацаваў нам містычны зруб
думкамі з-пад моху магіл.

Служачы Богу і роднай Краіне,
напрацаваўся самотна да скону.
У цемры душу тваю Бог не пакіне.
Сноў табе светлых, Валодзя Конан!

*7.06.2011*

## Малітва за Дарку

Божанька, беражы нашу Дарку,
прыгожую нашу пяснярку,
Паўночных Афін валадарку…
Захавальніцу дзвюх на камені кніг
на пляцы ў Залескім парку…
Беражы Беларусь, яе гаспадарку…

Пад яе далікатныя ножкі
падсцілай лагодную хмарку!

## Болесці ўсе — для Олі

Оля, як боль, спаднічка паўклёш…
Божанька, болю яе не трывож.
Сэрданька раніць боль, востры нож,
здрада смыліць і смокча, бы смоўж…
Болем не вылечыш болю, ды ўсё ж —
як патрывожыш, балець будзе больш…

Ноччу на Гомель у бездарож,
на Ясны Бераг — Нябесны Коўш —
будзе вяртацца яна басанож,
там пабудуе масток сабе ўздоўж, —
там, дзе злучаюцца Оля і Сож…

Даў ёй цярпенне, то долю памнож,
не прысылай з Гародні вяльмож…
Дай ёй надзею на талер ці грош…
Як пашкадуеш, шчэ будзе горш…

Нёман, Дняпро і Сож — не трынож!

*8.02.2012*

## Рэдактару часопіса «Наша вера» Хрысціне Лялько

Рэдактар напіша не горш, чым другія,
па музыцы слова ў яго настальгія,
бывае, што думкі душу яму рэжуць!
Але не пісаў Евангелле Езус.

Мацвей, Лука, Марк і Ян —
філосаф, гісторык, тэолаг, паэт—
прынеслі праўду Настаўніка ў свет…

А Езус пісаў на пяску прутком,
зрэдку — на бурным моры вяслом,
ламаўся з братамі рыбкай адной,
Езус пісаў на нябёсах агнём…
Нарэшце, Крыжовым шляхам, Крывёй!

І наш рэдактар мае характар.
Ён мог бы рыфмай трашчаць, нібы трактар.
Мог бы старонкі лічыць, як бухгалтар,
і рэзаць вершы, як экскаватар…

Мог бы… але ён вялікі рэдактар,
таму прытвараецца, што сам ён аматар
у той мастацкай літаратуры…

Каб іншыя не паролі халтуры,
удзень і ўночы рэдактар сочыць…
Такі часопіс ніхто не сурочыць.

## Святлана Варонік

Святлана Варонік — лясны светлячок
з гарачымі сунічкамі шчок…

Нарадзілася,
як сонейка на татавым парозе засвяцілася
аднойчы —
за дзесяць содняў да купальскай ночы,
у першай квадры месячыка на сутонні,
за дзень, як паляцеў да зор святы Антоні…

І татаў апякун святы з Аркадзіі
быў надта верны Хрыстовай праўдзе…
Таму і ўкрыжаваны быў паганамі,
але з каленьмі пераламанымі…

Святлана —
ад соннага святла начных палянаў…
У голасе звініць начное рэха,
звіняць званочкі — каташкі арэхаў…
У вачах паэткі смяюцца зоркі,
яе слязінка грэе надвячоркі…

Смяшынка падае ў абдымкі Бугу,
там утварае вір і завіруху…
Вясёлкай выскачыць ад свайго берага
да Шчары і да Нінінага Белага…

Як ад пажару ў вялікай пушчы,
так разлятаюцца начныя птушкі…

Агонь душы ў паэзію ўдыхні,
Ідзі на дожджык, слова барані…
Збірай натхненне, гэта — Божы дар,
ляці за словам, Светлая, да хмар!

*12.06.2012, а 3-й гадзіне*

## Калыханка Ніне Мацяш

Залатая каляска з горкі падала…
У Белым возеры берасцянка плакала…

Беглі цені белыя па возеры,
цябе ў новую краіну перавозілі…

Ды занеслі цябе ў хатку тваю новую,
хатку цёмную, выгодную, кляновую…

Ды замкнулі дзверы ў хатку тваю ціхую,
калыханкаю тваёй закалыхвалі…

Там няма ні холаду, ні цяпла…
Ты цяпер смялейшая, чым тады была…

Усе болесці твае адбалеліся…
Пчолкі мёдзікам адгавеліся…

*19.12.2008*

## Эпітафія

Усміхаецца поўнач, як певень на плоце…
Пахаваліся нанач у старое стагоддзе…
Усім вядома дакладна — хто першы прыходзіў…
Усім вядома дакладна — не прачнуўся ніводзін…

Я не буду вучыцца ў сяброў на памылках,
памінальнаю знічкай згару на магілках,
іх любоў незямная і ёсць мне заслонай…
Узнімуся ўдагон аблачынкай замглёнай…

## Я дома

З вамі я, людзі!
Вецер у коміне закалыхае —
разбудзіць…

Мне ўсё пра вас,
вам пра мяне ўсё вядома…
Цёмным борам абкружана
шэрае поле —
я дома.

Вольная, нібы душа.
Лёгкая, нібы аблокі.
Самотная, нібы прастор вадаёма…
Па пратаптанай сцяжыне
ступаюць спакойныя крокі.
Звязана з людзьмі крэўнымі вязкамі —
дома.

Самай сардэчнай музыкай
са мной хлевушок рохкае…
Вочы цяплом затуманены —
я пры маме…
Адпусціла ў грудзях
заскарузлае, чэрствае, крохкае…
Абняла мяне Беларусь…
Запаланіла…
Трымае…

## Працярэблівацца

Працярэблівацца
разоркамі вузенькімі —
ад козыту каласоў
не бароніць шыі сарочка…

Мерачь сваё шчасце вусікамі
і барадавачкамі гурочка…

На басэтлях гарбузоў,
што на плоце павіслі,
браць басовыя ноты…
Захмялець ад костачкі

спелай вішні…
Усміхацца прадонню ясноты.

Са светлай галавы,
як ліпнёвае сонца,
сакаўное цёплае слоўца…
А яшчэ не выспалася галава —
пабягу, каб Нёман пацалаваў…

А каля нашай
на хвасце сарочыным хаткі
певень пасе па аўсе курапаткі.
Каля гары, саламянага стога,
сонейка ловіць зайчыка залатога…
А мы з сястрой матуліну слязу
адпусцілі — на сухую лазу…

Журавель цётчынай студні крылаты!
На манарцы Нёмана —
бору зялёныя латы…
Пад паветкай неба —
грому вясёлы рогат…
У людскі вадаспад —
з бацькавага парога…

## Дзе ходзяць басанож

Як гэта роднаму бору шанцуе:
полечку дождж каля елак танцуе.
Мокнуць на лузе лапкі грака.
Кошык лазовы, на донцы рака.

Ад валтузні з ветрам ахрып
плот, што малой мне падставіў свой хіб…
Хату і тату бярог ад дажджу…
Што ж я са словаў плот гараджу?

Маю адвагу зірнуць сабе ў вочы?
Жыць па-птушынаму, а не па-воўчы?
Кладку пакласці — сытых шкада…
Сыты, здаволены — гэта ж бяда!

Простыя дужыя з вёскі асілкі
косы змянілі на сенакасілкі!

Болей не менцяць на досвітку кос!
І не ратуюць дзявочы мой лёс…

Там ахмялеў ад багунніку вужык…
Купіны сонца падклаў ён пад вушы
ды сакаўныя дурніцы, ажыны
ніжа на гнуткі хвосцік вужыны.

## Тры жураўкі

Самотныя тры жураўкі
пасярод спалавелай атаўкі
пілі сырадой раўка
каля вёскі Ярылаўка.

Гарлякі-жалейкі, пілі…
Крыламі ўзбівалі палі,
як падушку ўзбівае маці…
Спінка далечы шэрай масці—

над праёмам нябёс, над пожняй,
над бязмерам даліны парожняй…

Таямніча, адчужана, родна…
Мімалётна і незваротна…
Бегчы згэтуль, карку на злом…
Ці схавацца пад шэрым крылом…

Беларусі камяк даўкі…
Не прайшла юнацкая спазма…
Шыя нівы, ссівелая пасма
крылаў сажалкі…
Тры жураўкі…

## Бальсан

Аб нашай долі паспрабую
сказаць, каб сонца не замгліць…
як за Пранцысю, прабабулю,
сустрэну золак у бары…

Нядзелькай светлаю хадзіла —
бальсан, сармацкае кадзіла,
казельчыкі, кацiну мяту
сушыць закідвала на мату…

Падол андарака каляны,
прапахлы кропам і каляндрай,
трапаўся, да ўсяго быў падкі,
ніколі не драмалі складкі…

Учэпіцца дванаццаць пальцаў —
Адэлька ды пяцёра мальцаў…
Памолімся за вас, дзяды,
у лістападзе — на Дзяды…

Шукаю зранку той раскошы —
сцяжыну ў бор працерабіць
праз росы, баравік у кошык —
крамяны, шчыры, не згубіць…

Губамі даспяліць суніцу…
Шчасліва стомленай згубіцца,
нібы саломцы ў збажыне…
Згарэць, як сонейку ў акне…

## Post Scriptum

Стала крыжам з дубовае плахі…
Узяла ўнука Янку на рукі…
Ды паслухаю — як пяюць птахі…
Не тапчыце песень, унукі!

Не паставіў ніхто крыж дубовы?
Пахавана, жывымі забыта?…
Унучак-вецер тутэйшыя словы
ціха йграе на дудачках жыта…



Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гродзенскага педінстытута імя Янкі Купалы ў 1962 годзе. Працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Збірала Музей Максіма Багдановіча і была яго дырэктарам у 1995–1998 гадах. Кіравала Гродзенскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў з 1993 па 2004 год. Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы 1984 года за кнігу вершаў «Дзе ходзяць басаног». Кнігі вершаў: «Дзявочае сэрца», «Нёман ідзе», «Запалянкі», «Доля», «Браткі», «Ты — гэта ты», «А на Палессі», «Снапок».



АНАТОЛЬ БРУСЕВІЧ

*У ЧАКАННІ СВІТУ*



Вершы памерлі.
Словы засохлі.
Ружанец свабоды не адмаўляю.
Я проста жыву.
Пасля проста здохну.
А трэцяй дарогі
Ніхто з нас не мае.



У доме маім шэрым,
Які збудаваў не я,
Мне адчыняе дзверы
Жанчына, але не мая.

У гэтым змрочным сусвеце,
Поўным халоднай красы,
Гуляюць чужыя дзеці
І мой ненароджаны сын.

## Сястра

Сваю малітву падару сястры —
Жаночы голас Бог хутчэй пачуе
І, можа быць, пашле свае дары,
Тады і я таго-сяго скаштую.

А зрэшты, я даўным-даўно адвык
Ад Божай ласкі, веры і любові.
Я ў іх загнаў душы іржавы цвік,
А потым тост узняў за іх здароўе.

Сваю малітву падару сястры,
Бо хто яшчэ памоліцца так шчыра?
Ні ворагі, ні лепшыя сябры…
А сэрца плача — хоча зноў у вырай.

## Трыялет

Не трэба саромецца слёз.
Яны, нібы дождж у спякоту,
Адмыюць ад пылу самоту.
Не трэба саромецца слёз.
Гаворыць мне здзекліва лёс,
Душой выціраючы боты:
«Не трэба саромецца слёз.
Яны нібы дождж у спякоту».



Мой свет разарваны на тысячу сказаў.
На тысячу словаў разбіта маўчанне.
Мой Божа, навошта ты дорыш адразу
Так многа адценняў і ценяў адчаю?

Мой свет расцягнулі на сотню прыгожых,
Вясёлых і добрых сяброўскіх усмешак.
А што ж узамен? Абыякавасць, пошласць
І маскі з пустымі вачніцамі вершаў.

Мой свет разваліўся на тры элементы —
Каханне, надзею і веру ў Самоту,
А я пад гарачыя апладысменты
Знікаю пад слоем жыццёвага лёду.

## Твой позірк

У келіху з падвойным дном,
З якога п'ю звычайна шчасце,
Твой позірк пеніцца віном
Спакусы, слодычы і жарсці.

Нібыта чорны аксаміт,
Ён напаўняе прахалодай
Душу, замененую ў подых,
І выдае жыццё за міт.

Твой позірк велічны, бы верш.
У ім і сонца, і аблокі.
Ён і прыгожы, і высокі,
Як сотні Эйфелевых веж.



Я разарву залаты пярсцёнак
Соннай арбіты адзінай зоркі,
Каб прачытаць у вачах тваіх цёмных
Светлае шчасце і новы золак.

Я разарву кайданы пачуццяў,
Каб аб’яднаць імгненне і Бога.
Толькі шкада, што нас не пачуюць
Там — на нябёсах, сумных і строгіх.



Кахацца на стале пад позіркам Налкоўскай
І іншых класікаў літаратуры польскай…
Кахацца на стале, калі даўно за поўнач,
Каб месячным святлом усю цябе напоўніць…
Кахацца на стале сярод забытых вершаў
Да ранка, покуль сонца промнем першым
Не ажыве ў табе салодкім сном…
А потым зноў кахацца, зноў і зноў…
А потым на таксі праз стогн пустых праспектаў
Ляцець насустрач дню, разгубленаму лету,
Ляцець, каб у святле канонаў, догмаў, рацый
Кахацца на стале, між пыльных дэкарацый…



Усё прапала, знікла, як у небе
Знікаюць прывіды ліловых гарадоў.
Бывай, мая прыгожая паненка!
Твой рыцар на вайну апошнюю пайшоў.

На той вайне няма ніякіх правіл
Апроч аднога: забіваць чужое «я»
І быць сабой сярод сяброў крывавых,
Аж покуль зайздрасці не выпаўзе змяя.

Усё прапала, знікла, нібы рэха,
Што тоне між крыжоў і плітаў на кладах.
Бывай, мая паненка! Я паехаў
У змрок сівых шляхоў, у сплін і дэкаданс.

## Постмадэрністам

Сумныя вершыкі вокнаў
Восень дажджамі закрэсліла.
Пішуць паэцікі хоку —
Пэўна, жывецца ім весела.
Вожыкі ў вершах і коцікі
Плаваюць паралельна
Вокнам, закрэсленым восенню,
І ўсё не топяцца, шэльмы.



Восьмы том
Неагучаных правіл і ісцін —
Вось мой дом,
Без акон, увахода і выйсця.
За аблок
Закацілася сонца карэта —
Задзяўбло
Асвятляць шлях сляпога паэта.

## Радзіма

Мужчыны, жанчыны і іхнія дзеці,
Бы лакам, пакрытыя водбліскам смерці:

Зялёныя твары, чырвоныя вочы,
А лёс, калі не жабрачы — сірочы.

Усё рассычаецца ў багне ілюзій —
Сваё і чужое, пачвары і людзі.

І толькі Радзіма, забытая дзесьці,
Адна не пакрылася водбліскам смерці.

## На могілках

Тут няма цішыні, як думаюць многія.
Тут можна аглухнуць ад кожнай літары.
Іду між магіл і не бачу помнікаў.
Бачу скаргі, і плач, і да Бога малітвы.

Тут няма цішыні. Цішыня схавалася.
Цішыня спачывае на тлумных вуліцах.
Разбіваюцца з гулам каменныя хвалі
Аб скалу цішыні. Няўжо вы не чуеце?



Дарма спадзяёмся, што ў край гэты прыйдзе вясна.
Нашто ёй вяртацца туды, дзе нікога няма?

Вясны не чакаюць магілы, што спяць на кладах.
Ім цёпла і так у чырвона-зялёных імхах.

Наўрад ці патрэбна ім сонца і спеў жаўрука.
Іх думкі вартуе іржавае вока замка.

Што ў край гэты прыйдзе вясна, спадзяёмся дарма.
Пра край гэты мёртвы забылася нават зіма.

## У чаканні світу

Іду праз ноч, на пах праклятай ночы,
Іду на крык, задушаны знарок,
Туды, дзе цемра засцілае вочы,
А душы заплятаюцца ў клубок.
Іду туды, дзе людзі могуць лёгка
Закрыць маўчанне на замок ілжы
І падзяліць нябёсы на аблокі,
На Бога і на шэрыя дажджы,
А потым святкаваць сваю паразу,
Бы Новы год, за шклянкаю віна.
Іду да вас, нашчадкі подлых блазнаў,
Каб вашу ноч усю дапіць да дна!






Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Гродне. Скончыў філалагічны факультэт Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, дзе працуе дацэнтам кафедры польскай філалогіі. Аўтар зборнікаў паэзіі «Дуэль», «Падаю ў неба», манаграфіі «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча». Вершы перакладаліся на польскую, рускую, літоўскую, англійскую, грузінскую мовы.

АНАТОЛЬ ВАЛЮК

## Эдынбургская крэпасць

Над мора прасторам,
Над горным абшарам,
Арліным гняздом на скале,
Магутная крэпасць
Сягнула за хмары —
Ў іх вежы хавае свае.

Стуль гукі валынак
Да нас далятаюць
І стрэлы апоўдні гармат, —
Шатландыі ў ёй
Каралі спачываюць
І сэрца Марыі Сцюарт.

Са сцен яе горад
Здаецца мізэрным,
А ў нетрах
Цвярдыні святой
З дня ў дзень па памерлых
Спраўляюць малебны
За душаў іх мір і спакой

Там ёсць Пантэон
Пры будынку палаца,
Дзе спісы вялізарных кніг
Захоўваюць кожнае імя шатландца,
Які след пакінуў і знік.

Тут ёй сваю міласць
Даруе Ўсявышні,
І повязь мацуе з вякамі…
Стаіць на ўзбярэжжы,
На стромым узвышшы,
З вежамі-маякамі,
Магутная крэпасць
Святло і надзея
Шатландыі горнага люду.
Дзе ў моры Паўночным,
Як шторм і завея,
Тонучы прагне цуду.

Прагнуў і я, як маліўся да Бога,
Юнацтва ж займаўся ранак, —
Устаў каб з памерлых наш волат-нябога —
Наваградскі замак.
Час на імгненне спыніць немагчыма, —
Ды ў сэрцы жывуць успаміны:
Ацалелая крэпасць стаіць прад вачыма
І нашага замка руіны.

## Моглiцы

Мясціна за вясковымі хатамі —
Могліцы называецца.
Пад арэшніку густымі шатамі
Там дзіўнае адбываецца.

Невялікі курган ля балота,
Перыметрам сорак на дваццаць,
Адбіць можа любую ахвоту
На ім заставацца.

Выспа зялёная ў моры жытнёвым
Частуе буйнымі арэхамі…
На ёй вельмі хутка «сезон прамысловы»
Мой скончыўся некалі.

Там,
На ўскраі арэшніку — вір жыцця,
Асалода і слыху і зроку,
А ў глыбіні — замагільная цішыня,
Абдымкі холаду, змроку.

Прэлага лісця і цвілі пах,
Дубцоў фасфаруюць косці.
Сэрца міжволі агортвае жах,
Адчуваеш прысутнасць чагосьці.

Пасмамі з дрэваў звісае мох,
Павуцінне — начыннем з кроснаў.
З-за іх фіранкі паганскі бог
Глядзіць непрыязна, злосна.

Твар яго чэсаны з валуна,
Воспай які пасекла.

Пустая вачніца адна,
Другая — свеціцца блекла,

Калі ж прыпадымае яна
Спрасонку цяжкое века,
Тысячагоддзяў знікае сцяна,
Адкрывае дарогу ў пекла.

А там ачышчальны палае агонь,
Пульсуючы бесперастанна…
Сіл не хапіла сягнуць ва ўлонь
Дзеючага вулкана.

Не ўперад зрабіўшы крок, а назад,
Высыпаў торбу арэхаў,
Што рыхтаваў на свята Каляд,
Анёлам Хрыста на ўцеху.

Прынёс ахвяраванне сваё,
Ды не ўлагодзіў дзіва…
Моцна ўпілася ў сэрца маё
Паганства крамнёвая дзіда.

Ідал паставіў сваё таўро,
Не выпускае з лапішчаў…
Палаюць на картах маіх таро
Руны старога капішча.

Таму на Дзяды, пакуль зніч гарыць,
Грэе прашчураў грэшныя душы,
Каб нехрышчоны свой род не забыць,
Багам двум маліцца мушу.

І за палеглых, калісьці, даўно,
Да Хрыста, да Алаха, да Буды, —
Вогнішча ўецца і п’ецца віно,
Згодна з вучэннем вуду.

## Цягнік жыцця

У купэйных вагонах вёз
Радасць і смутак,
Боль і надзею,
Пад перастукі
Вагонных калёс
Думку: «Старэю…»

Мільгацелі паўстанкі,
Зоркі плылі,
Сонца ўзыходзіла,
Як і трэба,
Грукацелі
Масты-гарбылі,
Смяялася, плакала
Неба.
Імкліва на спусках,
Павольна — ў пад'ём
Цягнуўся
Вагон за вагонам,
Віхляў прывітальна,
Сабачым хвастом,
Абшарам белым, зялёным.
Кожны свой крок
Папярэджваў гудком.
А тут сярод ветру гулу
Адчыніліся дзверы.
І скразняком
Шчасця білет здзьмула.
Сонца памеркла,
Не бачна зор,
Сардэчная халадрыга,
Цягнік чарапашыным ходам
Прастор
Адольвае,
Што барыга.
Месяц не свеціць,
Зорак няма.
Сонца не так ужо
Грэе.
Напэўна, на сэрца
Лягла зіма,
Бо на душы —
Завея…

## Львоў… Лычакоўскія могілкі

У Івана Франко магіла на ўзвышшы.
Каменячосам мастацкай епархіі
Ён магутнай кіркою ў выглядзе крыжа
Скалу разбівае Аўстрыйскай манархіі.

З нішы халоднай, сырой капліцы
Апостал Павел зайздросціць бязбожніку —
Плямамі цвіль на шырокай туніцы,
Цюль павуціння на малітоўніку.
Крышыцца выраб з камення і туфу,
Сонечны німб на скляпенне ўсклаўся.
Майстра бяздарны зляпіў Іуду:
Святы, бязгрэшны, не атрымаўся.
Цела апостала з гліны — у мроях.
Жару, агню і вуголля прагне.
Па багаборцах, а не героях
Правіцца меса і ладанам пахне.



Мне сягоння не весела,
Нудна вецер пяе.
Ноч фіранкай завесіла
Змрокам вочы мае.
Зорка ў хмарах схавалася,
Доўга цягнецца час.
Сэрца не ўратавалася
Ад любові да вас.



Змаўчаў ізноў, стаіўшы боль, адчай,
Замкнуўшыся ў сабе на тры засовы,
Калі пачуў аднойчы: «Выбачай…
І не крыўдуй…» — атрутлівыя словы
Я не суддзя каханню, пачуццю,
Надзеі, здрадзе, хітрасці пачварнай,
А ў рэшце рэшт, і смерці, і жыццю
На гэтай сцэне звыкла тэатральнай.

## Паэзія

Жанчына, якая тлуміла розум,
Прытуляла да сэрца не мяне аднога,
Аддавала сябе небаракам розным,
А іх было многа, ох, як многа!..
Яе дабрыні хапала на ўсіх:

На бяззубых старых,
Юнакоў з бяскрылымі мэтамі.
Аб самым інтымным гутарыла ўслых
З прахадзімцамі і прайдзісветамі.
Суцяшала бязвольных, вучыла жыць
Баламутаў з душою гнуткаю.
Мог з выбраных кожны яе палічыць
Звычайнаю прастытуткаю.
Прадавалі, куплялі яе, як тавар,
Мянялі на срэбра-злата,
А скарыстаўшы, плявалі ў твар, —
Такою была расплата.
Ды мустангам рванулася з путаў яна,
Не стала «коніка ў хамуце».
Па галавах б'е ад звана да звана,
Сучаснасць нясе на хрыбце.

## Курган

На высокія кронаў шаломы
Зляцеліся вораны.
Зруйнаваны курган невядомы,
Плугамі завораны.
Малодшы закрумкатаў:
— Чаго было перціся?
Сыцейшым жывот не стаў
Ад касцей ды попелу нехрысцяў…
— Дур-р-рак! — старэйшы абсёк, —
Дзюбашлёпала,
Жыць будзеш гадоў пяцьсот
Ад гэтага попелу…

## Балада пра пошукі рэха

Гадзінамі мог ён рэха шукаць
У пустэчы, паблізу лясоў,
А потым начамі трывожна спаць
Пад калыханку соў.

Была пустэча — што вылізаў смоўж,
Дэфект быў зямлі такі.
Разбягаліся голыя ўзгоркі ўздоўж
Лесу на два бакі.

Ад дрэваў сцяны адбіваўся гук,
Прастора яго паглынала.
Рэха лясное пачаткам навук
Пытліваму розуму стала.

І вось на месцы пустэчы той,
Для гульняў пляцоўкай была каторая,
З карпусамі, антэнамі ў гмах велічынёй
Вырасла абсерваторыя.

Юнаком ён за пультам яе сядзеў —
Рэха шукаў сярод космасу нетраў,
Шчаслівейшы самы з нямногіх людзей,
Свайму прызначэнню верыў.

Радарамі шчупаў Сусвету абшар,
Пульсары далёкія слухаў.
То месяц халодны, то сонечны шар
Час пераможна рухаў.

Бязмежнасці ён адваёўваў сакрэты
І радасць адчуў адкрыцця.
Аднойчы прыняў з невядомай планеты
Маленькае рэха жыцця.

Галоўнай падзеяю стаў касмадром.
Выпраўляла пасланца Зямля…
Тры тысячы зорак пакінуў ён
За шлейфамі карабля.

Калі ж планеты той дасягнуў,
Адбыўся абмен ідэй,
Праз мегафоны рэха пачуў
Ад кожнага сэрца людзей.

## Дзікае балота

Нізіннае, заходзіцца ў вадазборах рэк Ясельда
і Нараў на тэрыторыі Пружанскага і Свіслацкага
раёнаў, пл. 21,7 тыс. га.

Гэта нешта такое вялікае,
Але дзікае, вельмі ж дзікае.
Тут без спрыту не ступіш і кроку,
Трэба нораву, трэба і зроку,
Трэба спрыту галоднае жабы,

Каб здабыць нешматлікія скарбы.
А народ наш за шчасце вялікае —
У балота, балота Дзікае,
Як наспее пара журавінаў,
Так і пнуцца туды павінен.
Бо ніхто за яго, небараку,
Не пракорміць нават сабаку
За ягоны заробак дзівосны —
Толькі ягаднік, толькі сосны…
Яны вешкамі мкнуць да сушы.
У балоце гібеюць душы,
У балоце надзея гіне,
Што дзікунства яго пакіне.

Беларусь — гэта нешта вялікае,
На балота падобна на Дзікае.
Тут, у гэтай згадзючанай багне,
Дзвесце год мураўёўшчынай пахне
Тут насельніцтва амаль палова
Адраклася ад роднага слова,
А нашчадкі забойцаў і катаў
Штодня валяць крыжы Курапатаў.
Тут на выспах падману і здрады
Халуі пазаймалі пасады
Ад балотнае твані-стыні,
Сталі выкапнямі жывымі.
Тут халодных віхураў замець
Замарожвае нашу памяць…
Эх, балота, балота дзікае! —
Ты прамёрзлае, ты бязлікае,
Сваёй багнай мяне гушкаеш,
Ты прыходу вясны чакаеш.
Запалаюць паходні чароту,
Але ведаць душа ўсё прагне:
Ці мы выберамся з балота,
Ці патонем у яго багне?..






Нарадзіўся ў 1961 годзе ў вёсцы Вішнеўка Зэльвенскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы. Настаўнічаў, працаваў у Свіслацкай раённай газеце. Друкаваўся ў зборніках «Маладыя галасы», «Верш на Свабоду», «Зоры над Зяльвянкай». Выдаў зборнік вершаў «Музыка вятроў». Жыве і працуе ў Свіслачы.

УЛАДЗІМІР ВАСЬКО

## Сустрэча

Хто ты, хто ты,
чалавеча?
Ты ідзеш з якога
веча?
Ты паэт ці мо
філосаф?
І чаму з чырвоным
носам?
І чаму ў мароз
без шапкі?
Снег чаму бярэш
ў ахапкі?
І чаму ў кішэнях
пуста?
І смярдзіш нібыта
дустам?
Чый ты сын
і чый ты бацька?
І чаму пад вокам
цацка?
Ты ідзеш дамоў
ці з дому?
Хто ў цябе адняў
І мову?
Што ты, што ты, што ты
скажаш?
На які нам шлях
пакажаш?

## У непагадзь

Бы воўк, ці толькі
падалося,
мільгнула штосьці
між кустоў.
Ах, гэта сырасць,
гэта восень!

Ах, гэта неба
ў сто пластоў!
Хачу да нітачкі
прамокнуць.
Хай дождж панура
лье і лье.
Эх, каб дзяўчыну
ў шчочку
цмокнуць
і прасушыцца
ля яе!



Нічога вечнага няма,
а дух мой вечны,
і будзе ён,
як дуб надрэчны,
стаяць, дзе рос
і бегаў я.
Нічога вечнага няма?
Ці ўсё адны пераўтварэнні?
Прысядзь мне зараз
на калені —
і летам зробіцца зіма.

## Клубок

Разблытваю клубок
былога лёсу,
выпроствaю крывуліны
дарог.
Мне шмат чаго ў жыцці
не падалося,
не ўсё зрабіць я,
што задумаў, змог.
І сам у гэтым добра
вінаваты,
І перашкоды розныя
былі.
Здаралася, што быў
наіўнаваты,
дзе іншыя сцяну

ўзламаць маглі.
Разблытваю клубок.
Ды пазнавата.
Былога не вярнуць.
Не! Не вярнуць…
Стаіць мая у задуменні
хата,
два раўчукі каля яе
бягуць.

## На ўзгорку маладосці

…А вось той бераг,
тыя Пышкі —
лясны прыгродзенскі
масіў.
Гляджу адсюль, як быццам
з вышкі,
на далягляд рачны
і сінь.
Тут мы студэнтамі
гулялі.
Як голас наш тады
звінеў!
Як моцна сэрцы
трапяталі!
Якім быў смех,
якім быў спеў!
Дзе вы цяпер,
мае сяброўкі?
Дзе вы, найлепшыя
сябры?
Стаю…
А поруч вецер
гонкі
І ўздых загадкавы
ў бары.



Нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Ліпічанка Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў Гродзенскі педінстытут імя Янкі Купалы. Настаўнічаў, працаваў у рэдакцыях раённых газет. Аўтар паэтычных кніг «Прасветленасць», «На схілах берагоў», «Кругаварот жыцця». Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Лідзе.



ЮРКА ГОЛУБ

## На кургане

У бездань падаў цень груганны
І нанач сонца замыкаў,
Каб дуб застаўся на кургане,
Бадай, апошнім з магікан.

Жарства апальвала падэшвы:
Пад сподам гневаўся вулкан.
І лёс нябёс сабой завершваць
Жадаў жытнёвы акіян.

Як ледавік на першапутак,
Сюды спаўзаў груваcткі змрок.
Курган раздзерці — шалапутаў
Аднекуль знесла назнарок.

Ды ён паўстаў, калі світала:
Апёкі. Подых. Знакі. Звыш.
Ды толькі дуба не хапала
Між ім і воблакам. Паміж!

Кургане, бачым: вечнасць долю
Тваю захутала ў шынель
І дуба, што на подзвіг здольны,
Ізноў пакліча зашумець.

## Наскальнае

Ведалі князь і смерд:
Чыншу чакай ад ліха.
Абодвух скруціла смерць,
Як круціць мароз адлігу.

Хавае наскальны знак,
Як дзёр ён прыгонным пальцы.
У пальцах граніт размяк:
Лёзам не роўня — пяльцы.

Прагне натоўп злічыць
Даўніх прыкмет даніну.

Шлях, бы страла, злучыў
Воблака і даліну.

Красу ашчаперыў час.
Кнот ледзь ліпіць кялейны.
Над безданямі імчаць
Скроўленыя алені.

Знік апошні бандыт?
Бойкам сканаць свядома?
Раіць яго не будзіць
Разьбяр адсюль невядомы.

## Снежыцца...

На ходніку ўраздроб
Абцасікі гучалі.
А побач гурбы гроб
Завеі круг ганчарны.

Пад дахам вераб'і
Спынілі сойм картавы.
Замерз агонь рабін —
Заложніцаў квартала.

Спацелі навылёт
І ў пасталах пасталі
Байцы, што нішчаць лёд,
Ажно хрумсцяць суставы!

Закутак і куток
Названы паімённа.
Вунь служыць за каток
Балея стадыёна.

У вока — шусь — запаў,
Бы ў ясным леце спіца,
Дамок мірскіх забаў
Запешчанай сініцы.

Відаць, з птушыных мэт
Цярушыць дрэва іней.
І тлее той умэнт,
Распараны, на спінах.

Выгнанніца выгод,
У сквер загляне поўнач,
А з ёй дзеля прыгод
Мароз дружбісты поруч.

Завулак. Снегапад
Ідзе сюды, нядрэмны.
Вярнуць яго назад,
Ці заступіць — дарэмна!

## Згуба

1

Кіраваўся адзін. Змяркала.
Злева хмара на дуб апала.
Праваруч вунь трава паўстала,
Як нашчадніца ледавіка.
І чаму вось цяпер прыпала
Сведкам стаць, як травы не стала,
Нібы згубленага чарнавіка?

2

Прачынаецца ліст. Світае
Над ракой, дзе вада святая.
Дзе знікала трава — атава
Сыпле росы, бы з ручніка.
На нябеснай лаве актавы
Спіць салоўка. І ёсць падставы:
На падушцы чарнавіка.

## Ранак-світанак

Раса адорвае сабой
Капытцы збуджаным ягнятам.
Хітае згодна галавой
Пастух — ягнятак памагаты.

Палезла сонца праз драты
Атрэсці з шатаў сон кашлаты.
Разявіць вольніца раты
У прагных гнёздах птушанятам.

Збірае бусел скарб з балот
Пінцэтам вострым у куфэрак.
А певень выбіўся на плот —
На шыі ірвануць каўнерык!

Чакае лета перамен,
А іх наўрад ці будзе лішак.
Хапаюць конікі прамень,
Каб на кавадле лугу сплішчыць.

Ах, людцы! Гэтулькі забаў
Аднесла рэха на адхоны.
…На плоце пазяхае збан,
А значыць, што не спіць ахова.

## Адвольнае аб колах

Варушыць губамі дождж —
Пагоды свядомы здрайца.
Дажджу непадлеглы «додж»:
На «доджы» вайне здарацца.

…знаўца забытых меж…
…творца скразных барознаў…
Трактар! Яму найперш
Выльецца помнік з бронзы.
…заручанае рулём…
…аблашчана кола полем…
…не скрадзенае над раллёй…
(Па водгуках «Інтэрпола».)

…узніклі зусім няўзнак
Былога калгаса колы.
На колах сядзіць вазак,
З табою аднакі кольвек.
…драбіны, дзе сноп у сноп…
Ды зіркае слоўнік коса:
Спыніся, мілосны! Стоп!
Не колы — а ўсё ж! — калёсы.

…заўвагу здаю ў набор…
Кіруе народ на колах
Туды, дзе ў званах сабор,
Дзе ў квет увабрана школа.

…прымроіўся млын: завоз…
З гняздом развітаўся жораў.
Схапіўся ячмень за вось.
На кола падобны жорны.

…раскручваўся з-пад калёс
Пыл пад наглядам глогу.
А рух пераняў, нябось,
Круглы, як кола, глобус.

…прываблівае аспект
(Магчыма, не ўсім вядомы):
Каб вынайсці веласіпед,
Звярнуўся да кола homo.

## Мазаіка з акна

…а падалося: уваскрос,
Каб да абсягу прычыніцца.
А тут, прамоклая наскрозь,
Вітае сонца аканіца.

…у квет ступіў камлісты сад,
Квачом пабелены па пояс,
Нібы зайшоў на новы сайт
(Калі шукаць з сучасным повязь).

…шпакі шліфуюць пёркі ў рад:
Аблюбавалі доўгі провад.
А хто пустой шпакоўні рад,
Калі прымерзне на Пакровы?

…згінае шыю журавель
(Ён цудам выжыў. Дажывае…),
І быдла з раніцы раве:
Калі раве — дык плоць жывая.

…ахвяру сочыць дрэмны кот —
Сабакі невыносны вораг.
Калі было б наадварот,
Дык хто застаўся б у фаворы?

…спыніўся нанач грузавік,
Гразёй заляпаны па кузаў.
Прылашчыць шапку поўні цвік
На вушаку нябеснай кузні.

…збіраць даніну выйдзе змрок:
Абдымкі вольніцы пазычыць.
Іржавы вечнасці замок
Не замыкаецца па звычцы.



Слізне маланка раптам
Расколінай на камень.
Не ведаюць пра страты
Дзяўчаты з юнакамі.

І з імі неба побач,
І вечаровы подых,
Відаць, з нямарнай спробай:
Яднаць дзяцей прыроды.

Абдасць расіца жарам:
Адна з тутэйшых звычак.
Рыпіць пясок пажарны:
Нябіты чаравічак.

Сабе стварыла коптур
Руладамі гаёўка.
Мастак рабіць падкопы
Пад сэрцаў гай салоўка.

Атуліць рунь завея.
Не змеркне згадка ў часе.
Бо што яе заменіць?
Наўрад нуда чыясьці…

## Пастараль

На лапці лыка дралі,
І дзёрся кнот да столі.
На дольнай пастаралі,
Бадай, найболей волі.

Ляцелі кветак стужкі
Абвіць у гаі постаць.
Пастух гарнуў пастушку,
А воблакі — апостал.

Няма дакладных звестак,
Калі біблейскі статак
Агледзеў тут палетак
І скуб траву ў дастатак.

У свеце з шалам-ровам
Не ўразіць вестка тая,
Што ў Індыі карова
Пасецца як святая.

Жанкі мясцінаў наскіх,
Дый цалкам люд тутэйшы,
Трымаюць браму насцеж
Кароўкам сама лепшым.

У росным звоне словы:
Няма ад прагных спасу.
Пастух пастушцы мовіць,
А статак — самапасам.

Заўжды замова — нова.
Прыняць гатова зноўку
Пярэстую карову
За божую кароўку.

Аперлася на локаць
Пастушка на мятліцы.
Мятліцы павалока
Не супраць паваліцца.

Разбежыста пасталі:
Трымаюць посах просты.
Пастух — на пастаралі.
На воблаках — апостал.



Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта працаваў на Гродзенскай студыі тэлебачання і ў абласной газеце «Гродзенская праўда». Сябра Саюза пісьменнікаў з 1971 года. Выдаў зборнікі паэзіі «Гром на зялёнае голле», «Дрэва навальніцы», «Векапомнае поле», «Помню пра цябе», «Сын небасхілу», «Багра» ды іншыя. Узначальвае абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў.



МІХАСЬ ГУБЕРНАТАРАЎ

## Элегія

Гэта не расстанне — развітанне
Назаўсёды ля маўклівых дрэў.
Дагарэў касцёр майго кахання,
Толькі я яшчэ не дагарэў.

Дык пакуль не журацца нябёсы,
Русаю славянскай галавой
Пакланюся будучаму лёсу
На зямлі і там, за сінявой.

Не здаюся гаркаце жыццёвай,
Ды яно ўсё ж хочацца святла:
З добрых вуснаў — беражнага слова,
З сэрца — чалавечага цяпла.

Ды яно ўсё ж хочацца так веры,
Хочацца, як трэлі салаўя,
Каб яна мне адчыніла дзверы —
Мілая. Адзіная. Мая.

## Снежань

Ішлі, абняўшы завіруху,
Якая русаю плыла.
Хапала ёй красы і руху
Для беларускага сяла.
Не горача, але кахала,
Купальскім цешыла вянком.
Як маладым, нам павязала
Завея рукі ручніком.
Дык пасвятлей, душа, як трэба,
Бо на зямлю, дзе я і ты,
Снягі ідуць, а можа, неба
Нам шле вясёлыя лісты.
Паслалі з пекла іх ці з раю —
Не стану думаць і гадаць.
Цябе ў сняжынках абдымаю,
Нікому не хачу аддаць.
Душою лёг бы на аблокі,

Каб там з табою шчыраваць.
Калі гараць румянцам шчокі,
Спакусна ў вусны цалаваць.
Ідзі, мой снег, ідзі на ўдачу —
І стане любая другой.
Пакінь без смутку і без плачу
Дарогу ў сэрца дарагой.
З табою ўсё ў жыцці падзелім,
Тулюся да грудзей тугіх,
Нібы не снег, а белы вэлюм
З усмешак падае тваіх.
Адзінага душа хацела —
Каб стаў шырэй для вальса круг,
Каб летам, дзе ты харашэла,
Яшчэ быў зелянейшы луг.



Калі махну на ўсё рукою,
Калі зарана паміраць,
Каб жыць душа ў душу з табою,
Я еду лёс свой выбіраць.
Дык добры дзень, Бераставіца!
Тут многа сонца і вятроў.
Я буду цар, а ты царыца
Сярод лугоў, густых бароў.
Нябёсы — для мяне карона.
У кветках луг — зялёны трон.
Як варта, дуб стаіць зялёны —
Ніхто не возьме у палон.
Але ўзяла мяне вачыма
Пад сіні колер васілька
Бераставіцкая дзяўчына,
Збірала кветкі для вянка.
Маёй ты будзеш, маладая,
Як зацвіце ў палях лянок,
Як ляжа зорка залатая
Апошняй кветкаю ў вянок.

## Не забывай

З табою стала мне лягчэй.
Хоць і журуся я парою.
Не забывай маіх вачэй,
Майго вясёлага настрою.
Я рукі да цябе прасцёр.
Адна жыве ўва мне турбота:
Гарачых вуснаў, як касцёр,
Не забывай, мая пяшчота.
Люблю цябе і родны край,
Ляту здалёк да чарнабровай,
Мяне маўчаннем не карай,
А падары, як промень, слова.
Цябе да сэрца прытулю,
Душа твая з маёй сальецца.
Любі мяне, як я люблю.
Цалую —
вечнасць адзавецца.






Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Ангелаўка Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Настаўнічаў, выкладаў у вышэйшых навучальных установах. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг «Паверка», «Пакланенне агню». Жыве ў Гродне.

АЛЕСЬ ЖАМОЙЦІН

## Каюся

Ад кайданоў векавых вызваляюся;
Абярэг дзядоўскі на шыю вешаю;
Перад Богам і Родам каюся,
Што раней не паўстаў тут вежаю.

Што раней прадзядоўскім дзеканнем
Не паспеў з сэрца іскру высечы;
Што сваім памяркоўным «чеканнем»
Закалыхваў наўкола тысячы.

Сёння з сонным былым развітаюся,
Скіну ў полымя боязь трусіную.
З родным светам сваім павітаюся;
Родным словам з маёю Радзімаю.

…Кола белым агнём замкнулася;
Хвост кусае ад злосці га́дзіна;
Прамаўляю: душа пачулася
Гучным рэхам у хоры прадзедаў…

## Я іду не адзін

Па замшэлых мурах —
Друзах велічных замкаў —
Пралятае, як птах,
Вецер даўніх даўнін.
Па каменных слядах
Прадзядоўскіх учынкаў
Выкіроўваю свой
Незалежнасці шлях.
Маю ў сэрцы Хрыста;
Мову родную маю.
Каб чужынцам не стаць,
Кожны дзень прамаўляю.
Вецер даўніх даўнін
Мне сядае на плечы.
Я іду не адзін —
Беларусам на веча.

## Святло душы маёй — Кушляны

Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,
каб не ўмёрлі!

*Ф. Багушэвіч*

Святло душы маёй — Кушляны…
Мне тут адчынены Сусвет.
І Богам шанс падараваны:
Ісці за мудрасцю услед.

Рука упарта вершы піша
На мове роднае зямлі,
Якой не здрадзіў НАШ ФРАНЦІШАК;
І я не здраджу — хоць смалі…

На гэтым сонечным узвышшы
Я буду хлеб свой здабываць;
І да чужых, і да найблізшых —
Па-беларуску прамаўляць!..

## Я твару спакой у душы сваёй

Я твару спакой у душы сваёй;
Зацкаванаму дню — пагібеллю.
У душы — спакой і вакол — спакой;
Словам з цемры дарогу выбелю.

Нада мною — Бог, і са мною — Бог;
Супраць — хто на дарозе знойдзецца?..
Запраданцам стаць калі ты і змог —
Сваёй злосцяю сам і зойдзешся…

Я твару спакой у душы сваёй;
Зацкаванаму дню — пагібеллю.
У душы — спакой і вакол — спакой;
Мо яшчэ каго з цемры выбаўлю…

## Гаючае

Палае паходня
Гаючай жывіцай;
Коні імчаць.

Цемра спрабуе
Шалёнай ваўчыцай
Шлях пераняць.

Да сонца і ветру
З нуды і бязволля;
Скінем адчай…

Толькі наперад!
Палае паходня;
Коні імчаць.

## Покуль словы ў нас не ўмёрлі…

Коні, коні; колер чорны
У варонаў на крыжы.
Дзе той вершнік, што разгорне
Сцяг ля роднае мяжы?!.

Коні, коні; шляхам зорным, —
Пыл не ўздымуць капыты;
Дзе вяшчун той непакорны,
Што пакліча з нематы?!.

Лёсы падаюць, як знічкі,
Між чужынцаў і бадзяг.
І ўрастаюцца, як дзічкі,
У пакінутых садах…

Коні, коні; колер чорны
У варонаў на крыжы…
Покуль словы ў нас не ўмёрлі, —
Вершам б'юся на мяжы!..

## Прымаю час і ўсе пакуты

Прымаю час і ўсе пакуты,
Якія мне прызначыў Бог.
У гэтым часе я прыкуты
Да ўсіх маіх шляхоў-дарог.

І да шляхоў, і да сцяжынак,
Дзе тчэцца Сутнасць-Чалавек;

І да грахоў, і да памылак,
І да бамжоў, і да калек.

Дзе радасць кончыцца слязамі;
А слёзы радасць прывядуць;
Дзе людзі поўзаюць кратамі
І за відушчымі не йдуць…

Я час прымаю і пакуты,
Якія мне прызначыў Бог.
Я гавару, каб быць пачутым;
І не сыду з маіх дарог!..

## Шкурнік і лекі

Выпіў шкурнік скураціну —
І прадаў за грошы душу.
Так заўважна аскацінеў,
Аж настырчыліся вушы…
Ён мацнейшаму нашэпча
На суседа і на брата,
Ён смятану кубкам хлебча
На Іудаву зарплату.
Госця ў хату запрашае
Толькі тога, што патрэбны;
Не шкадуе, падлівае, —
Бо партфеляў хоча «хлебных».
Ён і лазню прапануе,
Каб сваё «абцяпаць дзела»,
Ён і пары нашуфлюе,
Каб начальства прапацела…
…Аддаліўся шчыры сябар,
Бо казаў пра Божу кару…
І падвёў надзейны хабар —
Кінуў шкурніка на нары.

———

Тут мараль — на сто працэнтаў:
Не піце лекі без рэцэптаў!

## Каб на ўсёй старане

Не шукай далячынь,
Як салодкіх баранак.
Няма лепшых Айчын,
Чым Радзіма і мама.

Ад дзядоўскіх варот
У свет белы не з'еду
На чужы бутэрброд,
У чужую бяседу.

Тут, на роднай зямлі,
Трэба з Родам яднацца;
Кожны крок асвятліць
І мужчынаю стацца!

Каб на ўсёй старане,
Дзе Радзіма і мама,
Пазнавалі мяне
І нашчадкаў — таксама!..






Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Малахоўцы Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску. З 1988 года працуе дырэктарам Літаратурна-мемарыяльнага музея-сядзібы Ф. Багушэвіча ў Кушлянах. Выпусціў зборнік паэзіі «Азірнуўшыся — не скамянею». Член Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1989 года.

МІКОЛА КАНАНОВІЧ

## Мароз у траўні

На наша балота вярнуўся мароз
Усярэдзіне траўня.
Падаюць пацеркі ціха з бяроз
Змарожаным ранкам.
Валіцца з яблынь квецень, як снег,
На ссівелую глебу,
Холад знянацку працяў, быццам грэх,
На злую патрэбу.
Яркая зелень збялелай травы
Вяне і чэзне.
З ранку цяплей апранаемся мы —
Хай цела не мерзне.
На сонцы адтане, намокне зямля
Слязой агарода…
Увосень спазнае сялянаў сям'я
Маштаб недароду.

## У двары шматпавярховіка

Шапаціць таполя маладая,
Зеляніна сонцам зіхаціць,
А пад ёй з пяску дачка малая
«Бабу» лепіць — аж вядро звініць!

Побач ціха сноўдаюцца людзі.
Вечар апускаецца на двор.
І здаецца: так заўсёды будзе,
Часу і быццю наперакор.



*Сяргею Чыгрыну*

Маленькім тапіўся ў Жабінцы.
Ужо пад вадой
уявіў сябе
мёртвым на беразе.

Спалохаўся вельмі —
жыць захацелася —
і выплыў — са страху!—
не ўмеючы плаваць…
Ці то Бог дапамог?

## Вяртанне

У сені зайшоў прахалодныя,
Слоік дастаў з вядра,
І стукнулі зубы галодныя
Аб холад шкла.

Прыклаўся і залпам выпіў
Ранішняе малако —
Два гады на далёкай выспе
Не ведаў смаку таго.

Выдыхнуў лёгка: «Дома!»
Зняў фуражку і выцер пот…
У сенцах дома старога
Чакаў на жыццё развод.

## Вандроўнік

Купрэеў восенню сышоў навечна —
Вандроўны шлях пачаў ізноў
Навечна ў Млечным.

## Юбілей

Сто гадоў прастаяла хата,
І цяпер пустою стаіць.
Час пабачыць ёй даў багата,
Як жылі і хацелі жыць
Прадзеды спадкаемца,
Што вып'е за юбілей,
Завесіць шчыльна акенцы
І паедзе з вёскі далей.

## Зачараванасць

Пухнатасць снегу холадам кранае.
Яснее неба і званчэе ціш.
Блішчыць у вочы зорка з небакраю,
Куды скрозь ноч зямную ты глядзіш.

Твой позірк тоне у бязмежжы свету,
А цела холад у палон бярэ.
Ты хочаш зрынуць супярэчнасць гэту,
Ды ўсё стаіш, як дрэва, на двары.

## Кульбака для мамы

Натомлены розум. Хранічная стома.
А здабыткаў ні ў торбе, ні ў банку няма.
Кульбаку для мамы вязу я дадому —
Учора купіла сястра.

— На кіёчку я езджу, — маці казала, —
Нядобра ў бальніцу з такім.
І кульбаку купіць абавязала
На зайздрасць калекам другім.

…Спрацаваныя рукі. Стаптаныя ногі.
Поўнае сэрца дабра…
Я еду да маці. Яе дапамогі
Мне хопіць да самага дна.



Ціш. Звонкая ціш.
Урачыста маўчыш
Пад высокім небам,
Дзе зорак срэбра
Вісіць над зямлёй
Тваёй
У чаканні вясны —
Аб ёй усе сны:
Цёпла, прыгожа, утульна,
Бясплатна, для ўсіх агульна —
Вясна!
Звонкая ціш —
Ты ў ёй дрыжыш.



Прыснілася Цвятаева Марына,
Яе радкі.
Заўтра я святкую імяніны,
Жывы такі!
Няма ніякіх спраў мне да Марыны —
Яна была!
Як паэтычныя куміры,
Як крык святла.
…А я жыву і варушуся
Пры светлым дні,
У сон Марыны не ўварвуся —
Жывы такі!



> Божа, ад пуняў і хат
> Вее такою жальбой,
> Што застаецца няшмат,
> Каб не пакончыць з сабой.
>
> *Алег Мінкін*

Пад небам радзімы не я
Кручуся штодня.
Там землякі,
Там чужакі —
Лёс іх такі, —
І ўсе яны там сваякі
Ужо.
Працы ружжо,
Інтым, алкаголь,
Цукар і соль
Дзеляць яны
Пад небам зімы,
Пад небам вясны,
Пад небам радзімы маёй,
А я — побач з ёй.

## Мінус

На банкаўскім рахунку мінус
І на дварэ,
Тут точыць ноччу мыш аб плінтус
Зубы свае.

Расснежыла дарогі-сцежкі
Шчодра зіма.
Пара б пазбыцца соннай лежкі —
Баліць спіна.

Кудысьці гучна ў плыні часу
Імчыцца свет.
У ім яшчэ мінус на градус
Твой сілуэт.

З якога краю, невядома,
І ў край які
Развозяць, вытурыўшы з дому,
Нас цягнікі?

А там пагардліва памежнік
Адверне нос,
І скончыцца жыцця прамежак
Пад стук калёс.






Нарадзіўся ў 1965 годзе ў вёсцы Вострава Слонімскага раёна. Пасля заканчэння філфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта выкладаў беларускую мову і літаратуру ў школе ў Слоніме. Працуе намеснікам рэдактара «Газеты Слонімскай». Сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў. Адзін з аўтараў калектыўных зборнікаў паэзіі «Квадра», «Анталогія маладога верша», «Верш на свабоду», «Галасы». Укладальнік і рэдактар зборніка «Паэтычная Слонімшчына» і двух выпускаў літаратурнага альманаха «Ад А да Я» падлеткавага клуба «Святліца». Аўтар кнігі паэзіі «І доўжыцца ноч…».

МЕЧЫСЛАЎ КУРЫЛОВІЧ

*МОВАЙ КАНІ*

## Фантазёр

Пітво настоена на мроях
Фантомнай крыўды. І ёй цесна.
І Свет «пачварны» крэсліў,
                                        кроіў
Ды ставіў «ідалаў» на месца.

Бунтарскі спіч яго настрояў
З калючых ісцін Запавету
Лунаў з нязведанаю зброяй
У сутарэнні моцных свету.

Праблемны рэбус адным махам
Рашаў штогод у дзень апошні,
Калі й Хрыстос наўме з Алахам
За стол садзіліся раскошны.

*23.11.2008*

## Праўда

У палітыцы — як здрадніца,
Эдэмская змяя,
Для моцных свету — задніца:
У кожнага свая.

*25.12.2008*

## Хлеб

Як неба і воля, і голаду лямант.
«Калыска сюжэтаў!» —
                                        ківае атрамант.

«Бяспека дзяржавы?» —
                                        скрывілася праўда,
Пад сверб напамінкаў з залётамі ў *заўтра*.

Дажынкавы вокліч над жніўнай палоскай,
Дзе Нёман развёўся з апошняю вёскай.

*5.09.2009*

## На высечцы

Будзіць не будзем памяць продкаў,
Каб нам кіўнулі ў знак падзякі
За лёс лясны, што стаў кароткім
З навейшай меркаю адзнакі.

На учарнела-свежым полі
Бялеюць душы сосен пнямі,
І не узняцца ім ніколі
Бацькоўскай шапкаю над намі.

*2.07.2010*

## Рэкламнае

Хто першым дазвоніцца — скідка 50 %.

Лечым сэрца, горла, ногі,
Печань, ныркі і мазгі
Па бязналу,
        а з панчохі —
Заіканне пра даўгі,

Перадышку п'янай комы,
І бясплоддзя закалот,
І прадвесце адэномы,
Каб не капала на бот.

Нашы лекі на узроўні —
З кожнай клеткаю на ты.
Ёсць пасведчанне і з Поўні,
Нават з Божай барады.

Ваш склероз — для нас забава,
Імпатэнцыя, як пшык.
Закажыце. На халяву
Падарунак: пухавік.

Зробім скідку самым першым —
Хто спрытнейшы, той не лох.
І бабуля стане гейшай,
І дзядуля — больш чым Бог.

*12.04.2011*

## Цякуць мазгі

Цякуць на Парнасе у муз,
І ў гіцля з правайдарскім нюхам,
І ў тых, што пілі за Саюз,
І ў тых, хто мянташыў насуха.

Цякуць векавечна, як час,
І ў мэтра важацкай юдолі,
Цякуць, відавочна, і ў нас,
І толькі у дурня — ніколі.

*5.07.2010*

## Бы па нотах

І зніклі *дольцы*, як міраж,
І *грабавыя* — з *банкі*,
І бы па нотах кроўны наш…
І зноў банкуюць Янкі.

І спапяліліся сляды,
І не шукай — не ўдасца,
І не ўцякае сцень бяды —
Ліцвінскай долі трасца.

І церабіць не нам глузды
Дазволена банкіраў
З ганцом, адправіўшы ў суды,
Гаагскі стыль мундзіраў.

*2.01.2011*

## Час

Час поп-звёзд андарачных.
Талакою завецца.
Бы дымком пахне смачным,
Што над хатай уецца.

Час вушэй пад дзвярыма.
Там прысуд быў кароткі.
Нават больш, чым магчыма, —
Шапацеў ад сэксоткі.

Час адкрыццяў паперы.
Прайшоў тэст на карыснасць —
Адпісацца у мэрыі,
Каб схаваць рэчаіснасць.

*20.12.2011*

## З Каралеўца ў Калінінград

Крыжацкая спадчына веры —
З мячом Плашчаніца Хрыстова,
І лез манускрыпт на паперу
З нямецкаю тытульнай мовай.

А сёння сем футаў пад кілем
(Хрышчэнне варагскаю згадкай)
Жадаюць (не нам) небасхілы
Саюзнага старасты шапкай.

Юрлівасць паноў сябелюбцаў
Пра статус Радзімы не дбала —
Найменне, бы полымя ў грубцы,
Ліцвінскай душой дагарала.

*2.10.2008*

## З этыялогіі

Не інфаркт прычына згону —
Доўгай працы рэшткі.
І не ён надасць іконе
Скрушны сэнс усмешкі.

І не садзіць ён на покуць
Сюжэт чорнай сагі,
І да рук з крывёй па локаць
Ён не мае цягі.

І не ён раскажа людзям —
Як яго чакалі…
І не лезе ён у суддзі
Нашай анамаліі.

*5.09.2009*

## Слова

Каб гаворкай стала Слова,
Зазірні у генны код,
Скуль Прарок з мясцін краёвых
*Людзьмі звацца* зваў народ.

А каб стала яно целам,
Целам нашай люднасці —
Тлумач Словам зразумелым
Кнігу вечнай мудрасці.

На двухмоўе плюнь са смакам
Бо на Слова точыць зуб,
Бо далося яму ў знакі
Пад пацешнай назвай шлюб.

І цані яго адданасць,
Быццам пчолачка — нектар,
Як рабілі кашталяны,
Як хавалі ад татар.

І гарою стой за праўду,
Хоць і страшная, як смерч,
Як сказаў Статута аўтар:
«Згубіш Слова — чакай смерць».

А на зорцы светлых раніц,
Без спасылкі на застой,
Родным Словам, што люд раніць,
Прывітайся хоць са мной.

*2.07.2009*

## Як разлюбіць

«Як разлюбіць, як разлюбіць —
Спявае восенню зарэчча, —
Ды помстай крыўду наталіць,
Каб сам з сабой не весці веча?»

Як разлюбіць, як разлюбіць
Твой сум вачэй, твае сюрпрызы
Ды жарты з вострых бліскавіц
З усмешкай шалу Моны Лізы?

Матыў прынёманскіх вятроў
Вярэдзіць згадкі мовай кані,
І разлюбіць не грэе кроў,
А толькі думка — аб спатканні.

*28.09.2008*



Нарадзіўся ў 1939 годзе ў Гродне. Па прафесіі ўрач. Працаваў участковым урачом у прынёманскіх вёсках, пасля анколагам і хірургам у Гродне. Апошнія гады — хірургам у рыбалавецкім флоце Мурманска. Аўтар кніг паэзіі «Тутэйшы», «Прыдарожная вярба», «Вчерашние святыни», «Матыў прынёманскіх вятроў». Кнігі апублікаваны ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы kamunikat.org.



ПЯТРО МАКАРЭВІЧ

## Скарбы

Жыў па-людску і рабіў нямала.
Разліваў, як сонца, весялосць,
А мая персона выклікала
Найчасцей няўдзячнасць або злосць.

Сэрца людзям я дарыў і песню,
Думаў, дурань, ордэн паднясуць.
А мяне і ўвосень, як і ўвесну,
Калашмаціць-гне казённы суд.

З вераю ў дабро бязмежнай, шчырай
Мне любы сустрэчны — друг і брат.
А мяне блакітныя мундзіры
Штурханулі у злачынны рад.

Скарбы мае — думкі — у нябёсах,
І са мной улада на нажах.
Гэта — лёс Ісуса, лёс Хрыстоса,
Не распяты на крыжы, на жаль.

## Я шкадую...

На мяне нацкоўвалі сабак.
На шляху пускалі чорных кошак.
Беспрацоўем білі па зубах
З прагай і маральна укакошыць.

Ні пры чым тут меншыя браты:
Ад двухногіх шчэрыліся скалы.
Кадэбісцкай вывучкі краты
На мяне іклатых напускалі.

З-за таго, што я па-воўчы выць
Колісь у пагонах адхрысціўся,
Не ўціскаў у плечы галавы
І цяпер не ўкленчыў і не спіўся.

Толькі з мазаля свайго жыву.
Хай другія пнуцца на халяву.

Я з асфальту ў росную траву
Нават чарвячка перасяляю.

І тых кошак чорных і сабак,
Нацкаваных, зараз я шкадую:
Купленых калісьці за мядзяк,
Алкаголь грызе іх і мардуе.

## Сівізна

У абдымках з каханаю зліцца —
Як найлепшага свята жадаў.
А цяпер хоча сэрца жывіцца
Звонкай радасцю духу і спраў.

Нібы ўчора я сонца пабачыў,
А ўжо блізіцца семдзесят пяць!
Гэта дата шаноўная значыць,
Што пачуцці інтымныя спяць.

Але ёсць ў сівізны далягляды,
Што не сніліся нат маладым!
Не кранаюць ні зайздрасці звады,
Ні хвалы абыякавы дым.

З узгалоўя над ложкам-калыскай
Запаветную кнігу бяру,
Верасовага мёду бы міску,
І да ранку не выпушчу з рук.

Аніхто нада мной не начальнік.
Я не горблю паклоны рублю.
Вольны — днём, вечарамі, начамі
Рыфмаваць сваё слова люблю.

Горы думак за спінай трывалай:
Хоць вяршы з іх раманы-стагі,
Бо кіпела душа, бушавала,
Біла рэбраў маіх берагі.

Бездакорнаю зброяй — развагай
Вывяраецца сказ мой і крок.
Падключаю й маральныя вагі
Перад тым, як націснуць курок.

Не шапкую пасадзе з кукардай
І ў мінуласці не шапкаваў.
Халуя я лічую пагардай:
Для мяне ён — як вош. Ці трава.

Прад сумленнем і людам — не сорам
За размашыста здзейснены шлях.
Узыходзіў па скалах я ўгору,
Шчыраваў на лугах і палях.

Маладосці ўлюбёнай забавы
Падарылі унукаў красу,
А яны, малайцы, неўзабаве
Нам падораць нявестак-красунь.






Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Шынкі Крупскага раёна Мінскай вобласці. Восем гадоў быў на вайсковай службе. Скончыў Беларускі дзяржаўны педагагічны інстытут. Амаль тры дзесяцігоддзі працаваў у лідскай раённай газеце і на гарадскім радыё. Выдаў кнігу паэзіі «Злітак», зборнікі вершаваных перакладаў «Расінкі беларускіх слоў», «Птица свободы». Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Лідзе.

ЯЎГЕН ПЕТРАШЭВІЧ

## Каўчэг

На Беларусь выпаў глыбокі снег,
Тоўстым слоем пакрыў Еўропу.
Хлопцы, будуйце каўчэг
Да вясенняга патопу.

Арнітолаг, вазьмі па пары пярнатых,
А з заапарку вядзіце ў каўчэг скаціну.
Не забывайце пра капытных, рагатых
І пра павучка, што ў кутку дома пляце павуціну.

Сябры аграномы, экалогіі стражнікі,
Насушыце ў дарогу насення:
Жалудоў і каштанаў для справы так важнае
І зярнят усіх сартоў набярыце па жмені.

Моц адкрыццяў, рэфератаў і дысертацый
Вышэй пірамід навукоўцамі складзена ў кніжках.
Дзякуй прагрэсу, цывілізацыі —
Моц інфармацыі назапашана ў флэшках.

А мастакі, будзьце уважлівы,
І каб у каўчэг мы ўсе ўлезлі,
Вы не бярыце карціны, пейзажы,
Вазьміце з сабой толькі фарбы і пэндзлі.

І вазьму я з сабой родных песень вянок,
Што іх ведаю добра на памяць.
А ці возьмуць мяне ў каўчэг незнарок,
А мо толькі здалёку паманяць?

## Госпадзі!

Госпадзі!
Дзякуй за дарованы дзень,
Поўны радасці.
Госпадзі!
Напоўні маё жыццё
Змястоўнасцю.
Госпадзі!
Пашлі мне стан

Глядзець і бачыць,
Слухаць і чуць.
Прыслухвацца, заслухвацца,
Услухвацца, чуць
І слухацца.
Госпадзі!
Прабач за мае турботы,
Так для цябе мізэрныя,
А для мяне так вялікія
І важныя.

## Словы

Першае слова — Бог,
Апошняе — мат.
Пчала збірае мёд,
Змяя — яд.

Да слоў звяртаюся зноў —
Лісточкаў лістапада.
Колькі мядовых слоў,
А колькі з ядам?

З гадамі задумаўся і я,
Ці дасканала галоўка.
Асёл дзярэ горла: «І-а»,
Трэлі нам дорыць салоўка.

## Бессмяротны

Мы грэшныя —
І таму смяротныя.
Мы смяротныя,
Таму што грэшныя

Толькі ты, Божа,
Існуеш у кожнай істоце,
А істоты абнаўляеш паважна.
І таму ты бессмяротны,
Бясконцы, неабсяжны..

Ты і вы
Называйце мяне на «ты»
І бацькоў сваіх родных.

Называць іх на «вы» — старамодна.
Не стварайце праблемы
Залішняе…
Не дурыце ўсім і сабе галавы.
Нават Госпада Бога Усявышняга
Называем не «вы», а «ты».

## Існасць

Зямля,
Сонца,
Зоркі,
Безліч планетаў
Законапаслухмяных
Не збочаць са сваіх арбітаў.

Перапляценні людскіх лёсаў
Чакаюць міласці,
Як манную крупу з нябёсаў.

На тым стаяла існасць,
Стаіць і стаяць будзе:
Правяць Сусветам не людзі.

## Часу коні

Грымнуў звон старадаўняй часоўні,
І зацішыў свой крок спадар велічны час.
Запытаю цябе яшчэ раз,
Мой заступнік, анёл — мой ахоўнік.

Ці да праўды вядзе жыцця ўказаны след,
Ці трымаю я свой накірунак да мэты?
Праплывае жыццё наша, як след каметы,
Толькі вечным заўжды застаецца Сусвет.

Час няроўна імчыць, нібы Нёмана плын,
Што ў раўнінах цячэ так лагодна.
І бурлівы, і буйны ў кручах ля Гродна —
Час салодкі падчас і гарчэй за палын.

Час і вечнасць — касмічная сіняя плынь,
Як нястомны наўершнік заўзятай пагоні.
Так нясіце мяне ў далячынь, расцугляныя часу коні,
Як на ростанях восенню той жураўліны клін.

## Тры іпастасі

Маладзік-сярпок
Над палеткамі залаціцца.
Пара жыта жаць,
Пара жаць пшаніцу.

Паўмесяц-сякеру
Над лесам хтосьці падвесіў.
Высекуць лес —
Такі яго лёс.

Круглая поўня —
Зрок велікана
Сочыць звысока
Замілавана.

## Імгнення часцінка

Пылінка марыць стаць пясчынкай.
Пясчынка, сагрэтая сонечным праменьчыкам, —
Каменьчыкам.

А маленькі каменьчык
Марыць стаць глыбай, дарэчы.

Глыба — гарой,
Гара — Зямлёй.

Матухна Зямля,
Я твая пясчынка,
Імгнення часцінка.

## Таямніца

Сэрца,
Ты днём і ноччу
Б'ешся няспынна ў груднай клетцы.
А калі адпачываеш?

Паведаю таямніцу:
Тады адпачну,
Калі перастану біцца.

## Анёлы і д'яблы

Анёлы сціплыя і паслухмяныя
Шлюць нам ад Госпада
Гуманны свой пасыл.
А д'яблы, як раз'юшацца,
Стараюцца ўсё добрае
Сцерці ў пыл.

Становіцца нам не лягчэй
(Каханыя, паверце),
Калі ўчыніць нам подлае яшчэ
Стараюцца ўсе чэрці.

Як добра на душы нам здасца
У той жаданы час,
Як д'яблы адпраўляюцца
На пенсію, ў запас.

*4.05.2004*

## Плач душы

Прачнуўся ноччу…
Галасіла мая ўласная душа,
Нібы маленькае немаўля.
Ці быў то плач,
Як жаль за маладосць раздольную,
А можа, стогн грахоў
Ці вольных, ці нявольных?

*1999*

## Вехі

Маё дзяцінства
Жыве ў мізінцы.

Сталасці след
І цябе не міне,
У сівізне.

Старасць па волі Ўсявышняга
Існуе ў барадзе, у лысіне.

## Дрэмлюць жабяняты

Дрэмлюць жабяняты на балоце,
Сціхла у буслянцы клекатня.
Толькі мама-качачка ў турбоце,
Як улюляць жоўтых качанят.

Птушкі спяць на дрэвах дуплаватых,
А ў бярлогу мішка спаць пайшоў.
Спяць у цёплых футрах зайчаняты,
Носікі уткнулі у пушок.

У небе хтосьці зорачкі развесіў —
Дзіва векавечную красу.
Пажадаў нам добрай ночы месік
І ў пярыне-хмарачцы заснуў.

## Наказ

Перахрысцімся тройчы,
Станьмо на калені
Пад купал нябесны
Касмічнай царквы.
Папросім Усявышняга ў ахвярным маленні
На прышласць
Пісаць і запісваць,
Што ў галаву прыйшло,
Але не тое, што з галавы выйшла.






Нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Падбараны Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці. Настаўнік музыкі, закончыў Мінскую музычную вучэльню. З'яўляецца членам Гродзенскага клуба кампазітараў-аматараў. Аўтар скульптур для літаратурнага музея ў Гудзевічах. Узнагароджаны Дыпломам абласнога конкурсу кампазітараў-аматараў Гродзеншчыны за цыкл песень-балад на гістарычную тэматыку на вершы Я. Чачота. У 2012 годзе выдаў зборнік паэзіі «Пасынкі».

АЛЕКСАНДР СЛАЩЁВ

## Вопрос из-за угла

Полистай
книги, представь:
ты в мире — один.
Начни
слушать, как чавкает
чем-то
листва,
вечным
чем-то
в ночи…
Не спи!
Изучи к утру
угол сходящихся стен.
Это нужно тебе одному.
Никогда не делись ни с кем.
Хорошо, если есть
и горит свеча,
хорошо, если жив и завоет волк.
Так и нужно утро встречать,
а днем изучать — потолок!
Потому что давно уж не ловишь кайф
от книг, телевизора и «воще…»
хочется
очень
увидеть край,
где ищут мясо в борще,
не пьют,
не воруют, не бьют
детей
(совсем никого не бьют),
тот край, где нет закрытых дверей,
где, счастья желая, — не врут,
где в дом заходят глядеть в глаза
а не за
тем, чтобы в долг залезть,
тот край, где в музее ребёнка слеза
хранится… И край тот — есть!
Не веришь? Он есть! Он в твоей душе!
Он был там всегда. Нашёл?
Господи, да не мясо в борще…

Повторяю ещё:
полистай
книги, представь:
ты в мире — один.
Начни
слушать, как чавкает
чем-то
листва,
вечным
чем-то
в ночи…
Не спи!
Изучи, изучай
угол сходящихся стен!
Прощаясь, слёзы выжмет свеча,
станет тяжёлой тень.
Она обернётся к тебе
и шагнёт,
трясясь, пожирая цвета…
Замри, наблюдая свечи уход.
Вот она — темнота!

И нет ни звезды, ни тебя… Никого!
Открыты, закрыты глаза…
Хорошо, если жив и завоет волк
направленно — в небеса.
Почувствуй, пойми:
ты в мире — один.
Все остальное — ложь!
Одиночество смотрит с картин,
с икон… С этим — уйдёшь,
когда-нибудь, навсегда,
туда,
где будет один вопрос:
«Что ты сделал, чтобы создать
мир без крови и слёз?».

## Музыка пыли

Идут кладбищенских плит титры:
сыграны роли, «новых» не дали.
За вас молились
митрополиты,
к терпенью правительства призывали…

Вы что-то доказывали до хрипа,
но (вслух или мысленно) вас посылали…
Вы всё научились делить на литры…
Теперь вот слились
с горизонталью,
стали:
прошлым, памятью, запятою,
плитою,
с выбитым «вычитаньем»
из «хорошего» числа — «плохое»…
За «хорошим» мычат
чаянья,
те, что звучали
ещё на вече,
в церкви, под плач
свечки,
потом перешли в «ревкомы»,
да так и остались
лишь
комом в горле;
за «плохим» стоят: причитания,
вдова, родня и левкои.
Отмечаем:
и то, и другое…
Не чаем!
Мы вообще всё отмечаем
миру на диво:
в радости или печали
(не важно):
в компании или собравшись в трио
у магазина…
Нас мучит жажда
нарушить в одиннадцать тишину граждан.
Мы знаем: с каждым
случится молчанье
однажды.
О чём сожалеть
пространство не будет — ясно…
А нам успеть
надо: продолжить себя, выразить мнение частное,
что-то спеть
(не напрасно)
и, когда свет погаснет,
уйти в звёздные пилигримы,
чтобы стать

частью
какого-то
одного
имени…

## Фуга

Луч, как шпага, пронзил это небо, где тучам нет края…
Весь озёрный пейзаж
(на луче)
повис, как на шатком гвозде,
и вот-вот упадёт, за собой тишину увлекая:
круги на воде,
круги на воде…

Сумасшедшими буквами «Э», эскизом созвездий, эскортом
замелькали стрижи, меж землёю и небом — везде!
И,
в паденье,
по озеру чиркают крыльями… Снова:
круги на воде,
круги на воде…

На перину листвы:
пал —
и тут же
весь
выдохся
ливень.
Ослепив, засверкали алмазы в траве…
Капли
(гирьками
никеля)
падают
с
ивы:
круги на воде,
круги на воде…

Неподвижный, сутулый, до нитки промокнув,
в старой лодке ждёт клёва рыбак, как во сне,
но срывается, кажется, пойманный окунь!
Круги на воде,
круги на воде…

Нет движенья, нет звука, нет слова, нет ветра,
нет ответа:
«Что там, в голубой пустоте?»
Чтоб вернуться сюда, ты с улыбкой швыряешь монетку:
круги на воде,
круги на воде…

## Шорохи, шёпоты, звуки…

Кто-то молит: «Постой…», —
там, где светит ночами
чёрный (в дырах) простор
бесконечных печалей…

Среди звуков пустых,
от любви замирая,
кто-то просит: «Прости…», —
вслед воде убегая…

С неба падает лист,
как больничная справка.
Кто-то плачет: «Вернись…», —
из далёкого завтра…

Парк стоит обнищав
и листвою, и трелью.
Кто-то тихо: «Прощай…», —
произносит за дверью…

Весь из проволоки сад.
В нём всё чаще и чаще
кто-то шепчет: «Присядь…», —
кто-то очень уставший…

Словно вслед кораблю,
вслед заката смещенью,
кто-то пишет: «Люблю…», —
на песке (к сожаленью).

## Прощание с морем

Облака, как скульптуры, завершены
(или обнажены?).
Море явно скучает.

Штиль.
(Штиль в плену синевы.)
По прямой
прибой
тишины
гонит
к
берегу
пену
чаек.
Те, как галочки, отмечают
что-то в небе (возможно, мечты,
сны
или, может, ошибки, что будут совершены).
Солнце морю оснастку драит.
В ране,
в рвани сини
бунтуют цвета.
Силуэты
мелькающих
чаек —
словно женщин (забытых) уста
или ноты, которые
не сыграть с листа.
В гордой позе стихи прочитаю
(словно Пушкин). Со вздохом вода
сотрёт на песке следы,
убирая,
так за всеми.
Всегда.

## Наставление

Положи за правило:
у целующего тебя проверять наличие пульса,
а уж если кого подальше отправил,
сделай так, чтоб он не вернулся.
Бойся жизнь свою превратить во вздохи.
Не пытайся грехи замолить свечами.
Не разбивай сердца, даже если достались недорого.
Далеко от души не отлучайся.
Всё, что говорят о тебе, — неважно:
не подслушивай, а выведывать — лишнее…

Правды тебе всё равно не скажут,
даже после того, как забьют «крышку».
Ни в коем случае не обгоняй время,
если ты не мыслитель и не политик.
Чтобы жизнь оправдать — сажай деревья,
но не стремись пережить их.
В человеке цени не должность и проседь,
а возможность взвалить на себя поклажу.
Если что обещают тебе — дели на восемь,
если обещаешь ты — умножай дважды.
Ни к кому не лезь со своими советами.
Будучи главным, не носи ореола.
Если уж очень хочется, чтоб тебя заметили, —
выйди на улицу голым.

## Призрак

Где охапки роз и хризантем?
Где любовных похождений прелести?
Девушка сошла с ума совсем,
место уступая мне в троллейбусе.
Сколько было страсти и огня!
Сколько счастья было, сколько возгласов…
Вот уже не смотрят на меня
женщины «бальзаковского возраста».

Привыкаю к виду из окна…

Но глядит в глаза мои из прошлого
женщина какая-то одна;
тихая, забытая, хорошая…
Неужели были мы вдвоём?
Не она ль меня связала с музами?
Ты зачем без стука входишь в дом,
возникая за спиной, как музыка?
То садишься в кресло и молчишь,
то на кухне звякаешь тарелками,
со стола берёшь мои ключи,
исчезая в полутёмном зеркале,
возвращаясь в образе ином,
как звезда, что выпала из полночи,
ты приходишь освещать мой дом,
только в этом свете столько горечи…

Что-то я по жизни не связал;
имена и лица перемешаны…
Ты зачем глядишь в мои глаза,
навсегда потерянная женщина?
Что тебе шептал я при луне?
Обещал, наверное, корону…
Ты зачем рукою машешь мне,
выходя на сквозняки перронов
всех вокзалов, аэропортов?
Ветер развевает твои волосы…
Ты кричишь, но я не слышу слов
вследствие утраченного голоса.
Что тебе я сделал? Почему
ты, минуя вечное забвение,
уподобясь утлому челну,
всё идёшь ко мне против течения?
Почему в музеях, где мечты
обернулись старыми полотнами,
всюду нахожу твои черты
и тебя ищу за поворотами?

Привыкаю к виду из окна…

Но глядит в мои глаза из прошлого
женщина какая-то одна;
тихая, забытая, хорошая…

## Летний дворик

В доме напротив (с балкона) сосед настраивает «сателлит».
Через квартал кто-то кого-то предаёт анафеме.
Гряда облаков, как боярская дума, уныло сидит.
Мелькают стрижи, как ножницы в парикмахерской.
И всё бы хорошо, да вот счастья нет…
Хотя из всех окон несётся музыка…
Верёвка приютила кордебалет:
бюстгальтеры, маечки, трусики…
Спешит мужчина бутылки сдать.
Навстречу — тот, кто успешно сдал их.
Женщина (низким сопрано) зовёт мужа жрать,
нарушая тем самым приятелей заседание.
Вот один откликается нервно: «Сейчас!»
Дети в песочнице явно потеряны.

И никто не скажет, который час,
Потому что ни у кого нет времени.

## Старая мелодия

Как-то странно звучит эта тихая музыка…
Словно райское яблоко только надкусано…

И еще нет истории Авеля с Каином
в этом мире круглого (то есть бескрайнего),

бесконечного поля с дорожкой заросшею
в наше прошлое (проще — пошлое общее).

Не сгущаю я краски — так получается,
слишком долго планета летит и вращается…

И отдельно от мира качается озеро…
И кончается жизнь игрою без козыря.

Но ещё нет истории Каина с Авелем
И ещё никого никуда не отправили:

ни в тюрьму, ни в разведку, ни к чёртовой матери,
и никто не стоит над могилой, на паперти…

Нет у мира начала — оно не разбужено,
а мелодия длится, хоть флейта простужена

и в рояле давно западает та клавиша,
под которую я шептал: «Ты мне нравишься…»

А в финале, я знаю, фанфары с литаврами
не ударят сдуру, как ветер ставнями!

Не решила судьба большого и трудного,
вот засим и звучат не медные — струнные…

Как бы влезть туда нотой виолончельною
и на заднем плане просить прощения?

## Колыбельная для взрослых

Мы уже не увидим слёзы у куклы.
Нас уже никто не поставит в угол.
Не подбросит в небо, схватив в охапку.

Мы давно уже можем гулять без шапки,
спички брать, лезть руками в варенье,
на все четыре можем, без разрешенья.
Не нужны нам скакалка, воздушный шарик…
Нам с поклоном конфетку никто не дарит.
Даже если не слушаемся порою —
не испугать нас Бабой Ягою.
Мы забыли, зачем миру солнечный зайчик.
Нас волнует больше правильность сдачи.
Мир пред нами предстал чередою кресел.
Перед сном никто не поёт нам песен.
Мы, закрыв глаза, серую видим краску,
потому что никто не расскажет сказку.

## Углы

Дождь стоял под окном
под прямым углом.
За дождём
был дом,
как рисунок углём.
Дом
дрожал
и дом
умножал
углы.
Ворон в бурке, гордый, как тот «Оглы».
Трепыхался лист,
как в сетях улов.
Мир открыл для птиц
множество углов.
Не страшна теперь им дождя игла…
Только ворону не нашлось угла.
Он летит, орёт что-то вроде: «Крах!»…
Ну, а я один
в четырёх углах.
Я смотрю, как дождь пришивает мглу.
А окно в слезах,
как дитё
в углу.

## Обвиняй, оскорбляй, казни…

Ты сегодня пьяная — жуть!
Озверела и жаждешь крови.
Я завтра утром тебе скажу
всё… (за чашечкой кофе).
Ох, претензий ко мне — не счесть!
Они громки, они — огромны!
Ладно, бей! Круши, что ни есть!
Будет что вспомнить!
Фотографии, письма — рви!
И в лицо мне их, и под ноги…
Про постель на весь дом ори,
а потом зареви в итоге.
Предъяви мне всю сумму дней,
дней, где делал тебе я больно…
Обвиняй, оскорбляй… Убей!!!
Не уходи только.

## Диссонанс

Кто эту выдумал муру
всех хоронить?
А я возьму и не умру
и буду жить:
влюбляться слепо, пить вино,
на промахи чихать
и на собраньях (как в кино)
достойно выступать.
Всем надоем: столбам, дубам,
очередям — вдвойне,
«собесу» и, конечно, вам
программам на ТВ.
Пройдут века, Земля почтит
мой юбилей всерьёз.
Тогда я буду знаменит
почти как Дед Мороз.
Врачи, запутавшись в речах,
вздохнут: «Не может быть…»
Они устанут изучать
моё желанье жить.
Народ попрёт, как в зоопарк,
узреть в морщинах лик.

Три тысячи второй инфаркт
поставит всех в тупик.
И каждый в мире будет знать,
что ел я и что пил…
Бог изречёт примерно так:
«Я про него забыл…
Ну что ж, живи, коль жизнь одна…
Достойным будь отцом,
раз девяностая жена
рожает близнецов!»
Вот только в вечной той судьбе
и вечная печаль:
я буду помнить о Тебе
и плакать
по ночам.

## Секунда

Предполагаю, хоть это трудно,
необъяснимо, печально, сложно…
Нет ничего на свете дороже последней секунды
жизни твоей и моей тоже…
Она вдруг швыряет тебе (как подстилку)
дорогу, в конце которой начало забыто.
Нет ничего на свете бессмысленнее копилки
(души), которая не разбита
вдребезги — пусть на конфеты детям!
А то как-то всё получается мимо…
Нет ничего важнее, главнее на этом свете
того, что достанется от тебя — миру,
людям, планете, внукам, Отчизне…
Не колеблясь, под этим поставлю подпись.
Нет ничего на свете короче жизни,
после которой осталась лишь опись
имущества: дача, машина, жилище,
шуба, тарелка, гвоздик… Не спорьте!
Нет никого на свете богаче нищих,
подразумевается в Библии (сохранить в «Worde»!).
Пусть я постарел, да и с виду хлипкий…
Пусть жизнь прошла под блатные аккорды.
Нет ничего на свете беспомощнее улыбки.
Несмотря ни на что — сохраню в морде.
Объяснительных масса — «сказки», «рассказы»…

Но не прикрыться вам ими, кстати.
Нет ничего на свете правдивее фразы:
«Проспал, извините меня, Бога ради!»
Но лучше смолчать и не клеить дурня,
из тьмы, как из проруби, выуживая по строчке.
Нет ничего на свете печальнее груды окурков
в пепельнице после бессонной ночи.
Мир раздражает — клаксоны, стуки,
салюты, гремящие чётко и сухо…
Но нет в мире громче, противнее звука,
чем писк комара ночного над ухом.
День наступает — спасибо, не судный!
Он будет наполнен, как водится, ложью,
и не будет нигде ничего дешевле обычной секунды
жизни твоей и моей тоже.
Теперь говорю я в прямом смысле,
взойдя на трибуну и приняв позу:
«Нет ничего бесполезней тех самых мыслей,
что придут опосля, когда уже поздно».
Сердце видит везде (даже в потёмках).
Это приходит к тебе навсегда с годами…
Нет никого на свете счастливей ребёнка,
впервые шагнувшего без помощи мамы.
Пусть я повторюсь (да простит мне читатель),
ведь я не один ставлю эту пластинку —
ну, не было в жизни теплее кровати,
чем та, где мы спали с тобой в обнимку.
Да! Я до хрипа заездил пластинку,
но опять повторюсь, срываясь на альте:
«Нет никого, ничего на свете сильнее травинки,
той,
что собой
брешь пробила в асфальте!»
Неважно — выдумка то или были…
Есть скорбь имён на треснувших плитах,
и нет ничего на свете весомей пыли,
чем та, что лежит на забытых книгах.
Страшна их агония в полном мраке.
Но знаю, уверен: избегут тленья
слова, лежащие на простой бумаге,
остановившие вдруг мгновенье!
Я тоже мечтаю блистать в том списке,
там, где коллеги, а не калеки,
там, где потомкам написаны письма

словами сонетов, поэм, элегий…
Теперь это кайф, а ранее — нега.
Мир как набор сомнительных тождеств…
Но нет ничего на свете белее снега
и тише паденья его — нет тоже.
Нет ничего на свете быстрее, чем время,
и обогнать его было бы странно…
Я столько его угробил не с теми!
(А может, и с теми, судить ещё рано.)
Хватит пудрить мозги, забивать баки,
желать здоровья и счастья (на блюде).
Нет ничего
на свете
честнее
взгляда
собаки.
Я хочу, чтобы так же смотрели и люди.

## Ямб из темноты

Да будет звук!
Он нужен срочно!
Пусть бьёт каблук
по многоточью!
Пусть меркнет свет
мало-помалу…
Читай, поэт,
пустому залу.
Там, в темноте,
забудь о мелком
наедине
с пустой тарелкой,
наедине
с гнетущей правдой,
там, в темноте,
скажи о главном.
Но в темноте
не бейся в стенку
наедине
с секундной стрелкой.
Читай тому,
тому, кто плачет,
читай во тьму,

читай незрячим.
Читай тому,
тому, кто слышит,
читай во тьму —
там кто-то дышит…
Яви завет
всем поколеньям.
Читай, поэт,
лови мгновенье!
Ребром вопрос!
Пусть ненавидят!
Не бойся слёз,
ведь их не видят.
Пусть давит быт,
во тьме стеная…
Пусть ты небрит,
как запятая,
пусть одинок,
как рог оленя, —
тяни свой срок,
как тянут время.
Не бей в набат —
тяни резину…
Читай, мой брат, —
пусть рот разинут!
Пусть нет имён,
что помнят губы…
Пусть ты умён,
хоть это глупо…
Не причитай,
не плюй с досадой,
не выпадай,
как все, в осадок.
Не вычитай!
Найди дорогу
не в ВЧК,
а прямо к Богу.
Проси не «дай»,
спроси про душу
и не предай
того, кто слушал.
Ступи на край,
где горем веет…
Читай, читай

той, что не смеет
сказать: «Болят
мои озёра,
восход, закат…
Ты всё позоришь!
Ты видишь шиш
давно и чётко,
но ты молчишь,
заливши глотку.
Не отвечай!
Уж нет вопросов…
Проси на чай,
авось подбросят…
Сожги мосты
и вылей брагу,
забрось в кусты
пустую флягу.
Сгорай дотла
путь освещая,
пусть нет числа
всем обещаньям!
Веди подсчёт
своим просчётам,
подставь плечо
тому, кто «в чёрном».
«Быть иль не быть?»
царит над миром.
Жизнь не прожить
под псевдонимом.
Да будет стыд,
мечты и мысли…» —
так говорит
твоя Отчизна.
Читай, поэт,
об аде, Рае…
«Да» или «Нет» —
пусть выбирают!
Пусть бьёт каблук
по многоточью!
Да будет звук!
Он нужен срочно!
Внимай «тик-так»
секундной стрелки,
звени пятак

в твоей тарелке!
Внимай «тик-так»,
как солнцу кочет!
Ведь только так
поставишь точку.
Внимай «тик-так»,
как ветер ставням!
Ведь только так
мы точку ставим.
Не ставь для сук
ты многоточья!
Ведь только так
поставишь точку.
Возьми, поэт,
мир на поруки.
Да будет свет!
Да будут звуки!

## Точка

Когда на глазах твоих слёзы,
ты видишь, как плачут звёзды,
преобразуя сумрак
в сумму
пустых сумок,
плывущих к устью.
Я хочу их наполнить
чувством
любви. Лишь с ней и нужно идти
к Богу,
когда оборвётся дорога,
погаснет звезда, вспыхнет другая…
Встретит мама — ругая…
Отец — молча.
И прошлого огонёчек
станет меньше, чем эта точка.



Нарадзіўся ў 1954 годзе ў Расіі, у Беларусі жыве з 1970 года. Закончыў педінстытут імя Янкі Купалы і Беларускую акадэмію мастацтваў. Працаваў школьным настаўнікам, рэжысёрам у Гомельскім абласным тэатры, у Гродзенскай філармоніі, цяпер — у гродзенскай газеце «Перспектива».



АЛЕСЬ СТАДУБ

*ТРЫЯЛЕТЫ*



Свой век не маруджу пражыць,
Шчырую: пабольш бы ўрадзіла.
Не варта распальваць кадзіла:
Свой век не маруджу пражыць.
Са мною рукаецца сіла.
Хай скардзяцца грузу гужы.
Свой век не маруджу пражыць,
Шчырую: пабольш бы ўрадзіла.



На струнах нерваў грае восень
І ветрам б’е па лісцях медзі.
Праз год па тым жа чэрствым следзе
На струнах нерваў грае восень.
Цягнік гадоў скрыготна едзе.
А можа, гэта падалося?
На струнах нерваў грае восень
І ветрам б’е па лісцях медзі.



Мінуў, як сон, канфліктны год,
Як выпітае з горкай чаркі,
Пакінуўшы даўгі для сваркі,
Мінуў, як сон, канфліктны год.
Смыляць няпрыязні агаркі,
Абдумвае зласлівец ход.
Мінуў, як сон, канфліктны год,
Як выпітае з горкай чаркі.



Комін курыць папяросу,
Вецер воблакі гартае.
Радасна зямляк вітае,
Комін курыць папяросу.
Зманна мне ўсяго хапае,
Ды не мае памяць зносу.
Комін курыць папяросу,
Вецер воблакі гартае.



Упала наваколле ў сон,
Дзяжураць моўчкі сёстры-зоркі.
Спазніўся месяц на вячоркі —
Упала наваколле ў сон.
Крадзецца захінуць узгоркі
Хмурынка мяккая крысом.
Упала наваколле ў сон,
Дзяжураць моўчкі сёстры-зоркі.



Вы яе маўчаннем не губіце.
Вы — вясна яе, грамы яе.
Па радні мы ўсе свае:
Вы яе маўчаннем не губіце.
Нехта ў строй за мову не ўстае,
Нехта ўвяз у рыхлым быце.
Вы яе маўчаннем не губіце.
Вы — вясна яе, грамы яе.








Збірае нехта камяні,
Збірае нехта землі.
Каб мы з табою не памерлі,
Збірае нехта камяні.
Хай цвёрда паўтараюць сем'і:
Не згінуць нашы карані!
Збірае нехта камяні.
Збірае нехта землі.

Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Юшкавічы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці. Пасля сканчэння ВНУ працаваў у сродках масавай інфармацыі. Выдаў больш за дзясятак кніг паэзіі і прозы, сярод якіх «Калінавыя гроны», «Сюжэт на фоне надвячорка», «Водгукісціны», «Шэпты крыл», «Скрыжалі». Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Лідзе.

СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН

## *ВОСЕМ ТАЎТАГРАМ*



Блюзніцца
Бляклы
Бакборт.
Бераг
Балот —
Багуністы.
Буслы
Балацяняць
Брод,
Быццам
Бравастыя
Бургамістры.



Злосны
Зубр
Зламаў
Зруб.
Збегліся
Здалёк
Звяры:
Зебры,
Зайцы,
Задуменныя
Зубры.
Зона
Зноў —
Зноў
Заапарк?..
За
Зямлю
Звяроў
Змагацца
Заклікае

Зубр-
Зямляк.



Ёкае
Ёга —
Ёмкі,
Ёрзае
Ёлупень.
Ёд
Ёлкі.



Імпульсіўны
Імператар
Ігнаруе
Інтэлект,
Імпрэсіўны
Інсургент —
Інтэндант —
Інтэлігент.



Матчына
Мова
Мая —
Меладычная,
Мілая
Мова,
Магутная.
Мяккая,
Мармуровая.
Мова
Маці
Маёй —
Мой
Мацунак,
Мой
Мацярык.

Мацыён,
Майдан,
Маладзік.
Манастыр
Мой,
Мая
Мілавіца…
Матчынай
Мове
Маёй
Мне
Маліцца,
Маліцца,
Маліцца…



Па-сіроцку
Пасівела
Палессе,
Патаемна
Пастарэла
Песня.
Пляц
Пустуе
Пасля
Паражэння…
Прыйдуць
Перамены,
Прыйдзе
Праясненне.



Слухмяны
Смалакур
Саромеецца
Суседкі —
Спакуслівай,
Сардэчнай,
Спагадлівай
Спартсменкі.
Спяшаецца

Спантанна
Слухмяны
Смалакур
Схаваць
Сярод
Сасонніку
Свой
Стомлены
Сумбур.



Шчучын.
Шыльда.
Шэф.
Шашлык.
Шчырасць.
Шэльма.
Шынка.
Шык.






Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Жыве ў Слоніме, працуе намеснікам галоўнага рэдактара «Газеты Слонімскай». Аўтар зборнікаў паэзіі «Шчырая Шчара», «Горад без цябе», «Лірыка», кнігі гісторыка-краязнаўчых артыкулаў «Янка Купала і Слонімшчына», «Родам са Слонімшчыны», «Пакліканыя на родны парог», «Чамяры і чамяроўцы», «У пошуках слонімскіх скарбаў», «Беларуская Беласточчына», «Тэатр у Слоніме» ды іншых. У Беластоку асобнымі кнігамі выдаў літаратурную спадчыну Станіслава Грынкевіча, Франука Грышкевіча, Уладыслава Казлоўшчыка пад назваю «Вяртанне да сваіх» і гістарычную спадчыну Міколы Шкялёнка «Беларусь і суседзі».



# ПРОЗА

## СЯРГЕЙ АСТРАВЕЦ

### Мармур не смяецца

*Гісторыя праз дзвесце дваццаць год*

Для горада, канечне, ганарова, калі ў ім манаршая персона жыла, балі-феерверкі давала, паслоў замежных прымала, парады вайсковыя праводзіла з музыкай, са штандарамі. Але калі толькі горад цэніць шляхецкасць сваю, захаваныя магнацкія палацы, калі песціць карані свае, ашчаджае, шануе княскі і каралеўскі гербы старажытныя, а не гуляе ў плябейскія гульні. А інакш кароль — ён як ганебная пляма на рабочай робе, зацыраваная дзірка, ён — абясцэненая манета, скасаваная з абарачэння, ці зусім якаясь незразумелая, бадай фальшывая.

Кароль, а што кароль? Салавей у клетцы, нават папугай, як некаторыя кпілі, шчупак у нераце, ці хай залатая рыбка ў акварыуме, каб прыгажэй гучала. З першых, лічы, дзён пад прыглядам, пад чужой аховай, каб не дазваляў вольнасцяў, каб, не дай Божа, не ўмацаваўся мілітарна. Расейскія войскі кватаравалі ў Варшаве. Але звычная рэч тады, калі значная частка Еўропы нібы зрабілася абшарам пастаянных ваенных манеўраў, перасоўвання вялікіх армій, хуткіх маршаў, адлегласці вымяраліся жаўнерскай ступою, лічбай паходных дзён вайсковай калоны, карты навакольных краёў выкарыстоўваліся пераважна ў якасці штабных. Імператар Фрыдрых II нават не рамантаваў дарогі, каб замежныя войскі не рухаліся, як на парадзе, па прускай тэрыторыі. Расейская армія то была ў Кёнігсбергу, то займала Берлін, то стаяла ў Варшаве, то зноўку апынапася ў сталіцы Прусіі. Дамам усё больш падабаліся афіцэры.

Моцы хапала імператрыцы, каб гэтым часам вайну ваяваць з магутнай некалі Асманскай Турэччынай, што калісьці прагнула заліць еўрапейскія абшары сваёй гарачай чырвонай лавай. Асманскаму непрыяцелю хаўрусніца-імператрыца не давала жыць спакойна. І янычараў у той жа Варшаве немагчыма было ўявіць нават у жаху, апроч, канечне, янычарскай музыкі, якая набыла моду пры каралеўскім двары, з гаспадаром якога больш не варагавалі збройна пашы. Так-так, пры магнацкіх палацах пашырылася тая мода, магнатэрыя спаборнічала, як зазвычай, з самім каралём, заводзячы капэлы з янычарскімі медзянымі інструментамі і бубнамі, больш лічэбныя, гучныя, каб манарха зачапіць, каб, магчыма, насенне раздражнення закінуць у ягоны, вызвалены ад пустазелля, сад з экзатычнымі раслінамі.

Янычарская музыка — гаркавая моцная турэцкая кава, тамтэйшы тытунь, так-так, мультан, ад якога слёзы раптоўныя, як пот, паўднёвыя прыправы, ад якіх горла сцінала. Заморскія смакі, экзотыка, тавар з крамак нетутэйшых купцоў. Янычараў у Варшаве немагчыма было ўявіць нават з пасольствам ад галоўнага пашы, не магло быць ніякіх пасольстваў, у Варшаве кватаравала гвардыя імператрыцы.

І дзякаваць Богу, канечне, хоць не вядома ніколі, як урэшце манета ўпадзе: тварам, гербам, ці лічбай дагары. Янычарскае войска ў сталіцы над Віслай у недалёкай мінуўшчыне азначала б гвалт, кроў, смерць. Не прапусцілі янычарскую навалу магнатэрыя і шляхта каронная і велікакняская, крылатыя гусары, мушкецёры і швейцарскія найміты. А зараз забудзьцеся назаўсёды на жахлівыя хрысціянскія сны, на дзённыя ўявы-жахі, каралеўскія прыдворныя, салонныя дамы і юныя паненкі, — на вуліцах Варшавы маршыруе імператарская гвардыя, у казармах трымаюць порах сухім інфантэрыя і бамбардзіры, стала вострыць шаблі кавалерыя, не спіць варта, гатовая ў любую хвілю запаліць кнаты. Хаўруснае войска ахоўвае бяспеку яго каралеўскай мосці.

Што мацней адчуваў ён: абражаным сябе пасля жорсткай закуліснай барацьбы за пасад у каралеўскім замку варшаўскім, альбо радасць, палёгку, ці зняважаны гонар, сумесь згрызотаў сумлення са здаволенасцю разам? Перамог недабрадзеяў сваіх, адкрытых злоснікаў, так, падтрымка была, і гэта таксама праўда, але не такі ён няздатны сам, каб не мець важкіх шанцаў у часіну бескаралеўя. Так-так, ён — кароль, але кароль на час, так менавіта вызначыў элекцыйны сойм. І час гэты — апошні акт драмы аб каралеўстве, аб усёй Рэчы Паспалітай, як нам вядома цяпер. Будзьма разважнымі: выбары новага караля заўжды такія. Замежны элект шукае апірышча сярод магнатэрыі, шляхты, свой кандыдат — таксама, адначасова — падтрымкі суседніх дзяржаў. Нічога новага ў гэтым няма. Станіславу Аўгусту пашкодзіла, што замест імператара ў Санкт-Пецярбургу была імператрыца, кабета, па-другое, што не сакрэт, усе лічылі іх былымі каханкамі.

Шмат хто, ой нямала прынамсі, абывацеляў варшаўскіх, сузіраючы сталіцу, якая ашчэрылася чужымі штыхамі, углыбках душы не маглі не задумвацца над вялікай імператарска-атаманскай вайной, і ўява часамі падсалоджвала разынкамі, фінікамі, усходнімі слодычамі падманвала: як імператарская армія ў бясконцых аблогах паўднёвых моцных каменных фартэцый, у палявых баталіях на стэпавых абшарах пакрысе траціць свае моц, здароўе, лічэбнасць ад турэцкіх ятаганаў, ад гарматнай карцечы, ад зняможных хвароб, кепскіх харчоў і паганай вады, а таксама праз бяздарную тактыку, аб чым паведамляла салідная газета, атрыманая з Парыжа. Так-так, існавала патаемная мода, не прызнаючыся нікому, марыць квола аб пройгрышах армады, якая ў пэўным сэнсе ахоўвала іх цяпер ад ранейшага турэцкага ворага, ахоўвала супраць іхняй уласнай волі, так-так, трымала палец на цынгелі дзеля палітычных інтарэсаў Паўночнай Пальміры. Соль мары — каб войскі з Варшавы адклікалі на вайну.

Балі, на якіх не адчуваеш зусім разняволеным, зусім гаспадаром сябе, на якіх нібыта пад прыглядам, кароль мусіў бачыць абавязкова сёння самых моцных (з мядзведжымі абдоймамі) сваіх хаўруснікаў, спадчыну па Сасах, нікуды не падзецца, не адмовіцца ад якіх, не ўцячы. Прэсныя кампліменты, фармальныя ўсмешкі, падцукраныя размовы з келіхам у руцэ. Як жа яны апрыклі: амбасадар са світай, генералы з ад'ютантамі, пецярбургскія дамы са сваімі веерамі і пазяханнем. З'ехаць, з'ехаць, хутчэй з'ехаць з напалову свабоднай сталіцы, з напаўзалежнага існавання ў стары горад над Нёманам, у правінцыю, дзе яшчэ ўдавалася адасобіцца, адчуць сябе гаспадаром, дзе радавала вока, цешыла, абуджала амбіцыі вялікая будоўля, распачатая мілым яго сэрцу Тызенгаўзам Антоніем, пастаўленым кіраваць каралеўскай эканоміяй. Новыя сцены, рыштаванні, драбіны, стосы цэглы, пах свежай вапны і пілавіння.

У гарадзенскай рэзідэнцыі, у зусім новым вялікім палацы цяпер перабудова, адпаведна яго густам і патрэбам, там ён адчуваў сябе амаль у свабодзе, хаця яна не магла быць суздром сапраўднай, лёгкай, але як ілюзія яго бадай задавальняла ў вельмі вялікай ступені, не хацелася яе страціць таксама. Так, Горадня была яго каралеўскай мосці эканоміяй, яго тэрыторыяй, яго маленькай прыватнай краінай. Так, не зважаючы, у якім краі, каралеўстве, ці царстве, ці зусім азіяцкай дэспатыі стаіць горад, ён — зменшаная мадэль, узор усёй вялікай краіны, у якой цяпер знаходзіцца, з яе законамі, парадкамі, звычаямі, з яе палітычным уладкаваннем і рэлігійнай будовай.

Гарадам уласціва закладаць падмуркі, будавацца, замажнець і рабіцца праз гэта ласым кавалкам, здабычай, вайсковым трафеем. Некаторым шчасціць пережыць захоп, знявагу, рабункі, разбурэнні, акупацыю, іншыя перастаюць існаваць, ад сценаў, вежаў і храмаў застаюцца крушні і зарастаюць быльнягом. Здараецца, ад магутнага багатага места толькі жменя хацін, збудаваных на гарэлішчы або, у лепшым разе, яно ператвараецца ў мястэчка, захаваўшы герб, але без ратушы, без дзыгара на ёй, час больш не адмерваецца, горад апынаецца ў гістарычнай твані, у шлаку. Жыхары не могуць патлумачыць нават самім сабе, адкуль мог узяцца герб з арламі, цяльцом або афрыканскімі львамі. Ці не памылка часам цудоўны гербавы шчыт з незвычайнай выявай? Ці не згубіў яго ў несамавітай мізэрнай мясціне хтось, ступаючы аружна па раздарожжах гісторыі?

Бывае, гарады вандруюць, уласна назва іхняя, альбо аднолькавае імя атрымліваюць розныя гарады больш-менш па-суседску ці на істотнай адлегласці. І калі ў хроніцы ці ў летапісе пра горад з такім назовам захаваецца якаясь згадка — вельмі важная ці, наадварот, цьмяная, нязначная, амаль выпадковая, папросту радок, — пазнейшыя даследчыкі зацята псуюць дзіды ў акадэмічных спрэчках, пасылаюць баявых сланоў і калясніцы, штурмавыя вежы і сценабойныя машыны, выкарыстоўваюць хмары крытычных стрэлаў і ледзьве не славуты грэчаскі агонь, які надзвычай цяжка пагасіць, робяць запальна ўсё магчымае, каб давесці сваю рацыю, каб перамог выключна іхні погляд на тое, які менавіта горад называўся ў сівых вяках, напрыклад, Горадзень, Горадня, Гародня?

шаўскім пляцы! Неабавязкова з Парыжа, на месцы зрабіць — невялікая праблема, абы чарцяжы. Як рэвалюцыйны чын, як сатысфакцыю, як гвалтоўны помнік завяршэння ганебнай эпохі караля-злачынцы, думалася ім. Стрыманасць, памяркоўнасць і разважнасць, за гэта яго люта не любілі. Бадай, гэта ж вылучае сёння й нас, мы такія ж. На жаль, з моўніцы, як і тады, — нецярплівасць, непрыхільнасць, абвінавачанні. Як я разумею караля! Як нам яго сёння не хапае! Так-так, такі не мае шанцаў, але як хочацца бачыць інтэлігентны твар, разумныя вочы, шляхетнасць, вытрымку, дыпламатычнасць, павагу да іншых. Няўжо ў нашых слоўніках усё гэта канчаткова і безнадзейна мае пазнаку «архаічнае»?! Калі мова пра вяртанне высакародных людзей, то я манархіст самы шчыры! Вярніце нам нашага караля, Новы замак чакае, партыйнага кіраўніцтва даўно духу няма!

Але караля няма й больш не будзе, ёсць адно чалавек, які пэўна адчувае не толькі сімпатыю да яго, але і нейкім чынам падабенства, які нават напісаў кніжку пра Станіслава Аўгуста, што зусім не выпадкова, але якога не дапусцяць да стырна, дзе шляхетнасць лічыцца недарэчнай, несучаснай, шкоднай. Няма караля, адно згадкі ў траўні, пачынаючы з дня ўгодкаў той, колішняй канстытуцыі. Я сяджу на вялікім балконе гледачоў на дзвесце ў адрамантаваным тэатры, польскі консул запрасіў спевакоў Варшаўскай оперы ўспомніць канстытуцыю, якая рэальна ніколі не дзейнічала, надаць ёй правамоцнасць ніхто больш не думае, яна безнадзейна састарэла, дата, аднак, засталася. Святкаваць канстытуцыі гадавіну, якой ніхто не карыстаецца! Побач з Новым каралеўскім палацам, у якім, што праўда пад ціскам, прынялі потым яе эрзац — так званую Гарадзенскую, папярэдняя бо здалася суседзям празмерна смелай. Яна таксама, што не сакрэт, зусім не дзейнічала, стаўшы толькі сведчаннем працягу агоніі, адной з апошніх сутаргаў. Тэатр, так-так, насупраць дакладна славэтнай залы Сенатарскай, дзе адбываліся соймы.

Падмацаваць спевам тых, хто трымае ў памяці, хто не забываецца, прыехалі дзве салісткі, сапрана і мецца-сапрана, адна бялявая, але не пекная, другая, маладзейшая, чарнявая, як крывічы, з выразна нашым прозвішчам, яна табе з адлегласці і вышыні нагадвае агульна аблічча вядомай замежнай актрысы, трэба сказаць прыгожай. З імі бас і бас-барытон, яны супольна выконваюць патрыятычныя песні двухсотгадовай вытрымкі: пра канстытуцыю, пра інсурэкцыю, Станіслаў Аўгуст нечакана таксама ўзгадваецца, не толькі Касцюшка, прычым нейтральна. Свята! Не да абвінавачанняў. Варшаўскі канферансье запаўняе паўзы не ў патэтычным стылі, але ў жартоўным. Маўляў, любіў жаночы пол кароль апошні, яго й згубіла гэта, што зробіш, се ля ві… У падборы назваў адчуваецца асцярожная рука: ніхто не заклікае ваяўніча Дамброўскага крочыць неадкладна «до Польскі!». Напруга паміж Горадняй і Варшавай — рэч вядомая, яны разбегліся ў розныя бакі пасля скасавання Варшаўскага палітычнага хаўрусу… Пад заслону адно «Не згіне ожэл бялы, не згіне польскі дух!» натхнёна спявае стоячы зала, я таксама стаю, але моўчкі, не маючы польскага духу, адкуль?! Бас з басам-барытонам вядуць рэй як мае быць у старашляхецкіх строях, якіх не любіў Станіслаў Аўгуст, толькі шабельку прывешай.

Так, любіў жанчын, менавіта, варта было, інакш яны давялі б да магілы, польскія патрыёты. Паслабляючы яго, яны паслаблялі нашу агульную тады краіну, бо ўмовы адметныя існавалі: то алей скончыўся, то патэльні не вымытыя, то чэрці лыка не вяжуць. Але жанчыны любілі не толькі караля, многім падабаліся смелыя, маладзейшыя і прыгажэйшыя за яго прамоўцы, якія з крытычнай зброяй рашуча рыхтаваліся да соймавых дэбатаў, вострачы языкі. Што ён мог парадзіць?! На галерэі зверху, калі збіраліся паслы, звычайна здаралася нямала жанчын, іх цікавілі гарачыя спрэчкі, і прамоўцы, так-так, кароль з прыкрасцю гэта бачыў, выступалі часта, каб абавязкова спадабацца жанчынам, яны ў акцёраў амаль ператвараліся, каб выглядаць адважнымі героямі-патрыётамі, спаборнічалі — хто самы рашучы прамоўца. Так было ў Варшаве, так было ў Горадні, кабеты сваёй цікаўнасцю, самой прысутнасцю і жывой рэакцыяй даволі нашкодзілі палітыцы караля, хай толькі ўскосна, што зробіш, жанчынамі кіруюць эмоцыі. Як напісаў паэт: «Мы кіруем светам, а намі кабеты, “нестэты”».

Горш, што эмоцыі кіравалі ягонымі праціўнікамі, а прысутнасць прыгожага полу прымушала фарсіць. Атрымаць захоплены позірк, паветраны пацалунак, ад цалавання ручак да ночы кахання… Адны і другія паводзіліся нібы ў тэатры. Дэпутаты натхніліся ў французаў, начыталіся парыжскіх газет, брашурак — «свабода, роўнасць, братэрства», «грамадзянскія вольнасці», «правы асобы», у іх існавалі два бзікі — любы ўрад будзе дрэнны, што ні рабі, і трэба абавязкова абмежаваць уладу караля. Ваеннае будаўніцтва ператварылася ў асабліва зацягненую гаварыльню з прысмакам фарса. Статысячнае лічбай войска выглядала адразу фата-марганай. Ніхто не верыў па-сапраўднаму, але ўсе спрачаліся, дбаючы перш пра асабістыя справы: якія наплечнікі сабе, якія — сваякам і прыяцелям, не прысутным на сойме, атрымаць пры галасаванні.

Войска заставалася на паперы, бедаваў пазней экс-кароль, а генеральскія шэрагі ўсё павялічваліся. Пасол С. тыдзень перашкаджаў пасяджэнням, пакуль не дамогся генеральскага звання для свайго заступніка, другі тры дні палкі ў колы ўторкваў, «ліберавецтваваў», пакуль не вырваў зубамі генеральскую вакансію. Плоцкі дэпутат, атрымаўшы маёра, пакрыўдзіўся з помстай — гамаваў пасяджэнні, пакуль не быў падвышаны. Як знайсці грошы, не ведалі, але бясконца спрачаліся: ці даваць белыя нагавіцы кавалерыйскія пяхоце таксама? Якія рабіць пасы са спражкай — аднолькавыя для шаблі, шпагі, цесака ці адрозныя? Абгаворвалі падрабязна ледэрверкі, колер прыборнага металу, «маладзікі»-рынграфы для афіцэраў, флінтпасы, цемлякі, колер эпалетаў, каўняроў, лацканаў і нават абламоўкі мундзіраў. Кожны прагнуў сказаць сваё слова. Відавочна, дэпутатам вайсковая справа падабалася, злашча ў жаночай прысутнасці, запальнае абмеркаванне дазваляла часова забыцца, не зважаць, прынамсі, на патрэбу так наладзіць збор падаткаў, каб хапіла на ўсё, на гарматы з порахам таксама. Прасцей было зацвярджаць на паперы ўяўныя харугвы, швадроны і рэгіменты па спісах — да прозвішча апошняга унтэр-афіцэра, нават калі іх яшчэ няма. Што ж, наш

парламент таксама спрачаўся: чым замяніць агульныя варшаўскія, хаўрусніцкія зорачкі на пагонах памежнікам нашым, ды Нёманскай флатыліі, ды слаўным парашутыстам, але што зробіш — ва ўсіх арміях зорачкі аднолькава любяць — хто з сярпом-молатам, хто з арламі, львамі або з зорна-паласатым у спалучэнні.

Гістарычную асобу ўяўляць у старасвецкіх дэкарацыях — натуральны рух, пагатоў уяўляць караля, кароль, ён галоўны ўдзельнік спектакля, на сцэне асоба ў кароне з нашага боку Еўропы ўспрымаецца больш да месца, чым нават у кіно. Пасля рамонту ў нашым тэатры падбалі пра відовішчнасць, на кулісныя машыны ўзбіліся, у тэатры Тызенгаўза каралеўскім іх было, здаецца, пяць. Я б зрабіў спектакль, каб сцэна рухалася па колу, яно падзелена на чатыры сектары — накшталт дзвярэй у замежных гатэлях. Гэта супадзенне з порамі року, перыядамі дня ці з чатырма адмежкамі жыцця, аднак мне бачыцца хутчэй іншае: тры падзелы і дэтранізацыя, ці, можа, лепей — каранацыя, па чарзе, будаўніцтва, канстытуцыя, падзелы-фінал. Дэкарацыі можна нават змяняць: соймавы гармідар, вялікі гадзіннікавы механізм, вежавы, які Станіслаў Аўгуст узяўся наладзіць, друкарня каралеўская, дзе выпускаюць «Газету Гродзеньску», ветракі — Гарадніца — гарадзенская Галандыя, конная статуя Яна III Сабескага ў Лазенках, чужынскія войскі, жаўнеры з запаленымі паходнямі, тэатр, абавязкова тэатр, а таксама — шыбеніца і следам за ёй — гільяціна. Карацей, хуткая змена антуражу, інтэр'ераў, кола гісторыі, паскараецца рух, карусель, тэатральны ажыятаж, амаль броўнаўскі гармідар, рэвалюцыя.

«Ноч у музеі» пакінула нядосыт, яна заўжды ў траўні, як вядома. У сэнсе — ноч у Новым каралеўскім палацы з музейнымі зборамі, дзе ўсё пачынаецца якраз з эпохі апошніх каралёў, калі Новы палац менавіта пабудавалі для соймавых дэбатаў, усё, што ранейшае — у вітрынах у замку Старым, цераз арачны мост — на асобным пагорку які. «Ноч у музеі», задуманая нядрэнна, але не бліскуча зробленая. Дзеянне — замест раскручвацца, як распроствaецца спружына, каб публіцы не хацелася спаць — запавольвалася, катастрафічна не ставала жвавасці, руху, артыстызму нават, дзесь лёгкай таямнічасці, дзесь маскараднасці, правакацыйнасці пэўнай. Дзе тыя жаўнеры з запаленымі паходнямі, дзе жанглёры агнём? Дзе сам кароль, хай акцёр у камзоле, панчохах і чаравіках са спражкамі, скажыце, дзе мадзеючыя прыдворныя дамы ў парыках з веерамі?! Мне здаецца ў гэтыя хвіліны: я сам бы згадзіўся выйсці каралём на публіку і зачытаць штось з «зашклёнага» фаліянта, балазе валасы ў мяне як ніколі доўгія, парыка сапраўды не вымагаюць. Але ж не! Кепска асветленая высокая сенатарская зала, ты чуеш вядомае табе: так-так, тут менавіта адбыўся той фатальны сойм, вось там стаяў трон, на якім сядзеў сам Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, ты разам з усёй публікай паварочваеш галаву, але нічога не бачыш, апроч сцяны. Табе чытаюць урыўкі з вядомага «Апошняга сойму Рэчы Паспалітай», пераклад з перакладу. А пісьменнікі, якія карыстаюцца мовай крывіцкай, да тэмы гэтай яны не набліжаліся, не чапалі? Тваё пытанне да чалавека з мікрафонам, гаспадара ночы. Не, ім гэта не трэ-

ба, яны ставяцца да каралеўскай эпохі, як да чужой гісторыі… Мастакі нашыя караля таксама баяцца? Ён для іх таксама чужы, ці ўвогуле — небяспечны? Вы не хацелі б павесіць тут на сцяне, дзе трон стаяў, партрэт Станіслава Аўгуста Панятоўскага? У мяне замест наступнага пытання атрымліваецца і рытарычнасць, і крыўда, і амаль гатовы адказ. Дык жа не малююць, што вешаць? Няма чаго, няма й размовы… А ў шкляным футарале гваздом ночы сумная гістарычная рэліквія — сшытыя ў фаліянт рукапісныя дакументы апошняга сойму. Зашмальцаваная кніга ганьбы і безнадзеі. Што ж, ворагаў караля часам можна цалкам зразумець…

У нас рэвалюцыі — гэта вечна святое, іх па-ранейшаму называюць пагалоўна «вялікімі» і адзначаюць угодкі. Маўляў, само слова грандыёзнае, рэвалюцыя не можа здарыцца малой, недаспелай, зялёнай, недапечанай, сырой. Вялікая і французская — пагатоў не выключэнне, яна адна з самых вялікіх. Спектакль з яе нагоды ў былым Тызенгаўзавым тэатры. Мне падабаецца сядаць у амфітэатры, лепей усярэдзіне, але не абавязкова. Дзе ж, цікава, была ложа караля? Тут штосьці памянялася, але не цалкам. Партэр, два ярусы, гэта захавалася, вось толькі дваццаць дзве ложы, яны сталіаднойчы непатрэбныя, зрабіліся перашкодай. Горад пастанавілі забудаваць заводамі і фабрыкамі, але зусім не ў стылі квітнеючай Галандыі, квіткі распаўсюджвалі прафкамы ў працоўных калектывах, крэслаў у тэатры пачало не хапаць і аднойчы пабудавалі гмах, пакінуўшы былы сціплы каралеўскі марыянеткам.

Спектакль называецца інакш, але я б яго назваў «Танцамі вакол гільяціны», у рэшце рэшт яе раз-пораз з рыпеннем колаў вывозяць з-за куліс, а калі няма на самой сцэне, яе замяняе выява на задворках, яна апускаецца зверху. Рэвалюцыя звонку — гэта стыхія, злавесны маскарад. Акцёры танчаць на каралеўскім прыёме, танчаць, рухаючыся на штурм Бастыліі, скачуць, святкуючы на пляцы перамогу, з прасталюдным энтузіязмам радуюцца гільяціне, яна — іхняя дама, з якой прагнуць станчыць і запрыязніцца, з якой нікому не хочацца сапсаваць адносіны. Але выконваюць танцы яны заўжды з аднолькавымі тварамі, абыякавымі ці здранцвелымі, твары сцятыя, быццам гэта маскі, рэвалюцыйны вір, які іх захапіў, не адмяняе першай важнасці: танцору тут галоўнае атрымаць плату — грошы ці ежу. Другая важнасць: захапленне паступова змяняецца страхам, трапіць на гільяціну не хочацца нікому, але цяпер ніхто ад яе не забяспечаны.

Мае думкі аб тагачасным тэатры: драму прыдумаў Дзідро, яго не задавальняў падзел на высокі і нізкі жанры, у гэтым была ненатуральнасць, значны прагал, як белая пляма на геаграфічнай мапе. Патрэбна было відавочна штосьць сярэдняе, бліжэйшае да звычайнага жыцця з мовай вуліц і плошчаў, дзе зусім не выказваюцца суцэльным вершам. Але тэатр не плошча, у тэатры ўсё роўна нічога не адбываецца, як у жыцці, лічыў Дзідро. Ён патрабаваў ад акцёраў разумовасці і разважнасці, здольнасці мысліць адцягнена. Так-так, акцёру таксама патрэбна назіральнасць, але й халоднае майстэрства, веданне ўмоўных правілаў мастацтва і ўменне падпарадкавацца ім, нават калі табе сёння зусім дрэнна, ты хворы і знябыты. Вывучай прыроду чалавечую,

май аб усім абавязкова свае ўяўленні, трымай іх у памяці, іграй абдумана, свядома, валодай сабою штохвіліны, вось я й спрабую.

Так-так, я ў сэрцы цяпер «новабудоўлі» той каралеўскай, у тэатры, на жаль, калі яго канчаткова пабудавалі, каралю было ўжо не да тэатра. Я засяроджваюся, усё канцэнтруецца: думкі мае, гістарычныя дэкарацыі навокал — побач з «марыянеткамі» цагляны лямус пад дахоўкай, як цацка, у ім цяпер рэстарацыя з каралеўскай катлетай, між іншым, а вось медыцынская былая акадэмія выглядае зусім не так святочна з шыльдай камендатуры, ваякі абяцаюць калі-небудзь пакінуць камяніцу рэстаўратарам, улада цярпліва чакае. Захаваўся прыгожанькі пляцык Тызенгаўза няправільнага абрысу з Крывой афіцынай, дзе ў сутарэннях галерэя, так-так, з назвай менавіта «Тызенгаўз», некалькі каралеўскіх пабудоў і выцягнуты палац — цераз мост — шпэтны нядаўна, яму цяпер спрабуюць вярнуць занядбаную прыгажосць.

Мяне зачароўваў макет прадмесця Гарадніца, дзе я цяпер у тэатры, яно было цэлай новай Горадняй побач старой. Маленькія камяніцы з чырвонымі дахамі былі на стале ў гмаху ўлады, дзе працаваў аматар Станіслава Аўгуста, — я раней узгадваў пра гэтага чалавека. Ён глядзеў з акна зверху на тое, што засталося ад Гарадніцы, у яго былі аднаўленчыя планы, а потым рамантыкаў пазбыліся. Цяпер улада ачулася, ёй заманулася замежных турыстаў, яна зноўку хоча палюбіць рэстаўрацыю. А чалавек гэты крытыкуе: народжаны, каб поўзаць, лятаць не здатны. На карыкатурах у яго адна рука Масквы, другая — Варшавы…

Пра мармур, які не смяецца, прыдумаў Дзідро, не толькі ён любіў такія сцверджанні выдумляць. Не смяецца? Гэта здаецца відавочным, на першы погляд, неаспрэчным, як аксіёма. Але ж гэта бронза, бадай, не смяецца, чыгун пагатоў, волава і нават умярцвёнае дрэва. Парцалянавыя фігуры Аўгуста II, яны таксама няўсмешлівыя. Але мне здаецца, што мармуровыя статуі, яны хай не смяюцца, але здольныя пасміхацца, злёгку, някідка, нібы пасміхаюцца самі сабе, але гэта залежыць не ад мармуру, ад вачэй і душы, ад унутранага стану майстра. Мне здаецца, мне даводзілася бачыць гэтую ледзь заўважную ўсмешку, толькі не магу ўзгадаць — дзе. Я не ведаю таксама, ці можа мармур стаміцца ад мармуру, як сказаў іншы пісьменнік. Стаміцца і заплюшчыць вочы? Але ж! На пастаменце помніка ў Лазенках помслівая рука накрэсліла здзекліва пра чын караля:

Яну Сабескаму ён статую паставіў:
Коштам сто тысяч, я б удвая паклаў,
Каб Ян аджыў і скамянеў хай Станіслаў.

Не ажыццявілася гэта да сённяшніх дзён, і я магу колькі заўгодна выбіраць месца для помніка — каля Крывой афіцыны, ці далей — перад палацам на Гарадніцы, ацэньваць фон: фасад, аздобу сценаў, форму і памеры вокнаў, словам, франтоны, картушы, аркатуру, нішы-бленды, гзымсы, гарэльф, ліштвы, маскарон, люкарны, філёнгі, усё марна. Яму не пашэнціла, ён быў бы на сваім месцы ідэальным чынам, каб не меў ворагаў, каб не было рускіх,

прусакоў, аўстрыякаў… Каб я рабіў надмагілле, я б зрабіў статую караля, які трымае ў руках на жываце макет Гарадніцы, маленькай Галандыі, якая глядзіцца нават праз заслону часу файнай мясцінай нашых продкаў, дзе ўсё спачатку ладзілася, дзе ўсё зачароўвала нават еўрапейскіх замежнікаў.

Лясь! З-пад нажа гільяціны адскоквае галава, галава лялькі, але ты здрыгануўся ад раптоўнасці, і табе здаецца, што зала скаланулася таксама. Так здараецца, калі чагосьці чакаеш, але траціш часова пільнасць і —знянацку! Так, я — кароль, я ў сваёй ложы на прэм'еры італійскага балета, назва падманліва сведчыць, што дзея будзе прысвечана каханню, але гэта каханне ў дэкарацыях рэвалюцыйнага Парыжа — «Свабода, роўнасць, братэрства!». Лясь! Герой-палюбоўнік простага паходжання, як самнамбула, бярэ аберуч галаву каханкі, якая пакарана за шляхецкі стан, і паволі ўзнімае, каб убачыла ўся зала… Маршалак Мнішак на наступны дзень абвяшчае цэнзуру на п'есы.

У сённяшнім спектаклі менш кахання, больш палітыкі, але гільяціна, яна па-ранейшаму ў цэнтры ўвагі. Яна чакае ўсю дзею, што няўмольна рухаецца да гільяціннага фіналу… Хаваюць караля з кпінамі, з галёканнем — «Кароль памёр, няхай жыве кароль!». У труну кладуць асобна галаву, асобна карону. Мёртвая цішыня ў зале.

*2009*



Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Закончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. З 1984 года жыве ў Гродне, адзін з пачынальнікаў гродзенскага клуба «Паходня», удзельнік літаратурнага таварыства «Тутэйшыя», сёння — сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў і ПЭН-цэнтра. Выпусціў кнігі «Янычары», «Цэнзарскія нажніцы», адзначаныя «Гліняным Вялесам» у 2000 годзе, «Лісты да хома саветыкуса», «Кактэйль Молатава», «Каты Ёзафа Ратцынгера». У 2012 годзе ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы kamunikat.org з'явіліся кнігі «Райскія яблычкі» і «Жалезная заслона з арнаментам».



## Бацька

*Апавяданне*

Такой дарогі, як ад Дзятлава да Галубоў, на гэтым свеце пэўна што і няма. Часткова адсыпаная ўжо пры цяперашніх Саветах, месцамі вымашчаная немцамі яшчэ ў Першую сусветную. Дарога гэтая толькі што завецца дарогаю, а так прасека прасекаю з безліччу маленькіх масткоў ды пераправаў. Мала хто на яе трапляе з добрых людзей, асноўныя ж ездакі тут браканьеры розных масцей і зладзеі, што цягаюць з пушчы мораны дуб ды ясень. І вось я, журналіст абласной газеты, і шафёр Зміцер, трасёмся на гэтым гасцінцы ўжо дзве гадзіны запар. Па праўдзе кажучы, не люблю ні вышэйузгаданую дарогу, ні мясцовую прыроду, ні тэму пра тамтэйшую партызанку, пра што і мушу пасля прыезду ў Гародню штосьці накрэмзаць. Але я, як і большасць нашых журналістаў, накіраваны сюды сёлетняй вясной па заданні рэдакцыі. Дзякуй богу, жыхары тут дужа ветлівыя: і накормяць, і напояць, а калі спадабаешся ім, то і з сабою карчоўкі грэлку нальюць. Карчоўка — мясцовая назва самагону, а грэлкамі, каб не знайшлі міліцыянты, тубыльцы экспартавалі згаданы вышэй напой з пушчы цывілізаваным аматарам. Ну, і вось еду я па гэтай дарозе, скарачаючы шлях, за акном цёплы красавіцкі дзень. Побач са мной шафёр Зміцер, хударлявы хлапец гадоў трыццаці пяці, аматар мясцовай карчоўкі і іншых грымучых напояў. Праглядваю матэрыял, які назбіраў пра мінулую вайну ў Дзятлаве і ваколіцах, а Зміцер у сваю чаргу штосвет кляне жыццё, мяне і чамусьці галоўнага рэдактара. На маё пытанне, за што рэдактара, я пачуў толькі лаянку і праклён у бок савецкага ўрада. Шчыра кажучы, для мяне адказ наконт нездавальняючага настрою ўзбунтаванага шафёра ляжаў на паверхні. Ішоў трэці дзень камандзіроўкі, а ён яшчэ ні разу не прычасціўся мясцовым алкагольным рарытэтам. Хаця ні я і, што важна, ні наш рэдактар аніякага дачынення да яго алкагольнай смагі не маем. І вось неўзабаве, не даязджаючы да вёскі Руда Ліпічанская, на ўзбоччы дарогі мы заўважаем нейкі дарагі замежны легкавік з задраным дагары капотам, а каля яго чалавека гадоў пяцідзесяці, прыстойна апранутага, з паднятай рукой. Зміцер, прадчуваючы неспадзяваны «гешэфт», бярэ ўправа і цісне на «гамульцы».

— Добры дзень, шаноўны! Як цябе занесла ў гэтую глухамань?

— Ды вось, «Мерседэс» сапсаваўся.

— А хіба ж «Мерседэсы» псуюцца? — не даўшы дагаварыць незнаёмцу, здзекліва перахапіў Зміцер.

— Псуюцца, як бачыце.

— Ці можам чым дапамагчы? — умяшаўся ў размову я.

— Едзем у вёску Ярнева, на гадавіну, у тым красавіку маці на тамтэйшых могілках пахавалі, вось зараз з бацькам дабіраемся, як бачыце.

Мужчына павярнуўся да свайго аўто і развёў рукі. У гэты самы час з «Мерседэса» вылез сівавалосы згорблены чалавек даволі высокага росту гадоў каля васьмідзесяці. Ён акуратна зачыніў дзверы аўтамабіля, павярнуўся ў наш бок і паважна павітаўся. Пасля гэтага ён амаль нябачна кіўнуў галавой сыну, і той, як спрынтар, рвануў да свайго легкавіка.

— От, Зміцер, каб да нас з табой так дзеці спяшаліся.

— Мгу-у, глядзі, нашых і па піва нараніцу не пашлеш, хоць памірай.

Стары, апіраючыся на руку сына, даволі жвава падышоў да нашага аўто і абапёрся на яго крыло.

— Ну дык што, хлопцы, падвезяце дзеда? — на маршчыністым твары старога бліснула скупая ўсмешка.

— Ну, канечне, у чым справа, і вас, і сына — усіх падвязём! — прадчуваючы ўдалы вечар, загаманіў Зміцер.

— Не, мяне не трэба, я паспрабую ўсё ж такі «мэрс» адладзіць, а потым сам і прыеду.

— Ну і добра, ваша справа, а вы, дзед, калі ласка, сядайце. — Зміцер, нібыта гайдук якога-небудзь магната, паслужліва адчыніў дзверы і акуратна ўсадзіў на задняе сядзенне пажылога чалавека.

Праз пару хвілінаў наш неўміручы «Ленінец» ужо ляцеў, як сокал, у накірунку Ярнева. Ехалі мы моўчкі. Я ўсё думаў, як нешта накрэмзаць з матэрыялу, сабранага напярэдадні. У галаве круціліся розныя варыянты, але як толькі я напружваў памяць, дык мне здавалася, што нешта падобнае я пісаў раней.

«Халера яго ведае, што тут выдумаць», — разважаў сам сабе я.

— А як гэта вы ў нашыя мясціны трапілі? — упэўненым голасам, парушыўшы маўчанне, прамовіў дзед.

— Ды вось матэрыял да Дня Перамогі збіраем, — паспяшаўся адзначыцца Зміцер. У гэтых словах майго шафёра адчувалася і адказнасць за даручаную справу, і неабходнасць выканаць заданне рэдакцыі, а галоўнае, прадчуванне неблагога барышу, які ён намагаўся атрымаць у Ярневе. Я раздражнёна паглядзеў на Зміцера. Дзед, адчуваючы напружанасць, працягнуў сваю міралюбівую палітыку і звярнуўся ўжо да мяне прыватна.

— Я так разумею, гэта вы журналіст?

— Так.

— А што вы на чалавека гэтак злуяцеся? Ён жа проста шафёр, і ўсё.

— Ну, і я гавару, чаго тут злавацца, — падхапіў Зміцер.

— Ды я не на цябе.

— Не-е, не-е, на мяне, я ж адчуваю.

— Так, Зміцер, кінь лухту несці і ўважліва глядзі на дарогу.

— Гляджу, што я, на гэтай дарозе першы раз? — Пасля маёй амаль сяброўскай заўвагі Зміцер супакоіўся і далей паехаў спакойна і ўпэўнена. Я ж павярнуўся да нашага спадарожніка і са стомленасцю ў голасе прамовіў:

— Ды вось перад святамі мушу напісаць штосьці пра вайну.

— А хіба з такім песімізмам што-небудзь вартае напішаце?

— А вартае і не патрэбна, я працую журналістам ужо дваццаты год і кожны раз пра адно і тое ж пішу на Дзень Перамогі.

Дзед задумаўся, а затым, сатхнуўшы, дадаў:

— Канечне, цяжка кожны раз няпраўду пісаць, навучылі Саветы і старых, і маладых толькі пра ваенныя перамогі ўзгадваць, як быццам не было «Налібоцкага катла», узяцця Мінска немцамі на чацвёрты дзень вайны. Знаеце, але і вы, журналісты, не лепшыя, што вам ні гавары, вы ж толькі і пішаце пра медалі ды нейкі міфічны гераізм.

— А я хіба гаварыў, што мы не вінаватыя ў гэтым сусветным блюзнерстве? Я лічу, што мы, журналісты, самыя адказныя за ўсё і ёсць. А хаця-я… Усе хлусяць: і мы, і дзяржава, і ветэраны — усе.

— Вы шчыра лічыце, што ўсе?

— А хіба не так? — ужо зусім упэўнена прамовіў я.

Дзед зірнуў у бакавую шыбу аўто, затым адкашляўся і ціха, нібыта толькі для сябе, прамовіў:

— А каму патрэбная тая ваенная праўда?

— Вы лічыце, што нікому? — ужо крыху націскаючы на свайго суразмоўцу, прамармытаў я.

Дзед і не спрабаваў апраўдвацца. Ён працягваў гаварыць нібыта для сябе, ціха і спакойна:

— Знаеце, на вайне ты жывеш з пастаянным прадчуваннем смерці, і яе непазбежнасць прытупляе ўсё закладзенае ў чалавеку Збавіцелем. Праз некаторы час ужо нават Бог не зможа растлумачыць, дзе на вайне праўда, а дзе лухта. Ад таго тыя, хто па-сапраўднаму ваяваў, ад пражытку не сказалі праўду. А ляпечуць пра перамогу тыя, хто пра вайну толькі чуў. І то не ад саміх ветэранаў.

Мяне захапіла гэтая палеміка, і я ўзяў на сябе смеласць задаць яшчэ адно пытанне суразмоўцу.

— А як жа сумленне, як быць з сумленнем?

Пасля гэтых слоў у «Масквічы» стала зусім ціха, нават Зміцер збавіў хуткасць і ўважліва пачаў сачыць за нашай размовай. Цішыня цягнулася некалькі хвілінаў. Я чакаў, што нарэшце скажа гэты вопытны, відаць па ўсяму, адукаваны чалавек. Ён жа працягваў маўчаць, толькі глядзеў у запыленае акно «Масквіча» і думаў пра нешта сваё. Адчуўшы, што дзед не хоча болей гаварыць пра вайну, я вырашыў нашу палеміку скончыць, але перад тым палічыў абавязковым назвацца.

Пажылы чалавек павярнуў галаву ў мой бок і, яшчэ раз сатхнуўшы, павольна працягнуў мне сваю руку:

— Міхась Чэчат.

Пасля сказанага мой новы прыяцель нейк глыбока задумаўся, павярнуў галаву да акна і замаўчаў. Я ж, як мог, уладкаваўся на сваім месцы і зноў акунуўся ў свае разважанні пра маю паездку ў тутэйшыя мясціны…

— Так, дзед, вось і Ярнева. Тут куды ехаць? — Пасля сказанага Зміцерам дзед і я ажывіліся.

— Ды вунь мая хата.

— Каторая? — пакручваючы галавою ў розныя бакі, выпаліў Зміцер.

— Ды на рагу, каля старой бярэзіны.

Зміцер, як сталічны таксёр, шпарка падкаціў «Масквіч» да брамкі дзедавай хаты і якраз каля згаданай бярэзіны моцна націснуў на тармазы. Мы з дзедам ледзь не вылецелі са сваіх месцаў.

— О-о-о, калі ласка, дзед, як дамоўлена, якраз пад пад'езд.

— А дзе ты пад'езд тут бачыш? — з гумарам прамовіў я.

— Вось бярэзіна — гэта і ёсць пад'езд. — Мы са Зміцерам засмяяліся. Падняўся настрой і ў нашага спадарожніка.

— Ну што, хлопцы, дзякуй вам, што падвезлі старога, а цяпер пойдзем са мной на вячэру.

Зміцер імгненна вылецеў з-за руля і, нядоўга памарудзіўшы каля багажніка, вывалак адтуль тую самую здаравенную сумку, што была з дзедам. Я таксама вылез з «Масквіча». Дзед стаяў каля сваіх дзверцаў і чакаў.

— Хадзем да мяне павячэраем, а там, глядзіш, і паразмаўляем.

— Не, нам трэба ехаць, вунь зараз ужо ноч.

— Не, ну што гэта такое, хадзем, хадзем…

Дзед цягнуў мяне ў накірунку хаты. У гэты самы час падбег Зміцер і, падхапіўшы нашыя клункі, накіраваўся ў двор.

— А ты куды?

— Як куды, таварыш журналіст, вячэраць жа мы павінны.

— Канечне, канечне, — стары Чэчат яшчэ мацней ухапіўся за руку і пацягнуў да хаты. Што мне заставалася рабіць? Паддаўшыся на ўгаворы Зміцера і асабліва дзеда, я пакрочыў за імі.

У пакоях было даволі прасторна і чыста, і, калі ўлічваць, што ў ім ніхто не жыве, жытло абсалютна не выглядала пакінутым.

— Такое адчуванне, што тут хтосьці пастаянна прыбірае, — звярнуўся я да гаспадара, які выцягваў на стол розную правізію са сваёй агромністай сумкі.

— А-а-а, ды Алесь дамовіўся з суседкай, — вось яна тут і гаспадарыць, і зімою сюд-туд прапальвае. Ну, і ён сам часта тут бывае: то на паляванне, то на рыбу. — Дзед спрытна спраўляўся са сталом і яшчэ паспяваў са мной пра нешта размаўляць.

— Сын ваш вельмі да вас хораша ставіцца. Мы сёння дзівіліся са Зміцерам.

— Праўда? — з задавальненнем прамовіў, крышку адарваўшыся ад сваіх спраў, дзед.

— Слухайце, а дзе дзеўся Зміцер?— Я нахіліўся над сталом і выглянуў у акно.

— Дык я не ведаю, пэўна, каля машыны сваёй, — прамовіў дзед.

І толькі мы пакінулі ўзгадваць Зміцера, як у хату не зайшоў, а ўваліўся персанаж, пра якога мы толькі што гаварылі. П'янюткі, як бот, шафёр плюхнуўся на старую гарбатую канапу.

— Зміцер, навошта ты так? А як жа ехаць?

— Значыцца, ніяк. — Пасля сказанага Зміцер, каб не выслухваць натацыі, нешта бармочучы, падклаў абедзве рукі пад сваю галаву і праз хвіліну захроп. Я не першы раз быў з ім у розных паездках і добра ведаў, што цяпер яго дабудзіцца немажліва. Ад таго развёў рукамі і спакойна сеў на ставец, які стаяў тут жа.

— Ну нічога, хай паспіць, — спакойна прамовіў стары Чэчат.

— Ну канечне, што ты яму зробіш? І дзе ён гарэліцу паспявае знайсці? Часу ж прайшло ўсяго хвілінаў дваццаць. У рэдакцыі таксама ўсе добра ведаюць, што ён гарэлку страшна любіць. Але дзе ты другога шафёра знойдзеш на мізэрны заробак.

— А што, зусім малы? — пацікавіўся дзед.

— Ды што там, усяго семдзесят рублёў у яго… А сын у вас толькі адзін ці ёсць яшчэ хто?

— Не, толькі адзін, была яшчэ жонка, ды вось той вясной памерла.

Я прыставіў ставец да рога багата накрытага стала. Стары Чэчат паставіў перада мной чарку, адкаркаваў пляшку нейкай замежнай гарэлкі. Пасля таго як чаркі былі ўжо напоўненыя, я прапанаваў выпіць за сына старога Чэчата, які ўсё тут прыстойна падрыхтаваў. Мы выпілі, не стукаючыся. Стары задумаўся і, амаль не закусваючы, ціха прамовіў:

— А ведаеце, Алесь мне не родны сын.

— Як не родны?! — збянтэжыўся я.

— Вось так, не родны і ўсё. — І дзед распачаў свой аповед пра партызанку, пра вайну, а галоўнае, пра сябе.

Забягаючы наперад, я мушу прызнацца табе, любы чытач: тое, што я пачуў ад старога Чэчата ў той вечар, засталося ў маім сэрцы на ўсё жыццё.

…Міхась сядзеў, прыпёршыся да старой падсохлай хвоі. Сухія іголкі падалі яму на акрываўленыя рукі і за каўнер. Трапляючы на голае цела, яны балюча калоліся і прыносілі хлопцу паскуднейшае адчуванне. Але маладзён нічога не мог з гэтым зрабіць. На яго руках ляжаў паранены ў абедзве нагі сябар Алесь.

— Курва, як жа баліць! Такое адчуванне, што па нагах немцы кожную хвіліну калом б'юць.

— Цярпі, Алесь, бачыш, доктар зрабіў усё што мог, — супакойваў сябра Міхась.

Абодва добра ведалі, што доктар толькі і змог тое, што перабінтаваў раздробленыя ногі параненага. Шчыра кажучы, Алесь толькі зрэдку ўзгадваў пра сваё раненне, калі ўжо наогул цярпець не было аніякай моцы. А так абодва сядзелі моўчкі, моўчкі ўспаміналі сённяшні жудасны бой. Кожны паасобку разважаў над тым, што яны рабілі не так, прарываючыся з аблогі.

Восенню 1943 года пескаўскія дубовікі (так называлі партызаны падраздзяленне егераў, якія мелі на плячы шаўрон у выглядзе дубовага ліста і размяшчаліся ў мястэчку Пескі, што каля Мастоў) і мясцовыя паліцаі прыціснулі да Лідска-Слонімскай шашы некалькі атрадаў ліпічанскіх партызан. Амаль

тры дні тыя трымалі кругавую аблогу. Баі былі жорсткія і кровапралітныя. Толькі невялікая колькасць партызан прарвала кола і выйшла з катла. Большасць альбо загінула пад кулямётным агнём, альбо зноў была адкінута ў пушчу.

Ні Міхась, ні Алесь не ведалі, што рабіць далей. З такімі раненнямі Алеся разлічваць, што ім удасца на раніцу прарвацца праз нямецка-паліцэйскія шэрагі, не было аніякай мажлівасці. Хлопцы сябравалі даўно. У атрадзе пагаворвалі, што яны нібыта выраслі ў адной вёсцы. Хаця гэта было зусім не так. Міхась з'явіўся тут толькі ўлетку 41-га, якраз перад вайной. Хлопца накіравалі сюды па заканчэнні ўніверсітэта ў Мінску. Алесь, у сваю чаргу, перад вайной ужо быў жанаты і жыў у сваім Ярневе. А пазнаёміліся яны ў партызанцы, на нейкай вайсковай аперацыі, адкуль раненага Міхася на сабе з поля бою вынес Алесь.

Ноч была — хоць вока выкалі, толькі вецер, як шалёны, насіўся з адной галіны на другую, пасыпаючы хлопцаў новай порцыяй надакучлівай іглііцы. Праз пару гадзінаў павінна было развіднець, часу на прыняцце рашэння заставалася вельмі мала. Між тым да наступнага прарыву камандзір загадаў усяму атраду не страляць і не распальваць вогнішчаў ні ў якім разе.

— Паслухай, Міхась, толькі абяцай, што мяне даслухаеш да канца.

— Толькі давай, Алесь, дамовімся: без глупства, бо я цябе тут усё адно не пакіну.

— Ну якое тут глупства ў нашым-та стане? — Алесь абапёрся на рукі і моцна застагнаў. Міхась падтрымаў яго за плечы.

— Ну, дык вось, Міхась, пакідаць мяне тут не трэба, бо страляцца мне няма як. Немцы знойдуць мой труп, прывязуць у Ярнева, а там, сам разумееш, апазнаюць спагадлівыя суседзі, тады ўсіх маіх паб'юць: і бацькоў, і жонку з малым Алесем. Жывым здацца таксама не выпадае. Пачнуць катаваць, хто ведае, ці вытрымаю. Значыць, сям'ю падстаўлю і сваіх з атрада магу ў бяспамяцтве здаць. Таму… — пасля апошняга сказанага слова голас у Алеся задрыжэў. Міхась насцярожана зірнуў на сябра. Пасля хвіліны маўчання Алесь сабраўся духам і ўпэўнена, як і да гэтага, прамовіў: — Ты мяне нажом, толькі пастарайся, каб адразу ў сэрца.

— Ты што, з глузду з'ехаў, дурань?! — Міхась, раззлаваўшыся, скінуў са сваіх ног на іглiцу сябра і вылецеў з-пад сасны. Алесь ад болю застагнаў.

— Даруй, Алесь, але ж што ты лухту нясеш… На вайне так бывае, жыве салдат, ваюе, ну а прыходзіць час — значыць, і памерці таксама з гонарам трэба.

— Ты што, ідыёт?! Мяне не павінны знайсці ні жывога, ні мёртвага. У цябе тут ні кала, ні двара. Забілі, ды хрэн з табой, а ў мяне сям'я, іх жа за мяне ўсіх, м-м-м… — Алесь у пякучцы забыўся пра свае параненыя ногі, на якія няўдала абапёрся. — Ты, калі мне сябар, Міхась, не тое што даб'еш, а і абавязкова закапаеш так, каб немцы і з сабакамі не знайшлі.

— Не, Алесь, ты каго хочаш прасі, я не буду.

Алесь, пачуўшы адказ ад свайго сябра, зноў расхваляваўся і забыўся пра свае ногі.

— М-м-м-м… Паслухай, Міхась, ёсць рэчы ў жыцці, пра якія нікому з чужых не скажаш, толькі самым родным. І так атрымліваецца, што бліжэйшага за цябе, Міхась, у мяне ў атрадзе нікога няма.

Думкі мітусіліся ў галаве Міхася. Ён разумеў, да чаго яго схіляе сябар.

— Не-не, Алесь, нават не ўгаворвай.

— Я цябе не ўгаворваю. Ты ж не баба, я цябе як сябра прашу, разумееш — як сябра. — Пасля гэтых слоў Алеся каля сасны зноў стала ціха.

— Міхась, паслухай. У мяне з Марыляй доўга дзяцей не было, а тут Алесік нарадзіўся здаравенны такі, шэсць кілаграмаў. Ды толькі пры родах Марыля ледзьве выжыла. Потым дактары сказалі, што дзяцей у яе болей ужо ніколі не будзе. — Пасля сказанага Алесь моўчкі ўзіраўся ў ноч і ўсё, што не дагаварыў услых, гаварыў толькі сабе. Міхась запаліў саматужніцу, зацягнуўся некалькі разоў, а потым залез пад сасну, прысеў каля свайго сябра і даў таму зацягнуцца.

— Мо-оцны, халера яго, — Алесь адкашляўся.

— Дык вось, Міхась, паабяцай мне, што сям'ю маю не кінеш, а малога… — Алесь, узгадаўшы сына, пра сябе пяшчотна ўсміхнуўся, — а Алесіка абавязкова выгадуеш і абавязкова вывучыш.

Алесь схапіў свайго сябра за кляп фуфайкі:

— Абяца-ай-й!

— Абяцаю!

— Во, а то не буду, не хачу, як цэлка, ламаешся.

Сябры глядзелі адзін аднаму ў вочы некалькі хвілін, і была паміж імі толькі вечнасць, вечнасць і цёмная, непраглядная ноч…

На парослым асакой востраве, вакол якога шалёны восеньскі вецер ганяў цёмную ад торфу ваду, чалавек з вялізным нямецкім кінжалам, як крот, капаўся ў чорнай ліпкай зямлі. Карэнне і клейкі глей зміналі яму, як толькі маглі. Пот сцякаў з твару мужчыны ў запоўненую амаль на палову вадой магілу. На адзіным сухім узвышшы, накрыты акрываўленай плашч-палаткай, ляжаў нябожчык. Малыя бярозкі, што раслі на востраве, ад ветру кленчылі над ім, нібыта вясковыя бабкі ў апошні дзень перад пахаваннем. Чалавек з кінжалам не звяртаў на гэта аніякай увагі. Ён вельмі спяшаўся. Да відна заставалася ўжо зусім мала часу…

Пасля той сустрэчы са старым партызанам я больш ніколі не пісаў на ваенную тэму. Праз год я яшчэ раз хацеў сустрэцца з Міхасём Чэчатам, але па прыездзе ў Ярнева тая самая суседка, што даглядала дом старога партызана, расказала мне, што стары Чэчат зімою памёр у сынавай хаце ў Мінску. Яна ж распавяла мне пра пахаванне, як моцна сумаваў сын Чэчата. Ад яе я пачуў, што Алесь нядаўна тут быў, ставіў па бацьку помнік. Канечне, было б сорамна мінуць ярнеўскія клады, на якіх знайшоў сваё супакаенне мой былы

спадарожнік. Я, едучы ў Гародню, завярнуў туды. Помнік старому Чэчату вылучаўся з усіх астатніх сваёй прыгажосцю і раскошай. Быў ён з чорнага мармуру, прыгожа зроблены, і на ім, акрамя прозвішча, імя ды гадоў жыцця Чэчата, выбіта ўсяго некалькі слоў: «Дарагому Тату ад улюбёнага сына…»



Нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Александрыя Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. З'яўляецца кіраўніком малога прадпрыемства «Вітаўт». Выдаў кнігу гістарычных нарысаў і вершаў «Архіпелаг Сапегаў». Жыве ў Гродне.



СТАС ІЛЬІН

## Cheapallinдра

*Апавяданне*

Выпаў снег і засыпаў горад да самых стрэх, купал латунны ратушы ператварыў у вяршыню гары, замазаў трэшчыны на калонах і плямы старых дажджоў, пасадзіў белы мох на сонных скульптурах парку, на слупах ліхтароў, на лаўках і лапках дрэў.

Толькі сметніца каля ратушы заставалася чорнай, як на воку бяльмо. Брудная, абляпаная птаствам, яна варочалася з боку на бок. А знутры даносіўся шоргат паперы ўперамешку з хлюпам і рыкам, нібы галодны сабака грызе свежую костку. Гукі мацнелі. Ужо ўвесь парк душыўся, скуголіў і выў. Раптам усё заціхла. Здрыганулася сметніца, і вялізны цяняк вырас на плітах граніту, а на купале вараслі плямы вялізных слядоў. Шпіль у купала стаў выгінацца з шыпеннем, як гадаў язык. Людзі праходзілі міма, ім не было калі.

I

Грандыёзнае XXI стагоддзе лапамі ашчаперыла людзей, цягне ў прадонне будучыні, мы ўдыхаем паветра яго, а дыхаць няма чым. Паралізуе нас, як чырвоны чарвяк з мангольскай пустыні Алгой-Хархой. І не адбываецца нічога асаблівага, прынамсі, мы скептычна нічога не заўважаем. Спакойнае, чыстае і застрахаванае, XXI стагоддзе адмаўляецца ўжо ад казак, ад гарадскіх легендаў, кайданоў і розных выдумак, а рэальнасць сумная і нецікавая. Сучасныя дзеці не страшаць адны другіх, не баяцца хохлікаў, нячысцікаў або іх амерыканскіх братоў бугімэнаў і клэк-клэкаў. Ім, хто гуляе да позняй ночы ў «шутэры» і «квэсты», ужо не сыпле на вочы чарадзейны сонны пясок Пясочны Чалавек. Слова «бабай» могуць пачуць толькі дзеці рускіх эмігрантаў на Брытанскіх астравах.

І гэта зусім не кульгавы стары з пыльным мяшком, у які ловіць непаслухмяных дзяцей. І не барадач, што прыходзіць у мусульманскія вёскі хлопчыкам абразанне рабіць. Яны чуюць гэта, калі ў Лондане едуць па раёне Вайтчэпл, і бацька, тыкаючы пальцам на людзей з Індыі і Пакістана, кажа:

— Вось, сына, паглядзі — гэта бабаі.

І бельгійскія малечы не ўцякаюць з крыкам пад коўдру да бацькоў ад сляпога ваўкалака Старога Чырвонага Воўка, што, ператварыўшыся ў чорнага сабаку, ловіць дзяцей. Яны самі даўно без дапамогі бацькоў пінкамі выгналі псіну са сваіх утульных дамоў.

Галодную і адчайную бразільскую дзятву жанчынай-кракадзілам Кукай не спалохаць ужо, а калі ноччу каля какосавых пальмаў ідуць, яны не баяцца, што зверху сочыць за імі аброслая рыжай шчацінай галава духа Како. Сучасныя дзеці ў Бразіліі самі голымі рукамі кожнага алігатара зловяць, пус-

цяць на барбекю і, раструшчыўшы аб камень валасаты чэрап Како, зап'юць кракадзілава мяса салодкім яго малаком.

Клапатлівыя італьянцы ўжо не стукаюць незаўважна пад стол, спалохана кажучы:

— Ой, хто гэта лезе да нас? Гэта ж страшны Чорны Чалавек хоча забраць на свой чорны востраў непаслухмянага Джакома, што ён, не даеўшы маміну лазанню, пачаў уплятаць бабуліны каналі!

У Японіі ўжо не баяцца Ханака-Сан, што ў люстэрках у школьных прыбіральнях наганяў некалі жах. Бледная вучаніца з чырвонаю галавой Ханака даводзіла дзяцей да непрытомнасці, да бяссонніц і псіхіятраў, але і пасля дзеці збіраліся перад дзвярамі прыбіральняў, і самы смелы крычаў: «Ханака, ты там?» — і, не чакаючы адказу, з дзікімі крыкамі разбягаліся хто куды. Цяпер японскія вучні кураць у прыбіральнях, не баючыся, што з дыму вырасце вялізны прывід Акая Манто, які з крывою ўсмешкай запытае:

— А табе які плашч падабаецца — чырвоны ці сіні?

Калі вучань адказваў — «сіні», прывід душыў ахвяру і рагатаў над пасінелым трупам, калі адказваў — «чырвоны», то адцінаў галаву і любаваўся, як кроў залівала плечы ахвяры чырвоным плашчом. Але ўбачыўшы, якую мярзоту аглядаюць японскія дзеці ў Інтэрнэце, Акай Манто ў прыбіральні сам закурыў.

Казачны свет безнадзейна агарнула туга. Яго не ўпрыгожвае болей розум людзей, страшная і невядомая сіла завалодала ім. Тролям і гномам сумна ў гушчарах лясных скандынаўскіх гор, трасуцца і плачуць, пахаваўшыся ў пні. Ваўкалакі ў палескіх балотах выюць з ветрам на маладзік. Напала дэпрэсія на леапардаў-людзей аніота, на сонцы пражацца ўздоўж Гвінейскага заліва на пляжы, няма сэнсу хавацца ў саванны ад людзей, амерыканскія кінематографы не здымаюць фільмаў пра іх, плямёны мясцовыя не складаюць легенд. Каб хоць неяк сябе захаваць, вампіры прыбіліся да цыганоў, тыя нават іх не заўважылі, так і качуюць разам ля дунайскіх гаёў. Засумавалі японцы бакэнэка і кіцунэ. Іх магічныя здольнасці ўжо не цікавяць людзей, у тэатрах няма прадстаўленняў пра іх, і скульптары не маюць заказаў на статуі лісаў з мноствам хвастоў. Цяпер японцы спакойна гадуюць дома катоў, не баяцца, што ў бакэнэка ператворыцца кот, каб дыхнуўшы клубам агню, гаспадара праглынуць. Згаварыліся бакэнэка, абстрыглі хвасты, падаліся ў кляштар Энраку-Дзі на гары Хіэй.

Пшаніцу дажалі ў Ірландыі, на ржышчы Пука сядзіць, слёзы сыплюцца з яе люмінесцэнтных залатых вачэй, не суцяшаюць яе снапкі з дажынак, якія раней ёй пакідалі фермеры з удзячнасці за ўраджай, і няма жадання стаць вараным канём, бо няма каго пакатаць на сваёй аксамітнай спіне.

Апусціўшы галаву са свіным лычом, у Лондане па Трафальгарскім пляцы жанчына ідзе, а літоўскія гастарбайтары папіхаюць яе. Сумна ёй у натоўпе, хоць утапіся ў рацэ. Ганарыстыя дочкі брытанскіх арыстакратаў не трымаюцца, як раней, старых правілаў паводзінаў з равеснікамі, не баяцца, што ранкам прачнуцца і замест носа пачомхаюць свіны лыч. Жывуць, як багатыя

дочкі амерыканскіх купцоў, у іх нічога ангельскага, апроч акцэнту, няма. Не пішуць кніг пра яе, у вулічных балаганах не мучаць мядзведзяў абстрыжаных, апранутых у сукенкі дзяўчат. Нібы шэкспіраўская Афелія, на станцыі метро Імбэнкмент у кірунку берага Тэмзы спускаецца да вады…

У горадзе шулераў і круп'е Атлантык-Сіці на даху атэля Хілтан застыў у позе ўрубелеўскага «сядзячага дэмана» Д'ябал з Джэрсі. Цёмна-чырвоныя вочы бязмэтна ўтаропіў у даль, крылы, аброслыя чорным пухам, стамлёна звесіў з калень. Што яму засталося? Ляцець, куды вочы глядзяць, пакуль хопіць сілы, як шалапутнай кірлі, банальна разбіцца аб тоўшчу хваляў марскіх. А з галавы не выходзіць 1909 год, калі ўсе размовы і ўсе газеты пісалі аб ім у Паўднёвым Джэрсі і Філадэльфіі, і ганяліся брыгады пажарных і паліцэйскіх, у гонар яго зачынялі школы, людзі сядзелі дома, за яго галаву абяцалі 100 000 долараў, і жулікі کралі кенгуру ў заапарках, прышывалі ім крылы, каб выдаваць за яго. Гэта быў поспех! А цяпер што? Некалькі фільмаў і танных раманаў. Ага, і хакейны клуб у яго гонар назвалі, але слабакі, у гэтым годзе нават не выйшлі ў плэй-офф. Не… усё… баста… кранты!

Недалёка ад Атлантык-Сіці ў брудных завулках індустрыйнай Філадэльфіі, разгрызаючы сметнікавыя мяшкі, лысы галодны сабака з вачамі сусветнай тугі, з галавой, большай, чым усё тулава, з перапончатымі вушамі мутанта нервова дрыжыць або замірае на месцы, як статуя, пасля сутаргава трасецца, скрабе доўгімі кіпцюрамі асфальт і скуголіць. Гэта эмігрантка з Пуэрта-Рыка чупакабра. Не таму бярэ яе трасца, што не заўважыў яе ніхто і не здымае на камеры. Не. Яна проста ўсё зразумела, што людзі самі ператварыліся ў лянівых зомбі і нічога не бачаць. Гэта ўсё штучкі XXI стагоддзя.

Ёсць такі прыём у мастацтве, калі на карціне намаляваны мастак, які малюе карціну. У фільме паказваюць сюжэт, як ствараецца гэты фільм. Або пісьменнік з'яўляецца героем кнігі, у канцы яе чытач чытае кнігу пра героя-пісьменніка…

Дык вось, чэрствае інтэлектуальнае XXI стагоддзе ўзяло гэты прыём і стварыла сваім прыходам новы вобраз, нават не вобраз, а міф пра сябе, што ён людзей супакоіў і мае ўплыў на міфічных істотаў такі ж, як яны на людзей. Міф у міфе. Такое страхоцце! Злучыўшы ў адно якасці і здольнасці ўсяго міфічнага свету, яно ніколі не трапляе людзям у вочы, каб нават не пасмелі чуткі аб ім распускаць, а мэта яго — чалавек!

II

Гарадская ратуша Філадэльфіі, яе называюць мясцовыя Сіці-Хол, асабліва бывае прыгожай у зімовыя снежныя дні. Увечары тут асабліва шматлюдна. Назначаюць спатканні, турысты фатаграфуюцца, бяздомныя тут збіраюцца і мясцовыя ходзяць на праменад перад сном. Калі ісці ад ратушы па Бродстрыт на поўнач, так, хвілін дваццаць, то па правым баку вас сустрэне пустымі цёмнымі вокнамі атэль «Дзівайн Ларэйн» (Divine Lorraine).

Тут турыстаў няма, нават мясцовыя абмінаюць гэтае месца. Размаляваны графіці, з гнілымі дзвярамі, забітымі кардонам,— у XIX стагоддзі гэта быў

жылы дом для ўплывовых і багатых людзей Філадэльфіі. Гэта быў свайго роду першы «хмарачос» у горадзе. Пад арачнымі скляпеннямі збіраўся ўвесь бамонд таго часу на званыя вечары, а пасля ў ім маліліся сектанты з усяго свету. Будынак купіў айцец Дзівайн Боскі і заснаваў у ім Міжнародны Звяз Супакою, куды прымаліся людзі любых нацыянальнасцей і веравызнанняў. Пасля будынак куплялі розныя інвестары, але, толькі пачаўшы нешта там будаваць, шарахаліся, як ад агню, прадавалі яго, не тлумачачы нават чаму. Дзякуючы аўтарытэту і славе любы бізнесовец мог скалаціць на гэтым праекце мільёны, але атэль «Дзівайн Ларэйн», пусты, паўразбураны, так і стаіць. І знесці яго ніхто не бярэцца, быццам у ім нехта пляце таямнічую сетку і нікога не падпускае ў нутро. Пастунова забыліся ўсе пра дзіўны атэль, а мясцовыя ўлады робяць выгляд, што яго тут няма.

У некалькіх кварталах ад атэля «Дзівайн Ларэйн» размяшчаецца гэтак званы «індустрыяльны парк», які займаюць склады і офісы розных кампаній. Тут не тое што турыста, увогуле чалавека нельга знайсці. Толькі запыленыя грузавікі марудна і шумна ў вароты ўязджаюць. У кожную пару года тут пануе шэрая сумная восень.

У пачатку дзевяностых гадоў, калі гэтае месца толькі пабудавалі, адзін офіс заняў малады бізнесмен-эксперыментатар Russell Push, ды ён да пяці гадоў проста быў Руслан Пуш.

Знаёмячыся, з усмешкай звычайна казаў:

— Калі бацькі прывезлі мяне сюды, то вырашылі, што ў гэтай краіне я магу быць толькі бізнесменам. Бо нашае прозвішча красуецца на кожных дзвярах. А калі прозвішча запамінаецца, гэта ўжо поспех у бізнесе. Бо ў нас у *саўку* на дзвярах пішуць «На сябе» і «Ад сябе». Дзіўна? Згодны, найлепей «Цягні» і «Штурхай». Калі б знайшоўся напарнік з прозвішчам Эндзі Пул, усё пайшло б, як па масле.

Напарніка з прозвішчам, каб «цягнула», Расл не знайшоў. Ды і бізнесам ён займаўся не праз прозвішча, а таму, што ў яго сям'і, нават у ЗША, кожны мог заявіць: «Я несусветна багаты!» Як і ўсе дзеці з такіх сем'яў, Расл скончыў прыстойны юрыдычны каледж, дзе замест граніту навукі ён у наркатычным дурмане грыз грані свайго сумлення, звязаўшыся з так званай «маргінальнай багемай пратэсту». Гэта была кампанія з дваццаці чалавек, якая трымалася адасоблена ад іншых, і куды ўваходзілі такія ж, як ён, багатыя студэнты, якія з-за адсутнасці цяжкасцей у жыцці пачалі гэтыя цяжкасці самі сабе ствараць. Поўны камфорт і бяздзейнасць давялі да таго, што яны пачалі пратэставаць супраць усяго, у тым ліку і супраць камфорту і бяздзейнасці. Так, у васьмідзясятыя нават «залатая моладзь» іншай была. У выніку чаго адна крайнасць перарасла ў другую, і цяпер, каб дасягнуць піку «крутасці», трэба было апранаць, есці, піць і курыць усё самае-самае таннае. А калі ў цябе з'явіліся сябры сярод бамжоў і ты ўкраў у краме сабе сняданак, то цябе ўжо можна было проста залічваць да ліку святых і маліцца на тваё фота. Яны пратэставалі супраць банкаўскай сістэмы, дэпартацыі нелегальных эмігрантаў, глабалізацыі, прыгнёту краін трэцяга свету, усялякага роду дыскрымінацыі і

супраць усяго, да чаго ніколі не мелі ніякага дачынення. Проста сацыялісты чыстай вады! Прытым яны гэтак жа транжырылі бацькоўскія грошы і, вядома ж, не працавалі і толкам не вучыліся. Ды і навошта, калі, без таго столькі праблем. Праўда, талкова выказаць сутнасць сваіх дзеянняў яны не ўмелі. Патрэбны быў лідар, які змог бы сфармуляваць дакладна ідэю. Тут паявіўся Расл. Адна бяссонная ноч, бутэлька таннага «псіхатропнага» віна — і дэкларацыя гатова. Надрукаваў яе на вялікім лісце і маніфестам назваў. Праз гадзіну ўсе дваццаць чалавек чыталі наступнае:

*Мы, студэнты гэтага каледжа, вітаем усіх, хто захоча пазнаёміцца з нашым маніфестам. Папярэджваем, што мы — не секта і не палітычная партыя, і нікому не навязваем сваю волю, проста тлумачым ідэю, якая яднае нас у сяброўскі звяз. Мы, якія ўсё жыццё жылі ў багацці і камфорце, у адзін цудоўны дзень уважліва пaглядзелі навокал і ўбачылі, што не мы змяняем жыццё, а яно змяняе нас. І найгорай, што незразумела, у які бок, паколькі мы даём станоўчую або адмоўную ацэнку рэчам, а калі мяняемся мы, то і наша разуменне станоўчага і адмоўнага таксама мяняецца на супрацьлеглае. І ўжо нельга разабрацца, колькі разоў жыццё скрыжоўвала два знакі мінус у адзін тоўсты плюс і наадварот. А жыццё — гэта што? Тое, што навакол нас. А навакол нас словы і іх значэнні. Калі значэнне мяняецца, гэта нам даецца сігнал, што мы змяніліся. А хто надае сэнс словам? Таксама мы. Атрымліваецца нейкі заблытаны кругазварот слоўў і нас. Што рабіць?Перад кожным з нас у пэўны момант паўстае гэтае пытанне — у выніку чаго лёс зводзіць нас разам, каб мы змаглі вярнуць словам іх аўтэнтычны сэнс, каб яны не сталі ў будучым антонімамі саміх сябе. Пачалі мы з простага слова CHEAP (танны, эканомны). Вы паглядзіце, што адбываецца з гэтым словам! У сучасным сэнсе яно стала вызначэннем скнары, узурпатара і пасляховага бізнесмена ў адной асобе, хто звальняе свой персанал за кожны страчаны цэнт прыбытку, хто не дае чаявых афіцыянту ў рэстарацыі, падлічыўшы, колькі ён такім чынам зэканоміць за ўсё жыццё. Скупым і багатым быць модна. Людзі шасцідзясятых былі CHEAP, але не праз апантанасць да грошай, а зусім наадварот. Яны слухалі рок, любілі адзін другога, проста цешыліся з жыцця.*

*І каб як мага даўжэй ім у гэтым не перашкаджалі грошы, каб не думаць, дзе іх здабываць, хадзілі яны ў танных джынсах, пілі танны алкаголь, жылі камунамі, ім было добра. А цяпер мільянеры, моршчачыся і стрымліваючы нудоту, душацца сэндвічамі за дзевяноста дзевяць цэнтаў, пасля хваляцца сваім скупярдзяйствам і цешацца, што зэканомілі пару дольцаў.*

*Дык вось, мы, дваццаць студэнтаў гэтага каледжа, паспрабуем прыкладам сваім вярнуць страчаны сэнс слову CHEAP! І не падумайце, што мы грэбуем грашамі, не хочам іх зарабляць і збіраемся без іх абыходзіцца. Мы ж не нейкія анархісты! Мы за нармалёвыя адносіны да грошай, дзеля чаго і было створана цудоўнае слова CHEAP!*

— Геніяльна!

— Што трэба! Проста і натуральна!

— А галоўнае, ніякіх непатрэбных тэрмінаў! — пырскаючы слінай на новаспечаны маніфест, крычалі наперабой. Такое непрыкрытае падлізванне імгненна перамяніла заніжаную самаацэнку Расла ў нахабную ўпэўненасць у сабе, таму ён дадаў у маніфест крыху дзёрзкасці і скончыў яго так:

*І не падумайце, што мы пагарджаем грашамі, не хочам іх зарабляць ці збіраемся жыць без іх. Мы ж не анархісты нейкія! Мы гатовы працаваць, таму што слова CHEAP спачатку было назоўнікам і абазначала «гандаль» (traqde), а пасля ператварылася ў «прафесію», ці проста ў «працу». Так што, паводле Зыгмунта Фрэйда, сучасны CHEAP прышчапіўся да нас у раннім дзяцінстве, калі мы не слухалі нянек і адмаўляліся «хадзіць на гаршчок». Дык давайце «паскудзіць» і мець ад гэтага асалоду!*

У выніку Расл цвёрда ўмацаваўся як лідар, або, як называлі яго выкладчыкі каледжа, «правадыр дваццаці». Пасля такога трыумфу на літаратурнай ніве ён вырашыў ісці далей у фармаванні ідэалагічных і тэарэтычных прынцыпаў свайго (так, ён ужо называў яго «сваім»!) «*мувмента*»… Ён доўга хадзіў па цэнтры Філадэльфіі, думаючы, што ж яму ўзяць за аснову, каб было нешта простае, зразумелае, нават прымітыўнае. Ён успомніў усе рускія казкі, якія мама чытала яму ў дзяцінстве, каб не забываў рускую мову. Але адразу адмовіўся ад гэтай думкі, разумеючы, што трэба шмат часу, каб перакласці і растлумачыць сюжэт і мараль казкі сваім амерыканскім сябрам. Так і вярнуўся ён дадому позна ўночы з пустымі рукамі, дакладней, з пустой галавой. Перад сном вырашыў пакапацца ў старой пыльнай шуфлядзе з дзіцячымі кнігамі. Ён выцягнуў першую кнігу, кінуў на пісьмовы стол, стомлена распранаючыся. На секунду задумаўся, рэзка павярнуўся назад і, як укапаны, застыў, утаропіўшыся на вокладку кнігі. Вочы загарэліся агнём, які імгненна ахапіў увесь пакой. Адно, што бачылі вочы ў гэтым полымі, гэта слова — CHEAPOLLINO! Вось яна — аснова! Вось хто яны — бясстрашныя Cheapollinos, якія прымусяць усіх «заплакаць», глянуўшы на свет новымі, «чыстымі» вачамі. І ўжо праз месяц у Філадэльфіі адчыніўся зачынены клуб, дзе збіраліся маладыя Cheapollinos. Над уваходам вісела светлавая эмблема ў выглядзе вялізнай кіслотнай цыбуліны, з якой заместа зялёных лістоў вырываліся наверх лютыя языкі пунсовага полымя будучай рэвалюцыі. Пад цыбулінай красаваўся чорны надпіс LOOK CHEAP. Сцены клуба размаляваны мясцовымі графітчыкамі, якіх прымусілі прачытаць кнігу «Прыгоды Чыпаліна», пасля адразу паслалі на прыём да самага ўплывовага філадэльфійскага наркабарона, якога цяпер з павагай называлі «Доктар Сіньёр Мухамор», ну і пасля чаго рабяты на піку сваіх самых страшных галюцынацый прыняліся за справу. Столь ператварылася ў суцэльнае павуціннe, па ім поўзалі вясёлыя павукі-паштальёны. На франтальнай сцяне разгарнулася поле бітвы, у правым кутку пастроіўся полк мышэй, стылізаваны пад віцязяў з карціны Васняцова, што дзьмуць у вялізныя залатыя трубы, перад палком грозны Мыш-Даўгахвост у літых даспехах на вараным кані. А з другога боку ў полк ляціць вялізная чорная цыбуліна ў форме перавернутага ядзернага грыба, раскідаючы ва ўсе бакі сто васямнаццаць чырвоных цаглін са штампамі *cheap* на кожнай. Дзверы ў прыбіральню ператварыліся ў вокладку часопіса «TIME», на якой кожнага госця віталі шырокімі ўсмешкамі сотні паспяховых юрыстаў, што выраслі з зямлі, як маладыя парасткі на бяскрайнім зялёным

полі. А зверху надпіс: «Поле гарохавых шутоў». На другой сцяне быў намаляваны тыповы бізнесмен-узурпатар, пра якога Расл пісаў у маніфесце, з вялізным барвовым памідорам замест галавы, аформленым у выглядзе мішэні для гульні ў «дартс», дроцікі для якой былі зроблены пад заказ як дробныя цыбуліны. Зверху красаваўся надпіс: «Don't cheat — be cheap!»

Усю нянавісць маладыя Cheapollinos вырашылі нацэліць на барацьбу з рэкламай ва ўсіх яе праявах: гэта яна замбіруе людзей купляць дарагія рэчы. За адзін тыдзень амаль усе вялізныя білборды ў цэнтры горада былі замазаныя трафарэтамі з «палаючай цыбулінай». Cheapollinos падпільноўвалі ўладальнікаў рэкламных кампаній і аблівалі іх белыя кашулі кетчупам са словамі: «Вось вам, вампіры Сіньёры Памідоры! Гэта кроў, якую вы смокчаце з нас! Атрымалі?»

Яны мяшкамі скуплялі ў крамах цыбулю і ў сваім клубе з рознымі магічнымі махінацыямі ператваралі бясшкодныя цыбуліны ў кактэйлі Молатава, шпурлялі імі ў машыны ўплывовых бізнесменаў, якія часта аказваліся партнёрамі іх бацькоў. Ну, а вечарамі зноў збіраліся ў клубе, дзе расслабляліся, як належыць амерыканскім студэнтам. У адну з такіх выпіванак нехта спытаў у Расла:

— Слухай, ты не мог бы прыдумаць канкрэтную назву той заразе, якую разносіць па свеце сучасны *cheap*?..

Трэба адзначыць, што пад уплывам алкаголю свядомасць Расла заўсёды актыўна ўстаўляла ў яго мову незразумелыя яго паплечнікам рускія слоўцы. Расл, доўга не думаючы, сказаў першае, што прыйшло ў галаву:

— Cheapallinдра!

— Ваў! Вось гэта — клас! Чулі? Cheapallinдра!

Так праходзілі бесклапотныя студэнцкія дні. Cheapollinos змагаліся з выдуманай Cheapallnдрай, генерыравалі новыя ідэі і бралі ўсё ад жыцця. Але ў адзін цудоўны дзень скончылася вучоба, усе дасягнулі сярэдзіны сваіх дваццаці і пачалі паціху разбрыдацца хто куды. Многія вырашылі ісці па шляху найменшага супраціўлення і прадаўжаць бізнес бацькоў. А на свае дзікія cheapollinaўскія прынцыпы сталі глядзець па-даросламу, з лёгкай усмешкай. Адзін Расл не здаваўся. Ён так прывык быць лідарам і натхняльнікам сваіх «дваццаці», што зусім не хацеў развітвацца з гэтым статусам, таму што добра разумеў: без Cheapollinos ён зноў ператворыцца ў незаўважнага багатага сынка, які жыве ў ценяку свайго бацькі Алекса Пуша, і не больш. Спачатку ён упаў у дэпрэсію і пару тыдняў не выходзіў з дому, ляжаў на ложку і чытаў дзіцячыя кнігі з пыльнай шуфляды. Пасля суткамі напралёт бадзяўся па Філадэльфіі і нешта пісаў. А яшчэ праз пару дзён да яго вярнуўся звычайны вясёлы настрой. У клубе ён выступіў з такой прамовай:

— *Народ! Прызнаюся вам, што я доўга чакаў гэтай хвіліны, таму крыху хвалююся і нават не ведаю, з чаго пачаць, ведаю толькі, што мы скончылі каледж, сталі дарослымі і ва ўсіх нас у жыцці пачынаецца новы этап. І над нашым калектывам навісла нешта нядобрае, усе гэта адчуваюць, але не могуць выказаць адно другому*

*ў твар. Я чалавек прамы і не люблю няшчырасці. Давайце глядзець праўдзе ў вочы. Той ранейшы юнацкі максімалізм з нас ужо даўно выветрыўся, і мы ўжо не ў тым узросце, каб бегаць па «даўнтаўну» і шпурляць цыбулінамі ў рэкламшчыкаў. Так, нам пара заводзіць свае сем'і, ладзіць сваё жыццё. Але гэта зусім не значыць, што трэба адмаўляцца ад ранейшых прынцыпаў, ствараючы абсалютна новыя і топчучы ўсё мінулае. Гэта ж, па-першае, непавага да саміх сябе, маладых і наіўных. Якія б мы ні былі пяць гадоў таму назад, але гэта ўсё роўна былі мы! Разумееце? Можна ж проста змяніць, дапоўніць па-даросламу нашы ідэі і паспрабаваць іх рэалізаваць паралельна з рэалізацыяй нашага дарослага жыцця, кар'еры і ўсяго іншага. Як і было ў нашым маніфесце — мы не пагарджаем грашамі, а хочам іх зарабляць. Дык давайце гэта рабіць, але шануючы наш звяз і тое, што нас сабрала разам. Я вырашыў пачаць першым, і заўтра на пазыку, якую бяру ў банку бацькі, я адчыняю прыватную страхавую кампанію. Спецыялізацыя? Страхаванне жыцця. Згадзіцеся, што гэта няпэўны бізнес, без рэкламы не абысціся, таму што вынік маіх паслуг можа зацягнуцца на неабмежаваны час, і рэклама ў стылі сарафаннага радыё «мне спадабалася, параю сябрам» не падыходзіць. Але я дакажу, што прафесіянал і ў такім бізнесе можа дасягнуць поспеху, не аддаўшы ні цэнта на рэкламу. Таму абяцаю, што роўна праз дзесяць гадоў застрахую больш як дзесяць мільёнаў чалавек. І няхай угразне ўвесь свет у гадкай Cheapallindры, калі нічога ў мяне не атрымаецца і за гэты час я адмоўлюся ад сваіх ідэалаў і ператваруся ў тыповага скнару і накапіцеля!*

Але Расл не ведаў, што ўсе прароцтвы па маладосці знікаюць бясследна. Ведаў бы, якую памылку зрабіў сваёй заявай. Мусіць, так і не выветрыўся з яго той максімалізм, трэба ж рэальна ацэньваць свае магчымасці і сілы. Быць лідарам студэнцкага руху — гэта не значыць, што будзеш паспяховым ва ўсім, а тым больш у такой нялёгкай справе, як бізнес. А тут яшчэ гэтае каварнае XXI стагоддзе, што, паціраючы рукі, гатова пусціць Расла пад свае малаткі. Гэтага бедны Расл не ведаў, ды і навошта яму было ведаць…

Як усе страсныя і адчайныя юнацкія захапленні, страхавы бізнес Расла пачынаўся на бурнай хвалі энтузіязму і надзеі на поспех. А любая хваля рана ці позна дасягае берага і разбіваецца аб пясок. Але тады, у далёкім дзевяностым годзе, каб дабрацца да таго берага, Раслу трэба было плысці дзесяць гадоў, таму думаў ён толькі пра сваё «дзіця», па начах рабіў рамонт у офісе, а днём сам асабіста шукаў, званіў і сустракаўся з патэнцыйнымі кліентамі. На заднім двары офіса застаўся пасля рамонту вялізны металічны кантэйнер для будаўнічага смецця. Ён быў іржавы, пасля дажджу з яго з усіх бакоў выцякала ржавая вада. Кампанія па вывазе смецця, відаць, такім чынам вырашыла пазбавіцца ад гэтага куска металалому і не забіраць яго, пакуль ніхто не тэлефануе. А Расл адразу знайшоў яму ўжытак. У першы ж дзень пасля афіцыйнага адкрыцця кампаніі ён загадаў сваім супрацоўнікам выкідваць усе рэкламныя часопісы, лістоўкі і брашуры ў гэты кантэйнер. Пасля чаго прапанаваў скінуцца сімвалічна па пару дольцаў і паставіць стаўкі на тэрмін, за які ненавісная рэклама запоўніць кантэйнер да краёў. Стаўка Расла была нават вельмі прадказальнай — дзесяць гадоў. Пры гэтым кожны месяц

выбіраўся хто-небудзь з супрацоўнікаў — за шчодрыя прэміяльныя ад начальніка залазіў у кантэйнер, таптаў паперу і трамбаваў яе на вачах у Расла.

Неяк увечары Расл вырашыў раней, чым звычайна, выкінуць непатрэбную пошту ў кантэйнер, ды глянуў, якія тавары спрабуюць прапіхнуць з дапамогай улётак. У выніку ён прасядзеў у офісе да ранку, узбуджана бегаючы з кута ў кут, махаючы рукамі, крычаў, курыў і глядзеў у акно. Таму, што прачытаў і ўбачыў, ён даў назву — «камфорт, даведзены да абсурду» — і ўсю ноч думаў, чаму рэклама імкнецца не дапамагчы чалавеку ва ўсядзённым быце, але зусім пазбавіць яго арганізм простых рухаў. Расл адразу ўявіў плён такога камфорту — аграмадны мужчына разваліўся ў вялізным скураным крэсле, у яго засталіся толькі вочы: мыргнуў — перад ім стол, а на стале сняданак, мыргнуў яшчэ раз — ужо рабочы стол з камп'ютарам, мыргнуў трэці раз — рамантычны столік у рэстарацыі, а насупраць такая ж вялікая жонка, і яна мыргае, мыргнулі разам — ужо дома на сваім ложку «мырганняў», памыргалі ў столь — вось вам і секс перад сном, вочы заплюшчылі — спаць, а назаўтра ўсё пачынаецца зноў…

У Расла ад такога відзежу адразу забалела і пачала кружыцца галава, і ён хутчэй паехаў дадому, лёг спаць. Але ўсё, што «сфатаграфавалі» вочы яго перад сном, на беднага Расла абрынулася ў сне. Ён стаяў пасярод вялізнага супермаркета, з усіх бакоў да яго збягаліся рэкламагенты ў асляпляльна белых касцюмах. Хто падбег першым, той адразу загаварыў: «Добры дзень! Дазвольце паказаць вам гэты цудоўны млынок для перцу. Цяпер вам не трэба прымушаць сябе круціць ручку, каб малоць перац. Як толькі млынок прымае вертыкальнае становішча, механізм аўтаматычна ўключаецца і жорны круцяцца. А вось электрычны нож — вы проста статычна трымаеце ручку, а лязо само ездзіць туды-сюды. Гэта ж проста цуд». Тут падбег другі агент, схапіў за руку: «Не слухайце яго! Вось глядзіце, якая класная рэч. Вы ж ведаеце гэты стан, калі зварылі на сняданак яйка і пачынаеце чысціць шкарлупіну, а яна не аддзіраецца, і ўжо вашы кашуля і порткі ў гэтай гадкай шкарлупіне. О, жах!» Тут Расл не вытрываў: «Я што, інвалід або дыстрофік, не магу ачысціць ад шкарлупы яйка?!» Агент не здаваўся: «Можаце, можаце, але навошта? Гэтулькі праблем і лішніх рухаў, калі ёсць гэты класны прыбор. Выліваеце сырое яйка ў гэтую металічную формачку і кідаеце ў вар. Некалькі хвілін — і перад вамі зваранае ачышчанае яйка, белае, як першы снег. Ну, не хочаце варыць, можна падсмажыць. Вось формачкі для закаханых. Кладзіце на патэльню і вылівайце яйка — вось вам яечня ў форме сардэчка. Уяўляеце, як будзе ўсцешана ваша другая палавіна, калі падасце ёй на сняданак такое рамантычнае яйка!» Расл пачаў адступаць, але нехта схапіў яго за плечы, рэзка павярнуў, і ён убачыў яшчэ адну морду, якая лапатала: «А я спец па лыжках! Вы ж мацюкаецеся ад злосці, калі мяшаеце суп або соус і цяжка ўтрымаць лыжку, каб не накапаць на дарагі гранітны стол, які ўбірае ў сябе ўсё і мяняе свой колер!» — тут Расл перабіў: «Выцерці кроплю зойме тры секунды, ды няма ў мяне гранітнага стала». — «Ну, што вы такое

кажаце! Як чалавек бізнесу, вы ведаеце, што кожная секунда — гэта грошы, а тут якраз такі цудоўны прыбор! Прымацаваўшы на край каструлі, адным рухам вы ўстаўляеце туды лыжку, ён роўна трымае яе на сярэдзіне… Што вас скрывіла?! Ладна! Вось вам падстаўка для гарачай лыжкі, вытрывае любую тэмпературу, нават пакажа яе ў цэльсіях ці фарэнгейтах на каляровым дысплэі збоку!» — і тут агенты з усіх бакоў накінуліся на Расла: «Гляньце на пыласос-прас!», «Дайце нацягну вам рукавіцы, каб мыць бульбу, бачыце — як зручна, а на далонях спецыяльная наждачная накладка!», «Не, я пакажу вам, як працуе прыбор па выцісканні костачак з вішні, ды і з кожнай ягады!»… Агенты ўжо збіраліся разарваць Расла на часткі, ды ён неяк вырваўся і пабег да выхаду, а ўслед нехта крычаў: «Ды вы ж не паглядзелі на апошні цуд — ручнік, што заўсёды сухі, бо не прапускае вады…»

На гэтай фразе Расл прачнуўся ў халодным поце. Такі стрэс поўнасцю выбіў яго з працоўнага рытму, і ён упершыню ўзяў выхадны, каб адпачыць.

Ішоў год за годам, Расл разменьваў трэцюю бацькаву пазыку, а кліентаў рабілася ўсё менеи і менеи. Яго кампанія ўжо страхавала абы-што, каб толькі зарабіць. Расл быў, як тыгр, загнаны ў клетку, у ім даўно прапалі той пыл і гатоўнасць суткамі працаваць, усё часцей прыходзілася дзеля новых кантрактаў адступаць ад сваіх прынцыпаў, з-за чаго ён мучыўся, нажыў бяссонне і вярнуўся да старых студэнцкіх выпіванак. Ён ужо зразумеў, што грошы здабываць немагчыма, калі не ісці па тых шляхах, якімі іх здабываюць. А яшчэ аб'явіўся ў яго канкурэнт, які рабіў усё як трэба — залазіў ва ўсе газеты, на радыёстанцыі і, вядома ж, на тэлік, перад уездам паставіў вялізны білборд з надпісам «Страхуем усё!» І як тут не адступіць ад сваіх прынцыпаў? Расла зноў апанавала зацяжная дэпрэсія, ён узяў двухтыднёвы адпачынак, увесь гэты час праляжаў на ложку, піў віно і перачытваў студэнцкі маніфест, а ўночы рыдаў сутаргава ў падушку, нібы безнадзейна закаханая школьніца. Але трэба было выйсці з дому на святкаванне бацькавага юбілею. Ён не мог не паказацца на такой важнай падзеі. Там яго, п'янага і няголенага, заўважыла паспяховая мадэль Анастэйша, якая была дачкой партнёра бацькі па бізнесу. На пытанне: «Якое ў цябе хобі?» — Анастэйша сарамліва казала: «Шопінг!»

Яна была рэкламным тварам шмат якіх кампаній, упрыгожаннем рэкламных часопісаў і шчытоў. У тыя часы, калі паплечнікі Расла палівалі яе бацьку кетчупам, яна толькі пачынала сваю кар'еру. І вось — у цэнтры горада з'явіўся першы білборд, дзе яна ляжыць у вішнёвым купальніку на блакітным беразе, а побач сядзіць тыповы офісны работнік, трымае ў руцэ бутэльку віна Hot Cherry (пякучая вішня) і з дзіцячым захапленнем глядзіць на Анастэйшу.

А зверху надпіс: «Just one sip and Hot Cherry is wajting for you!» (Адзін глыток — і твая дзікая вішня ўжо чакае цябе!) Як толькі Анастэйша пра гэта даведалася, яна ляцела туды на крылах паспеху з натоўпам сваіх універсітэцкіх сяброўак, каб яны там проста ўсе палопаліся ад зайздрасці. І вось яны ўжо павярнулі за вугал, падаставалі з сумак фотаапараты, як раптам істэрычны

жаночы крык заглушыў наваколле. Нейкія вандалы ператварылі прыгожыя грудзі Анастэйшы ў дзве гадкія зялёныя цыбуліны з гарэлымі чырвонымі саскамі. А зверху чорны надпіс: «Не будзь амбітным Графам Вішанькам! Пі нармальнае таннае віно!» У беднай Анастэйшы быў нервовы зрыў, яе вадзілі да псіхааналітыкаў, вазілі ў тыбецкія кляштары, у выніку бацька выкінуў шмат грошай, але вярнуў дачцэ спакой душы і кар'еру. А рэкламу віна і так забаранілі за вульгарны жаргон. Седзячы за сталом і слухаючы ўрачыстую прамову, Расл успомніў Анастэйшу, яе яркі вішнёвы купальнік, які не паддаваўся перафарбоўцы. Як не ўспомніць?! Ён пяць гадзін падбіраўся халоднай студзеньскай ноччу да гэтага купальніка. Памятае, як чапляў крук, каб прывязаць вяроўку, як сядзеў дзве гадзіны ў кустах, каб выбраць зручны момант, як поўзаў з балонам фарбы па неабдымных і бясконца спакуслівых грудзях Анастэйшы. Ведаў бы ён у тую марозную ноч, што праз сем гадоў усё гэта паўторыцца, але зусім інакш, то і фарбаваць было б тады весялей. Паміж імі адразу праляцела іскра, а ўсе наступныя выхадныя Анастэйша спальвала дэпрэсію Расла гарачым агнём, што вырываўся з яе спакуслівых грудзей.

Такая іронія лёсу — злыя сполахі ператварыліся ў вар'яцкія выбухі бяздумнай жарсці, якая пачала зацягваць пятлю на шыі Расла, змагара і ідэаліста, усё мацней і мацней, каб стварыць у густым дыме зусім новага чалавека. Бацька размаўляў з ім выключна ва ўльтыматыўнай форме, згаджаўся на дапамогу толькі ў выключна «чалавечным» бізнесе, супрацоўнікі пераходзілі ў паспяховыя кампаніі, а па вечарах Анастэйша даказвала на практыцы, што ўсе тавары ў рэкламных улётках — вельмі нават карысныя рэчы. Унутраныя рэзервы Расла згаралі, а ржавы кантэйнер у двары офіса запаўняўся поўным ходам. Рэклама не стаяла на месцы. Каб пазбегнуць чарговых экскурсаў у тайны рэкламнага бізнесу ад Анастэйшы, неяк Расл пасля работы вырашыў прапусціць «па шклянцы» з будаўніком Лёнем, эмігрантам з Расеі, якога наняў зрабіць у офісе касметычны рамонт. Выкліканы хмелем сіндром паўшклянкі так развязаў Раслу язык, што праз пятнаццаць мінут Лёня ведаў усе, самыя інтымныя і далікатныя драбніцы з жыцця свайго працадаўцы. Ці ён надта захапіўся ідэяй «чыпалінства», ці ад залішняй шчырасці Расла, але гэты Лёня так расчуліўся, што нават заплакаў. Пасля засмяяўся і пачаў падбадзёрваць Расла: «Не, Руслік, ты маладзец. Я табе кажу — ма-ла-дзец! Усё ты правільна робіш. Галоўнае, ад сэрца. І нічога не дурнота тваё "чыпалінства". Калі нават я, саракагадовы мужык, заплакаў. І сапраўды ўсё ўбачыў па-іншаму. Нікога не слухай! Я таксама ўсё гэта не магу вытрываць. Як прыехаў сюды, увесь час нехта мяне свідруе вачамі. З прыдзіркай і са здзекам. А пасля зразумеў, што гэта дурацкія ўсмешкі ідыётаў з рэкламы! Так і хочуць падсунуць табе ўсялякае гаўно. Бутэльку малака купляеш, а ён расплываецца з наклейкі сваімі трыццаццю двума, заходзіш у метро, а гэтыя на расцяжцы ўжо тут як тут, цягнуць да цябе з усіх рук чарговую муру, а выйдзеш у цэнтр, дык яны з усіх бакоў сваімі драконавымі пашчамі на цябе так і пруць. Гэта жах. Я ў краму і не хаджу, адпраўляю жонку. Ну, гадка мне там, разумееш,

гадка!» У парыве сваёй бурнай прамовы Лёня так завёўся, што нават на вуліцу выскачыў, ускочыў на край кантэйнера і з крыкам: «Вось вам, капіталісты праклятыя!» справіў малую патрэбу ў рэкламны сметнік.

У апошні час кантэйнер стаў нейкім громаадводам людскога негатыву: супрацоўнікі, засмучаныя адсутнасцю кліентаў, збіраліся на перакур і з акуркамі разам тушылі сваю злосць, у яго чыгунныя сцены вылівалі пінкамі сваё гора кліенты кампаніі, хто страціў родных, а заўважыўшы пакамечаныя вынікі сваёй працы, рэкламныя агенты, не даходзячы да офіса, ішлі назад, махнуўшы рукой. А тут гэта Лёнева п'яная выхадка. І змяшаліся мачавіна, суровыя пралетарскія амінакіслоты, з хлюпкімі муцынамі офіснага планктону, попел застрахаваных сярэдняга класа са слязьмі; матэрыялізавалася злая сіла і пачала ажыўляць усё, да чаго ні дакраналася. У кантэйнеры закіпела, зашыпела, задрыгала новае, жахлівае, невідочнае жыццё.

III

Апошні ранак рамантыка XX стагоддзя, які канчае пісаць апошнюю старонку гісторыі. А пакуль на кухні новага асабняка ў Філадэльфіі шыпіць і перакідаецца на сонечны бок апетытная яечня ў форме сэрцайка. Над ёй стаіць мужчына сярэдніх гадоў, сонна назірае, як электрычны млынок у яго руках абсыпае яечню чорным перцам. Ён мармыча нейкія лічбы і нясе ў суседні пакой сняданак у пасцель сваёй капрызнай жонцы. Гэта паспяховы бізнесмен Russell Push, гарадскі манапаліст у сферы прадуктаў харчавання з Усходняй Еўропы. Ён валодае сеткай магазінаў «Рус Торг», у якіх расейская эміграцыя ўсіх слаёў і адценняў купляе родную ім вараную кілбасу, пельмені і салёныя гуркі. Высачэнныя рэкламныя білборды «Рус Торга» ўжо відаць з кальцавой дарогі, заклікаюць кіроўцаў яркімі неонавымі агнямі. Калі спытаюць, ці ёсць у яго сябры, Russell звычайна адказвае:

— Сябры бываюць у юнацтве, пасля яны або робяцца партнёрамі па бізнесу, або знікаюць бясследна. Дык вось мае зніклі…

Увогуле, пра такі, здаецца, самы яркі і запамінальны перыяд жыцця, як юнацтва, Russell ніколі не ўспамінае, нібы яго зусім не было. У выніку, знаёмыя бізнесмена самі за яго прыдумваюць яго юнацтва, з-за чаго яно абрастае легендамі і рознымі супярэчнасцямі, таму Russell у пэўных асяродках вядомы як загадкавы і таямнічы бізнесмен, і з'явіўся ён з ніадкуль.

Увечары ў будынку, на якім цыбуліну змянілі на праснак «патыр» і на дзеда з мульціка «Узбекістан», сабраліся вакол стала тыя, хто якраз добра памятае і можа шмат чаго расказаць пра юнацтва Расла Пуша. Гэта былыя Cheapollinos, шмат каго параскідала па іншых штатах, у іх даўно ўжо розныя інтарэсы, у кожнага свае праблемы, але знайшлі яны час, каб сабрацца разам і адсвяткаваць не новы год, не новы век і тысячагоддзе, а важнейшую дату — дзесяцігоддзе заканчэння каледжа і іх спаткання ў клубе. Сядзяць у рэстарацыі чужой ім усходняй кухні, заклапочана разглядаюць пастаўлены перад імі казан з пловам і чакаюць свайго былога ідэйнага натхняльніка. Яны пісалі яму на электронную паштовую скрынку, званілі, нехта нават спрабаваў

знайсці яго асабіста, а Расл адказваў кароткім *смс*: «Не ўпэўнены. Магчыма. Важная дзелавая сустрэча».

І вось, XXI стагоддзе, гэты палахлівы шашок, праводзіць са здзеклівай ухмылкай свайго папярэдніка і займае ўладу. У яго гонар адчыняюць шампанскае, утвараюць салюты, людзі збіраюцца на плошчах. Былыя Cheapollinos, забыўшыся пра свайго лідара, закусваюць пловам рускую гарэлку і скачуць пад узбекскі фальклор, а Russell Push падпісвае чарговую дамову і сімвалічна пацягвае ў гонар свята бакал з бургундскім чырвоным. У гэты час у забытым «індустрыяльным парку» іскра ад феерверка трапляе ў закінуты рэкламны кантэйнер, уся дзесяцігадовая макулатура, нібы чакала гэтага моманту, імгненна выбухнула і з трэскам і шыпеннем разявіла сваю вогненную зяпу. Чорны дым лезе на стрэхі дамоў, пачынае глытаць едкімі клубамі зоры навагодняга неба, а з той зяпы замест попелу вылупляецца сілуэт страшыдла. Усё, што было ў жахлівых улётках, што страхавальніка Расла даводзіла да белай гарачкі і што бізнесмену Раслу было дапамогай,— усё гэта ўвасобілася ў кроў і плоць гэтага страшыдла. Так збылося прароцтва Расла, прадказанае па дурноце ў маладосці. Выцягнула гадкая Cheapallinдра са сметніка сваю вялізную тушу і пачынае смактаць не кроў, а мазгі, — і няхай увесь свет ператворыцца ў рэкламу самога сябе! А рэжысёрам гэтага дурнога роліка і ёсць сама Cheapallinдра з доўгімі языкамі, што ультрагукавым шыпеннем даводзяць усіх да паралічу.

Перапазячы са сметніка ў сметнік, страшыдла дабралася да Брод-стрыт і ўткнулася ў абвугленыя сцены атэля «Дзівайн Ларэйн». А там прасканіравала пустыя памяшканні, павыганяла бамжоў і сабак, і ператварыўся атэль у таемную непарушную крэпасць шыпячага страшыдла, рассадніка Cheapa, які дурманным дымам балотнага зелля запаўняе пустыя галовы. Хітрая жывёліна не кідаецца на кожнага чалавека. Раскінуўшы мазгамі, дакладней прыборамі па выцісканню костак з ягад, яна апусташае толькі выбраных, хто дзесяць гадоў збірае яе па частках, людзей з той сферы, якая нарадзіла яе — з рэкламы. А яны, стаўшы яе рабамі, няхай смокчуць мазгі ўсяго чалавецтва тымі ж метадамі, якімі і замбіруюць усіх з дапамогай рэкламы. Залезла на купал гарадской ратушы, яе шпіль зрабіла антэнай, упіваецца шыпячымі языкамі ў PR-менеджараў, маркетолагаў, капірайтараў, стварае сабе «бязмозглую» армію. У пачатку нулявых людзі сталі заўважаць, што акцёры з рэкламных ролікаў размаўляюць і ўсміхаюцца, быццам трохгадовыя дзеці, іх смех рэжа слых, самі ролікі чамусьці гучаць нашмат грамчэй, чым перадачы, у якія іх устаўляюць. Але ніхто аб гэтым не думае, бо людзі перасталі думаць. Яны толькі і гавораць пра тое, што бачылі ў рэкламе і што купілі ў супермаркеце на распродажы. Людзі перасталі надаваць рэчам якую-небудзь вартасць, выказваць сваю думку, дыялогі ператварыліся ў пералік фактаў. Але крыважэрнай страшыдле гэтага мала. Яна вырашыла пакінуць у галовах адну функцыю калькулятара, каб толькі лічылі і болей часу ў іх ні на што не было. Каб з кожным кубкам гарбаты, з кожным патрачаным цэнтам людзі падлічвалі свае даходы і расходы — каб рабілі гэта ў сне, у прыбіральні, у ад-

пачынку, калі вячэраюць, — усюды. Каб скупярдзяйства людзей дайшло да абсурду, каб крычалі на сваіх дзяцей за кожную зубачыстку і сурвэтку, каб у кожным доме толькі і размаўлялі пра зэканомленыя сродкі.

Усё ішло як па масле, людзі лічылі свае грошы, страшыдла прымушала сваіх вар'ятаў прыдумваць новыя заблытаныя скідкі і распродажы. Прыдумваліся працэнтныя стаўкі на крэдыты і страхоўкі, вітрыны прыцягвалі ўвагу рознымі дражнілкамі, тыпу: «Калі купіце дзве аднолькавыя рэчы, атрымаеце скідку на 95% ад паловы кошту першай, а трэцюю і чацвёртую за 90% ад сумы ў паўтары кошту другой». І ўсе беглі, хапалі і лічылі, лічылі…

Ішоў час, страшыдла прыдумвала новыя хітрыкі. Цяпер усе вуліцы ў ЗША называліся толькі лічбамі, амерыканцы пачалі спыняцца ў сетцы атэляў *6*, а вельмі эканомныя — нават *8*, на лагатыпах якіх няма назваў, толькі на сінім ці жоўтым тле красуецца адзін лік. П'юць каву ў сетцы крамаў *7/11*, глядзяць рэкламу на канале *123*, у машыне па радыё слухаюць групу Blink *182*. Замкі ўжо не на ключах, а на лічбах, лічбы ў паролях электроннай пошты, клубных і крэдытных карт, у нумарах банкавых рахункаў, чэкаў. Працэс нумарацыі дайшоў да абсурду, хутка замест імя чалавек атрымае асабісты нумар.

Прападаюць Злучаныя Штаты Амерыкі перад страшнай Cheapallinдрай. Яна пачала прабірацца на Усход. Няма сэнсу з ёю змагацца па прыкладу Расла Пуша, таму што змаганне толькі разгайдае маятнік і народзіць страшыдла яшчэ страшнейшае. І што тады?

Тады трэба будзе чакаць, пакуль жыццё ў сваім хаатычным развіцці не зменіць значэнне слова CHEAP.

Нарадзіўся ў 1985 годзе ў Гродне ў сям'і мастакоў. Паступіў у Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Летам 2007 года ў складзе гурта Stinkface паехаў у ЗША запісваць альбом на студыі Kimings worth у Лонг-Айлэндзе. Праз год гурт распаўся. Стас застаўся ў невялікім горадзе на беразе Атлантычнага акіяна.



АЛА ПЕТРУШКЕВІЧ

*ГАРАДЗЕНСКІЯ КАЗКІ*

## Чаму ў Гародні паміраюць дрэвы

— Ах, якія прыгожыя, далікатныя гэтыя сястрычкі Ліпы! — не пераставалі захапляцца шляхетныя Каштаны на вуліцы Ажэшкі, паглядаючы на юных суседак. А іх пляменнікі, маладыя Каштаны, што жылі праз дарогу, былі безнадзейна закаханымі ў прыгажуняў-сясцёр. Яны ж, і насамрэч красуні, былі заўсёды сумнымі, бо не маглі адвесці вачэй ад ганаровых Ясакараў, што вылучаліся нетутэйшым хараством між іншых дрэваў і здаўна жылі ля Гараднічанкі ў скверы Жылібера. А тыя, нібы Нарцыс з антычнага міфа, былі закаханымі толькі ў сябе.

Няшчасце прыйшло нечакана.
Няшчасце прынеслі людзі.

Загулі, заскрыгаталі пілы, прагна ўпіліся ў жывыя, такія дасканала прыгожыя целы. З глухім гулам упалі Ясакары, зашапацеўшы галінамі. Іх вочы ўпершыню глянулі ў вочы маладзенькіх Ліпаў, угледзелі ў іх тое, чаго ніколі не зведалі ў жыцці, — вялікае, шчырае, пяшчотнае каханне, якое не памірае, бо як жа не верыць Караткевічу: ён ведаў пра каханне ўсё:

Калі памірае каханне… Але каханне не памірае.
Яно вечна застаецца ў грудзях трыумфуючай тугою слоў,
Безнадзейным болем і непатольнай пяшчотай,
Калі нічым не дапаможаш, хаця сэрца аб зоры разбі.

Каханне не памірае. Паміраюць ад кахання. Крывавым болем напаўняліся сэрцы маладых Ліпаў. Нядоўга перажылі яны сваіх каханых. Прастаялі змрочную гарадзенскую зіму, застыўшы ў скрусе, каб так і не прачнуцца вясной, засталіся хмурнымі і чорнымі. І маладыя Каштаны, якія ўжо пачалі былі выпускаць да жыцця са сваіх галінаў зялёныя лісточкі, засохлі ад нечаканай страты…

Чорныя-чорныя дрэвы, што цягнуць у неба мёртвыя галіны на вуліцы Ажэшкі ў Гародні, — гэта ахвяры страчанага кахання, гэта і папрок людской жорсткасці. Іх пакуль не ссеклі. Людзі занятыя іншым вынішчэннем…

*14–15 чэрвеня 2007 г.*

## Сто крокаў па пунсовых кроплях

Ніхто не ведаў, адкуль Ён з’явіўся ў Гародні. Ды і ведаць асабліва не хацеў ніхто, бо кожны быў стомлены змрочнай зімой, незразумелай вясной і раптоўнай спякотай. Ён з’явіўся напрыканцы траўня, калі яшчэ пышна красавалі каштаны. Зрэдку гарадзенцы звярталі ўвагу на Ягоныя нетутэйшыя строі, белую льняную хламіду, акаймаваную чырвонай вышыўкай. Але ніхто і ніколі не глянуў у Ягоныя вочы, а яны выпраменьвалі такую глыбокую пяшчоту, такую шчырую цікавасць да ўсіх, хто ішоў насустрач…

Аднойчы яшчэ здалёку Ён угледзеў каля педагагічнага каледжа (ведаў гэты будынак, бо адсюль звычайна пачынаў свой шлях па старым месце) юную паненку. Незвычайнай падалася яму гэтая дзяўчынка. І Ён зразумеў: менавіта яе шукаў, дзеля яе з’явіўся тут. Гарадзенцы ніколі б не заўважылі гэтую зусім звычайную дзяўчынку, па тутэйшых мерках, зусім непрыгожую, занадта сціплую, каб спыняць позіркі гарадзенцаў. Але ж Ён гарадзенцам не быў. Бачыў, як слёзы, бы празрыстыя пярлінкі, спадалі з доўгіх вейкаў, цяклі па твары ручаінкамі, падалі і знікалі. Прычына была вельмі простай: юная віяланчэлістка чарговы раз не здала залік. Як ёй здавалася, несправядліва. Ім заўжды так здаецца…

Ён не ведаў пра гэта. Як не ведаў, што здарылася з ім самім. Але здагадаўся: той шалёны стук сэрца, якое хоча вырвацца з грудзей, і гарачыня, што запоўніла ўсяго, — гэта і ёсць каханне — тое загадкавае пачуццё, пра якое, па парадзе Настаўніка, які калісьці сам прызямляўся ў Гародні, чытаў у вершах Караткевіча, калі збіраўся на гэтую зямлю. Ён не ўмеў гаварыць пра каханне, падышоў і … хіба ўпершыню гэтыя вуліцы пачулі такое палымянае, Караткевічава:

О каханне маё бясконцае,
Не ўцякай ад мяне, пашкадуй!
За табой, як за светлым сонцам,
Па штодзённай дрыгве іду.

Слёзы перасталі сыпацца з вачэй дзяўчынкі. Здзіўленая, збянтэжаная, яна быццам знямела на імгненне, глянула ў Ягоныя вочы, чамусьці вельмі спалохалася, павярнулася і хутка знікла.

Штодня Ён прыходзіў да каледжа, чакаў яе, бачыў у гуртку гэткіх жа юных паненак. Відавочна, яна ўнікала сустрэчы з ім. Чаму?.. І Ён таксама баяўся падысці да яе, баяўся зноў убачыць страх у ейных вачах.

І ўрэшце якое шчасце! Яна з явілася адна і ціха прашаптала: «Сёння апоўначы тут…» Гэта быў самы шчаслівы дзень у Ягоным зямным жыцці. Ягоны апошні дзень у Гародні. Шчаслівы, Ён не задумваўся нават, чаму такі незвычайны час абраны ёю. А зрэшты, Ён і не ведаў, калі прызначаюць спатканні. Затое ведаў: трэба набыць кветкі. Грошай у Яго не было. Доўга стаяў каля вазаў з ружамі на Рынку (гарадзенцы чамусьці назвалі цэнтральны пляц Савецкім). І калі дзяўчына-кветніца пачала збіраць свой тавар, з надзеяй

гледзячы ёй у вочы, папрасіў: «Шаноўная пані, ці не маглі б вы падараваць мне адну ружу? На жаль, я не маю чым заплаціць». Не так часта гарадзенскіх гандлярак называюць пані. Відаць, штосьці было ў гэтай нясмелай просьбе, бо яна без словаў літасціва працягнула, як яму падалося, самую вялікую, самую прыгожую, самую пунсовую ружу. Ён і не здагадваўся, што гэты дзень быў апошнім для ружавай кветкі…

Яна з'явілася апоўначы. Злосна глянуўшы ў твар (не ў вочы), прашыпела: «Чаго ты ходзіш сюды? Мне сорамна, з мяне смяюцца, не хачу, каб хоць хто ўбачыў нас. Знікні! Назаўсёды!..»

І знікла. І знікла шчасце. А каханне, якое жыло ў ім, і ў ружы для яе, пачало раптам аблятаць пунсовымі пялёсткамі. Яму здалося, што ружа памірае ад кахання. А яна была проста безнадзейнай, якімі часта бываюць кветкі ў гарадзенскіх гандлярак. Ён нават не зразумеў, што здарылася з ім, Ён адчуў толькі страшэнны боль: гэта сэрца Ягонае не вытрывала, разарвалася ад нясцерпнага болю, і літаральна ўсё цела, як ніколі не бывае ў тутэйшых, пачало сцякаць крывёю. Ён пайшоў уніз па Сафійскай вуліцы (пра тое, чаму яе цяпер называюць — Леніна, думаць ужо не быў здольны), а пунсовыя кроплі падалі на асфальт няроўна, бо ішоў Ён хістаючыся, нічога не бачачы перад сабой. У глыбокай трызне шаптаў Караткевічава:

Чарада нада мной жураўліная,
Пада мною — балот віры.
Журавінамі, журавінамі
Кроў мая на куп'і гарыць.

На шляху толькі чорная лотаць,
А за мной, ад маёй крыві,
Утрапёна квітнеюць балоты
Смолкай песень, пярэснай любві.
Кроў сплывае. Няма спакою…

Ён прайшоў роўна сто крокаў і ўпаў на зямлю. І знік. Ён пакінуў Гародню…

А назаўтра мне давялося ісці па Ягоным крывавым шляху і сузіраць, як гарадзенцы не бачаць, па чым ідуць…

*16 чэрвеня 2007 г.*

## Каложа

Каложа была вельмі ганаровай. Стаяла на высокай кручы, зрэдку кідала позірк на Нёман, які падыходзіў да самага падножжа гары-цокаля, і не дазваляла сабе заўважаць, як прагна ён ловіць гэтыя позіркі, з якой надзеяй імкнецца заглянуць у яе каменныя вочы.

У сэрцы Нёмана, а ён, канечне ж, быў безнадзейна закаханым у Каложу, пасялялася то пяшчота, калі здавалася, што яна хоць крыху ласкавей гляну-

ла на яго, то пякучая нянавісць, калі бачыў, як дазваляе яна легкадумнаму Ветру зусім не цнатлівыя абдымкі. Пачуццё Ветру было як усё ў яго: то гарачае, калі здавалася, што здольны спапяліць любую агнём свайго кахання, то раптам ён раўнадушна адварочваўся і імчаў насустрач новым прыгодам. Але здрады не трываў, бо сам быў здрадлівым, няверным.

Нёман даўно выспельваў у сабе помсту, што вужакай сціскала ягонае сэрца. Ссохлы ад рэўнасці, то пачынаў мялець, то наліваўся жорсткай сілай, бушаваў, круціўся вірамі, але заставаўся бездапаможным: надта моцнымі былі каменныя берагі-абцугі, а яна, недасяжная, узвышалася надта высока.

І тады Нёман, добра ведаючы нораў свайго шчаслівага саперніка, вырашыў скарыстаць яго ў сваёй помсце. Калі аднойчы апоўначы Вецер чарговы раз вяртаўся да Каложы, узбуджаны, ап'янелы прадчуваннем хуткай сустрэчы, Нёман крыкнуў яму:

— Гэй, Вецер! Ці не надакучыла табе, гэткаму выкшталцонаму кавалеру, вяртацца да гэтай здрадніцы? Хто толькі не зведаў яе гарачыя ласкі…

Вецер не даслухаў словы Нёмана, узляцеў, узвіўся да чорных Хмараў, а ноч, красавіцкая, чорная, была страшнай, сапраўды — ноч помсты. Хмары, узбуджаныя Ветрам, праліліся магутным шквалам, зліліся з Нёманам, і ўся гэтая знішчальная лавіна абрушылася на Каложу. Абуджаны злосны Пярун загрукатаў усімі сваімі грамамі, сыпануў у самае сэрца Каложы пякучымі маланкамі, асвяціўшы ўсё навокал. Вецер рваў і крышыў яе прыгожае цела, шпурляў каменныя глыбы ў халодныя воды, а Нёман прагна хапаў іх, абдымаў усімі сваімі хвалямі: нарэшце яна была ягонай!..

Бедная Каложа ўпала на калені і ўзмалілася да Неба, узняўшы ўвысь усе свае каляровыя крыжы, што заіскрыліся ў водсвеце маланак. Клікала на дапамогу свайго Анёла-ахоўніка, які падаў руку няшчаснай, і яна змагла ўтрымацца над самай прорвай. Не рухнула, засталася распалавіненая, так жорстка пакараная, стаяць на сваёй таксама разбітай гары…

Назаўтра ранкам людзі з жахам глядзелі на вынікі рабінавай ночы. Каложа чакала ратунку. Але што могуць людзі? Падгладзілі, абабілі дошкамі скалечанае цела і так і пакінулі…

Няма ў Гародні той ганаровай прыгажуні Каложы. Ёсць толькі яе палавіна. Як усё распалавінена сёння ў каралеўскім месце. Як і тутэйшы люд.

А Нёман так і не займеў шчасця ад тае злое помсты. Схаваў дзесь у сваіх глыбінях аскепкі Каложы. Яна так і засталася для яго недасяжнай. І таму ён з кожным годам усё больш марнее і сохне.

*22 чэрвеня 2007 г.*

## Нёман

Нёман нарадзіўся вольным. Як усё, што з'яўляецца ў гэты свет. Цешыўся воляй, гойсаючы па шырокіх абшарах. Асабліва шалеў у паводку, выбраўшыся з-пад лёдавых аковаў, быццам прачнуўся, добра выспаўшыся, і не можа нацешыцца маладой сілай. Разліваўся на некалькі вёрстаў, а часам, як сведчыць Якуб Колас, які вырас на Нёмане і добра ведаў ягоны нораў, мяняў сваё рэчышча…

Так было да таго часу, пакуль на ягоным беразе не нарадзілася Гародня. Напачатку, пакуль яшчэ не ўвабралася яна ў сілу, Нёман не надта зважаў на гэтую шляхетную паненку. Часам не зусім далікатна заляцаўся да яе, імкнучыся штосьці падмачыць, штосьці змыць.

Нядоўга трывала Гародня. Як жа: Нёман пагражаў нават каралеўскім замкам, што паўсталі на высокіх кручах. Свавольніка пачалі закоўваць у каменныя аковы. Няўтульна, вузка, цесна і мала. Пазбавілі волі. Бушаваў, вырываўся з берагоў-аковаў, пратэставаў. Але сілы былі надарваныя. Некалі вольны, зазнаў ён хваробу, што мае наравістую назву: клаўстрафобія. Нёман пачаў марудна канаць.

Маладзенькія крынічкі сцякаліся з усіх прынёманскіх ваколіц, несучы сваю свежую акавіту — дабравольную даніну гаспадару абшараў. Але нішто не здольна было дапамагчы, ажывіць, бо вярнуць страчаную вольнасць было немагчыма. А без волі ўсё асуджана марнець і гінуць. І волат пачаў траціць сваё імя. У ім не чулася ўжо высока-разгульнага — *Нё-ё-ё-ма-а-н*, а толькі абарвана-безнадзейнае — *няма*. І нават згадкі пра колішнюю мінулую славу пачалі гучаць прыкра-горка — *мана*…

*3 кастрычніка 2007 г.*







Нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. Закончыла беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта, працавала ў вясковых школах. Закончыла аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, у 1993 годзе абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму «Паэзія Дануты Бічэль-Загнетавай. Праблема лірычнага героя». Працуе дацэнтам на кафедры беларускай літаратуры. Асноўныя напрамкі навуковых даследаванняў: «Беларуская літаратура нашаніўскай пары», «Літаратура Гродзеншчыны», «Творчасць пісьменнікаў беларускага замежжа». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.



# ПЕРАКЛАДЫ

## АДАМ МІЦКЕВІЧ

### Два словы

Побач мы як толькі сядзем —
Ні пра што пытаць не ў стане:
Вочы, вусны п'ю паглядам;
Слыхам прагна ў шчабятанні
Мне злавіць бы ўсё да слова,
Покуль з вуснаў не зляцела,
Святло думкі адмысловай
Перш чым ў вочках заблішчэла.
І не трэба ўжо тлумачыць,
Што хачу я чуць і бачыць.
Гэта проста і не нова,
Любая! Твае два словы:
«Мой каханы, мой каханы!»
Іншага душа не схоча,
Калі будзем і на небе.
Абы толькі твае сказы,
Што гавораць шчыра вочы,
У нябёсах раз за разам
Слухаў чым часцей, тым лепей.
Іншы спеў для сэрца марны.
Толькі б ад заранкі весняй
Слухаць да змяркання сонца:
«Мой каханы, мой каханы!»
Ў варыяцыях бясконцых.

## Да Д. Д.

Калі ў час вясёлы пяеш, чараўніца,
Я чую і бачу салоўку ўваччу.
Так міла твой пошчак ліецца, бруіцца;
Мой слых упусціць нават ноткі баіцца,
Тваімі пяшчотамі каб наталіцца,
Я слухаць, і слухаць, і слухаць хачу.

Калі ж дзіўны звон вачаняты запаліць,
Як ягадкі, шчочкі пачнуць красаваць
І бліснуць у вуснах усмешкай каралі —
У зрэнкі смялей і смялей заглядаю;
Не хочацца слухаць, адно я жадаю:
Цябе цалаваць, цалаваць, цалаваць.

## Будрыс і яго сыны

Будрыс — бацька трох хлопцаў,
Як і сам ён, літоўцаў,
Для размовы на двор іх паклікаў:
«Наце сёдлы, трымайце,
Рысакоў засядлайце
Ды мячы падвастрыце і пікі.

Я дакладна разведаў:
Ў тры бакі да суседзяў
Тры задумана ў Вільні паходы:
Скіргель йдзе на палякаў,
Кейстут-князь — на прусакаў,
А на рускіх — Альгерд-ваявода.

Вам пара, малайчыны,
Доўг аддаць свой Айчыне.
Хай вядуць вас літоўскія богі!
Я ўжо моцы не маю,
Таму вас бласлаўляю:
Трое вас, вось і тры вам дарогі.

Першы сын мой хай рушыць
За Альгердам па Русі
Па-над Ільменем да Наўгарада.
Прывязе ён з паходу
Срэбра стуль, нібы лёду,
Сабалёвага футра багата.

Сын другі у прусакаў,
У праклятых крыжакаў
Усяго набярэ дарагога:
Рызы ў бляску брыльянтаў
І суконныя транты,
Як пяску там бурштыну марскога.

Па-над Нёманам трэці
Паляціць, нібы вецер,
Над галечай палёў, пералескаў.
Хіба шаблю захопіць
З краю польскага хлопец,
Але выбера, пэўна, нявесту.

Між жаночай суполкі
Наймілейшыя полькі:
Ўсе гарэзы, іскрацца вясёлкай,
Твар — бялютка смятана,
Шчочкі рдзеюць румяна,
Пад павекамі свецяцца зоркі.

Маладым чалавекам
Таму болей паўвека
Я прывёз сабе польку за жонку.
І хаця ўжо памёрла,
Ды сціскаецца горла,
Толькі гляну я ў тую старонку…»

Рысакоў асядлалі,
Тры сыны паскакалі.
Жджэ-чакае стары іх у скрусе.
Дні і ночы праводзіць.
Аніхто не прыходзіць.
І падумаў: загінулі, мусіць.

Раптам трактам зімовым
Скача сыне здаровым
З ношаю пад накідкай крылатай.
«Што ў цябе пад накідкай?
Наўгародскія зліткі?» —
«Не, палячка-нявеста, мой тата».

Снежнай замеццю скача
Сын другі, не іначай
З поўнай ношай пад буркай з-за ўзлеску.
«Мо з крыжацкай краіны

Ты прывёз мне бурштыну?» —
«Не, мой тата, палячку-нявесту».

Скрозь пургу, нібы вецер,
Скача коннік і трэці,
А пад буркаю — ноша такая ж.
Без пытання ўжо бацька
Завіхаецца хвацка:
На вяселле радзіну склікае.

*Пераклаў з польскай Пётр Макарэвіч.*

НЕВЯДОМЫ АЎТАР

## Песня ўланаў Тышкевіча, 1812 год. 17-ы полк Літоўскай кавалерыі

*(Са збораў Івана Луцкевіча)*

Песня захавалася на польскай мове
ў зборы Івана Луцкевіча ў Вільні.

Што там за жаўнеры, ці ж гэта не ўланы?
Гожыя ўсе хлопцы, пышна паўбіраны.

Уланы, уланы, сівых коней многа,
Я да вас прыстану, як дасце такога.

Ты зважай, васпане, што там за пастава,
Ну а што за мужнасць, ну а што за слава.

Стануць на пастоі ці там на кватэры —
Тышкевіча ўланаў любяць тут без меры.

Крыўды ён не ўчыніць і не зробіць шкоды,
Я да іх прыстану і пайду ў паходы.

Як ссядаюць з коней, звякаюць астрогі,
А дзяўчаты — гуртам следам ва ўсе ногі.

Памірала дзеўка, аб адным пытала:
А ці б на тым свеце ўлана не спаткала.

Дзеўчына-дзяўчына, вось душа адлеце,
Што ўжо з тых уланаў ды на там-тым свеце?

— І на там-тым свеце, вам хачу сказаці,
Тышкевіча ўланаў буду я кахаці.

*Пераклаў з польскай Станіслаў Суднік.*

АЛЯКСАНДР МАКРЭЦКІ

## Да дзвюх соснаў, якія стаяць пад Лідскім замкам

Напісана Аляксандрам Макрэцкім па-польску 13 ліпеня 1850 года ў мястэчку Дзітрыкі Лідскага староства. Аляксандр Макрэцкі — бацька генералаў Адама і Стэфана Макрэцкіх, камандзіраў беларуска-літоўскіх дывізій, і акадэміка Зыгмунта Макрэцкага.

Сосны, дзве прыгажуні Лідскага замка ў нашай зямлі,
Раскажыце, чаму вы так смутна стаіце?
Раскажыце нам, раскажыце пра мінулае ваша жыцце,
Што вы бачылі? Хто вас садзіў і калі?

Як прылеглі да даўніх, амшалых тых сценаў?
Чаму абнялі іх вашыя кроны,
Як каханак каханку? Так вы хвіляў мільёны
Стаіце, бы сёстры, ў глухім задуменні.

Дзіўных казак сплялі тут старэйшыя людзі:
Вы не сосны — заклятыя дзве каралеўны,
Што ў час невядомы, ды пэўны
Бразгат зброі і крыкі вас будзяць.

Што часта міжночы занімецца ззянне,
Пад ім жа дзве ў беллі прыгожыя панны,
Ды труны ля ног не падпусцяць цікаўных,
І доўжыцца тое да самага рання.

Раз нейкі смяльчак хацеў ссеч вас, спаліць,
Пырскнула кроў з-пад сякеры струменем,
Зямля задрыжала, і хлопец з трымценнем
Уцёк, каб жыццё ў той жа час не згубіць.

Можа, выраслі вы з касцей нашых браці,
Каб пільнаваць тут іх светлай магілы?
І кронамі горад стары вы пакрылі,
Каб нікому-нікому яго не аддаці?

А мо алтары перад вамі стаўлялі
На гонар якога літоўскага бога
І кожнай галінцы маліліся строга,
Рэліквіі шчыра ў паклоне складалі?

Хай было там, як хоча, скажу вам па-свойму:
Столькі стагоддзяў на свет вы глядзіце,

Вы бачылі нашых прашчураў жыцце,
І бітвы на полі, і ў горадзе соймы.

Святыя часіны, як кожны з сабрацця
Нёс маёмасць сваю і жыццё на ахвяру
За вольнасць Айчыны, за светлую мару
І не баяўся, што ўсё можа страціць.

Іх слаўныя дзеі Бог дабраславіў,
Імя іх набатам грымела ў вяках,
Праймалі суседзяў павага і страх,
Як хто пра ліцвінаў казкай іх бавіў.

Святы час! Святы! Аддаў бы і жыцце
За светлай мінуўшчыны дзень…
Ды край па касцях маіх продкаў брыдзе,
І роспач буяе мятліцамі ў жыце.

Помнікі сведчаць, ды іх ужо мала,
Колькі ў крушні лягло і прапала навекі.
Як дзве сіраты без падмогі, апекі,
Вы засталіся над стромаю вала.

Як міла пад вамі ў цяньку прыпыніцца,
Каб глянуць на горад, тлум рознага люду
І з пакорай прасіць Маці Божае цуду,
Каб яму наказала духам праўды з'явіцца.

Каб горад той ласкай сваёй ахінула,
Шлях асвяціла ў варожасці ночы…
Ды ўсё тут маўчыць, толькі вецер з паўночы
Глуха нам цвердзіць, што ўсё прамінула.

*Пераклаў з польскай Станіслаў Суднік.*

## Сэрца і гекзаметр

Напісаны ў Лідзе, у лесе, познім летам 1936 года па-польску Антоніем Маслінскім, будучым прафесарам, доктарам габілітаваным, надрукаваны ў Вільні ў літаратурным дадатку часопіса «Адкрытыя справы» ў 1937 або 1938 годзе.

Верасы гуляюць пчоламі,
У здранцвелым пачаканні
Дрыжыць ліловае паветра,
Купаючы разагрэтую зямлю,
Калі дрыготкія цені
Прыплюшчваюць вочы.
А водар хвалюе
І шаты сосен
Павевам калыша —
Душу растапляе пылкае сонца,
Каб з конікаў стрэкатам
У небе стуліцца.
Не аблачынай, што вее расою,
А Божым, з Апакаліпсу
Зіхценнем абрамована,
Песціць велічнасць сонца
Грывай абтрэпанай.
Ягова на слупе воблака —
Творца як у дні Хаосу —
Тут зямля, якая дыхае раскошай,
Гулам аваднёў напоўненая —
Пасярод — сэрца чалавека
Замалое для Бязмернасці,
А мера яго гняце
А журбота цісне…

*Пераклаў з польскай Станіслаў Суднік.*

## ТОМАС МАКГІ

# Кельты

Напісаў ірландскі паэт Томас Макгі, на жаль, так жа малавядомы ў Ірландыі, як нашыя паэты ў нас.

Дзвюх тысяч год свінцовыя туманы
Той час завалаклі.
Прыйшлі ў край людзі моцы неспазнанай
І селі на зямлі.
Вышэй ад рымскіх дзідаў веліканы
Тут статкі сцераглі,
Свой мелі флот і людзям лёс нязнаны
Яны ўгадаць маглі.

Яны служылі гнеўнаму Мак Ліру —
Гаспадару глыбінь,
Ён паглынаў у дні вайны і міру
Флатылі й караблі.
І Круаху далі яны сякіру,
Гром і нябёсаў сінь,
А Дзеве песень прысвячалі ліру
І найслаўнейшы гімн.

Няўмераныя ў жарсцях і жаданнях,
Яны прайшлі скрозь змрок,
І імі ўзнятыя умацаванні
Не разбурыў варог.
Цароў ачольваў пахаванні
Пірамідальны рог,
Ад іх хлапцоў на паляванні
Ўцячы алень не мог.

Між іх быў Фін, што даў жыццё паўбогу,
Якога песень тон
Не парушала побыту трывога,
Гучаў там славы звон.
Той Фін, звязнёны Грайнэ хутканогай,
Красы прыняў палон,
Яе адвёўшы пад свае чартогі,
На свет паслаў паэта ён.

Ты Асіян. Хай дваццаццю вякамі
Аддзелены ад нас,

І феніі не паўстаюць радамі
Ні ў бітвы і ні ў трызны час,
І дзіўна чуюцца часамі
Імёны іх для нас:
Фін, Гол, тваё… Мы чуем іх, і з намі
Дух іхні, быццам наш якраз.

Друідаў мова, іх алтар і вера,
Як дзіўна было там,
Іх свет адной нябачнай сферай
Бацькамі здадзены сынам.
Іх песня, спеваў грацыя і мера
Агучылі наш храм.
Жыццё, каханне, страты цёмнай эры
Адкрыты песняй нам.

Гігант, пясняр… Цяпер ва ўсім Сусвеце
Хто да канца спазнаў
Між смертных з'яў паэзіі бяссмерце
І хто яе ўспрыняў —
Адзін ён быў з душою, як суквецце,
І годны слаўных спраў.
Ён свет спасціг, як песень квецень,
І нам пераказаў.

*Пераклаў з польскай і праз рускую Станіслаў Суднік.*

ЧЭСЛАЎ СЭНЮХ

## Балада пра сталяра і дубіну

Як з цвёрдай, моцнай дубіны
На землю ляціць пілавінне,

Бывае, чуваць кшталту спеву
Пад пілкай з кавалка дрэва.

Думкі пра гвалт гоняцца прэч
У прадчуцці, што выйдзе рэч.

Часам жа тое бывае,
Столяра дуб не прымае.

Як рэч той спрабуе зглуміць,
То дошцы тады забаліць.

Як рука, што бярэцца за справу,
Ні лева табе і ні права,

То дуб з-пад такое рукі
Пілу зашчамляе ў ціскі,

І песню ўжо не дастане
Сталяр пры найбольшым жаданні.

*Пераклаў з польскай Станіслаў Суднік.*

## ЯН ЛЕАНЧУК

*З КНІГ «НА ВЕЧАР»*



Ішлі мы дарогамі
пра якія помніць ніхто не будзе
матылькі не пацвердзяць праўду
а лета тады лашчылася нам да ног
здзіўленых неверагодна

а цяпер калі боль датыкаецца долу
ідзем да абяцанага ўскрайку жыцця
цягнем ногі
слепнем як лямпа пакінутая на стале
толькі б яшчэ адзін крок
абы ціша
не заплавіла воскам вочы

ідзем
забываючы свае імёны

і толькі неба дыхае цяжка
і час прыстае
у здзіве

але ідзем яшчэ
валачэм ногі
і спапялёнае сэрца
зямлі слугуе



вяртаюся
а там цісне кашулька
цацкі змоўклыя і збалелыя
адарваныя рукі лялек
пакалечаныя калыскі
і алавяны жаўнерык-дэзерцір
зарыўся ў зямлю
сасніць перамогу над смерцю

нават птушкі
асалавела завіслыя на небакраі
не падаюць голасу

вяртаюся ў сны
яшчэ не пабляклыя
у іх бацькі маладосці самоту ашукваюць
датыкаючыся далонямі

не выдаюць гукаў радасці
дрэвы яшчэ бязлістыя
і рака не знесла святаянскія пажаданні
а пчала не ўзяла нектар
закамянелы ў цукры

фатаграфія паблытала фарбы
жыццяпісу
і смерці



вясна набліжаецца
рукі здранцвелі ад холаду
клямкі
майго дому



не ведаў
што ўчора чытаў у вачах бы з лемантара
прагнозы сэрца

кавенька сёння і імгла ўчора



шукаючы цяпло далоням
пад сподам знаходзіў ношку жадобы
і згарэлае сэрца

і так міналі дні і ночы

свет на фотавыявах
прэзентаваў жыццё

у набрынялых біцэпсах
грудзях сіліконавых
уздыхах
пакрытых ружай світанняў

а далоні нецярпліва
шукалі яшчэ зямлі
не бясплоднай
і азалелай

абрынутыя ў бяссонне
на ўскрайку свету
а можа на краі ложка
і лістка паперы
спачывалі



мая Сцяна Плачу
скамянела ад болю

ці пачую
твой голас…



у пустых прыгоршчах
скалечаны
каляровы абломак
мараў



ужо не запытаюся ў мамы
пра аблічча легіянера
пакінутае на старым фотаздымку
у беластоцкім атэлье Салавейчыка

дакранаюся вачэй зацягнутых павалокай

пасыпаліся вусы дзеда
і парэшткі нафталіну
з бляклага здымка

на пытанні
няма адказу



словы што крынічылі з жыл
не маюць гемаглабіну
ані хларафілу

застыглыя
чакаюць прытулку



калі-небудзь забракуе слоў
вершы будуць мінаць мяне
у маўчанні

ці буду памятаць
што кахаў
шукаючы сваю дарогу



перад тым як Тваё дыханне замкне мае вусны
і сны адплывуць у маёй крыві
дай мне сілы каб зрокам сваім
атуліць усё што не здолела сэрца

пакінь Божа тое чаго не падараваў
маёй Басі калі ад неба мяне хацела адвесці
сноў далёкія галасы над лугамі цішы
вясновыя надзеі як першы пацалунак

маім сынам дазволь каб верш сардэчны
на парогах іх хат пільнаваў жыццёвыя ўцехі
а потым на небасхіле разнасцеж невялікую брамку
у сады зялёныя вечнай любові

а сябрам калі ў крыві маёй
адчулі тое што сталася запаветам сноў
дай Божа каб адтуль цяплом сваіх сэрцаў
адагрэлі мае азяблыя і скрушныя рукі

*Пераклаў з польскай Юрка Голуб.*



# Крытыка. Край. Дзённікі

ЮРЫ ГУМЯНЮК

## Цені Бруна Шульца ў Гродне

*Эсэ*

Бруна Шульц, як адзін з найвыбітнейшых польскіх пісьменнікаў першай паловы XX стагоддзя, малавядомы на Беларусі. Хіба што вузкае кола адмыслоўцаў-літаратуразнаўцаў, студэнтаў-паланістаў ці літаратараў-практыкаў, замілаваных у польскай культуры, знаёма з ягонай творчай спадчынай. Прычынаў тут некалькі, і ўсе яны аб'ектыўныя, абумоўленыя гістарычнымі ды ідэйна-эстэтычнымі арыенцірамі польскай і беларускай культуры міжваеннага перыяду. Зрэшты, не толькі міжваеннага, але і ўсяго (пры пэўных агаворках) XX стагоддзя — да тае пары, пакуль Беларусь не стала незалежнай дзяржавай. Тады маладыя беларускія інтэлектуалы, імкнучыся за пасярэдніцтвам шэрагу філасофска-культурніцкіх праектаў вярнуць Беларусь у Сярэднюю Еўропу, дзе яна знаходзілася чыста геаграфічна, не маглі абмінуць такую арыгінальную з'яву, як Бруна Шульц. І творы Бруна Шульца, пераважна ў перакладах Сяргея Шупы, загучалі па-беларуску. Я не прыгадваю, каб нешта са спадчыны Бруна Шульца было надрукавана ў дзяржаўных выданнях. Затое ў незалежных — калі ласка. «Вуліца кракадзілаў» — у газеце «Наша Ніва», «Манекены» — у часопісе «Фрагменты»…

Гэтыя публікацыі сталіся сапраўдным прарывам. Але не настолькі моцным, каб прысутнасць Бруна Шульца ў Беларусі была адчувальная, хаця б у літаратурным асяроддзі. З гэтай нагоды дазволю сабе крыху пажартаваць. Некалі, выбіраючыся ў 2002 годзе ў Варшаву на юбілейныя імпрэзы, прысвечаныя пісьменніку, я паведаміў пра гэта калегам. Дык вось калегі, пачуўшы прозвішча Шульц, адразу згадалі не польскага ніка-мадэрніста, а колішняга дзяржсакратара ЗША з адміністрацыі прэзідэнта Рональда Рэйгана…

Не ведаю, як у іншых беларускіх гарадах, а ў Гродне прысутнасць Бруна Шульца не выклікае асаблівых пярэчанняў, яна вельмі адчувальная. Мабыць, таму, што сам горад, як былая рэзідэнцыя каралёў Рэчы Паспалітай, як знакавае месца на скрыжаванні розных культур і рэлігійных традыцый, арганічна ўпісваецца ў сістэму шульцаўскіх вобразаў і фантасмагорый. Калі з галавой панурыцца ў дзіўны метафарычны свет пісьменніка, можна сапраўды ўявіць ягоных герояў на гарадзенскіх вулках міжваеннага перыяду. Балазе гэтыя вулкі выдатна захаваліся і дагэтуль. Можна пазнаць і «Вуліцу

кракадзілаў», і «Цынамонавыя крамы», і, напэўна, тых крыху дэманічна-пажадлівых кабет-манекенаў. Зусім няважна, дзе яны нарадзіліся: у павятовым Гродне ці павятовым Драгобычы, на радзіме Бруна Шульца. І там і там напрыканцы XIX — пачатку XX стагоддзя было шмат жыдоўскага насельніцтва, дзейнічалі сінагогі, а ў часы ваеннага ліхалецця — гета, дзе фашысты гнэмбілі і мардавалі жыдоў.

Самі жыды, як носьбіты старадаўняй рэлігіі і культурнай традыцыі, шчодра ўзбагачалі культуры суседніх народаў, парушалі «сугестыўна» напрацаваныя нядобразычліўцамі стэрэатыпы: маўляў, жыды — адно гандляры-спекулянты ці музыкі з правінцыйнага шынка. Згадаю дзеля прыкладу некалькі зорных імёнаў, звязаных з Гроднам: тут нарадзіліся жыдоўскі паэт Лейба Найдус і выбітны мастак Леў Бакст, нейкі час жыў і працаваў стваральнік мовы эсперанта лекар-акуліст Людвіг Заменгоф. Флюіды жыдоўства ў горадзе на Нёмане былі настолькі моцныя, што «жыдоўская тэматыка» не магла не адбіцца ў творчасці знакамітых пісьменнікаў. Згадайма хаця б аповесць Элізы Ажэшкі «Мэйр Эзафовіч».

Аднак усё гэта аніякім чынам не звязана з асабістым жыццём і творчасцю Бруна Шульца. Хіба што існуе апасродкаваная метафізічная сувязь, якая нябачнымі ніцямі яднае розныя геаграфічна аддаленыя тэрыторыі ды закуткі правінцыі. А правінцыя, бясспрэчна, мае сваю метафізіку. Яна ўцягвае, засмоктвае, захапляе. Трэба пражыць колькі часу ў правінцыі, каб зразумець ейную сутнасць. Гэта адчувала і адлюстравала ў сваіх «крэсовых» аповесцях пісьменніца Зоф'я Налкоўская, якая ў 20-х гадах мінулага стагоддзя жыла ў Гродне і якая, зрэшты, спрычынілася да сапраўднага літаратурнага дэбюту Бруна Шульца. Хто ведае, які б лёс напаткаў гэтага настаўніка малявання з правінцыйнага Драгобыча, каб не ўражаная смеласцю ягоных знаходак Налкоўская. У сваю чаргу ўдзячны Бруна Шульц, здабыўшы вядомасць у літаратурным свеце міжваеннай Польшчы, адгукнуўся ў часопісе «Skamander» рэцэнзіяй на раман Зоф'і Налкоўскай «Нецярплівыя».

На вялікі жаль, у савецкім літаратуразнаўстве творчасці Зоф'і Налкоўскай адводзілася куды большая ўвага, чым Бруна Шульцу. І гэта зразумела, хаця б з чыста ідэалагічных меркаванняў. Так, у маскоўскім акадэмічным выданні «Гісторыя польскай літаратуры» 1969 года Налкоўскай прысвечаны цэлы раздзел, у той час як творчасці Бруна Шульца ў агульным аглядзе польскай літаратуры 1918–1944 гадоў адведзены адно сціплы абзац.

Сёння на дварэ іншыя часы, і сітуацыя мяняецца. У 90-я гады мінулага стагоддзя ў Беларусі расце цікавасць (натуральна, не такая масавая) і да творчасці Бруна Шульца. У 1993 годзе ў Расіі перакладзены абедзве кнігі Шульца «Sklepy cynamonowe» («Коричные лавки») і «Sanatorium pod Klepsydrą» («Санаторий под клепсидрой»). Яго ўсё часцей згадваюць, таксама згодна з сугестыўна напрацаваным стэрэатыпам, але ўжо польскага літаратуразнаўства, у звязку з Вітольдам Гамбровічам і Станіславам Віткевічам (Віткацы) як «святую тройцу польскага літаратурнага мадэрнізму». Не буду разгортваць гэтую тэзу, але сапраўды, нягледзячы на адрознасць гэтых

выбітных пісьменнікаў, яны стварылі асноўныя мадэрністычныя творы ў польскай літаратуры. Больш за тое, іх рэчы апасродкавана паўплывалі на кшталтаванне новай, ужо постмадэрністычнай літаратуры. У тым ліку і ў Беларусі.

Я сам, як літаратар-практык, які скончыў аддзяленне паланістыкі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, адчуў на сабе подых гэтых сапраўды грандыёзных постацяў. А пакаштаваўшы іхняе эстэтыкі, я не мог не адчуць іхняе энергетыкі, не ўсвядоміць усю значнасць іхніх мастацкіх адкрыццяў. Магчыма, тая энергетыка і адлюстравалася ў маіх вершах…

Што тычыцца прысутнасці Бруна Шульца ў Беларусі, і ў прыватнасці ў Гродне, дык яна мае перспектывы для пашырэння. І, спадзяюся, мы займеем манаграфію не толькі пра творчасць Зоф'і Налкоўскай, але і пра творчасць Бруна Шульца. Нездарма ж гродзенскія студэнты-паланісты чытаюць ягоныя творы, пішуць курсавыя і дыпломныя працы, а магчыма, і бачаць цені шульцаўскіх персанажаў на гродзенскіх вулках і ў вокнах старадаўніх камяніцаў…

Нарадзіўся ў 1969 годзе ў Гродне. Скончыў аддзяленне паланістыкі Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. На абласным радыё рыхтаваў літаратурна-мастацкі радыёчасопіс «Кантэкст». Працаваў у газетах «Пагоня» і «День», загадчыкам літаратурнай часткі Гродзенскага абласнога тэатра лялек. Выдаў зборнікі вершаў «Водар цела», «Твар Тутанхамона», «Рытуал», «Вуліца тыгровых архідэяў». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.





АЛА ПЕТРУШКЕВІЧ

## Гарадзенскія вобразы ў паэзіі Вольгі Іпатавай

Экскурсію «Літаратурныя сцяжыны Гародні» часам пачынаю з таго месца ля высокага берага Гараднічанкі, што насупраць дома Элізы Ажэшкі. Тут сёння ў сучасным чатырохпавярховым будынку месціцца беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. А калісьці ў пасляваенныя гады знаходзіўся дзіцячы дом, што на многія гады стаў прытулкам для будучай пісьменніцы Вольгі Іпатавай. Менавіта з гэтым месцам звязвае яна велічнае паняцце — «Радзіма». І хоць ён не мог быць у поўным сэнсе родным домам, бо не быў сагрэты мацярынскай, бацькоўскай ласкай, усё ж адсюль пачынаўся шлях у жыццё. Стаў пачаткам, родным кутом, адкуль пачынаецца вялікая Радзіма:

Радзіма! Стаў табой упершыню
Дзіцячы дом — жыцця майго калыска [1, с. 4].

З тае пары памяць надзейна захавала няпростыя рэаліі таго, паваеннага часу і пачуццё ўдзячнасці да людзей, у сэрцах якіх жыло разуменне чужой бяды, спачуванне дзецям-сіротам. У вершы «Глядзім мы рэдка…» Вольга Іпатава здолела перадаць адначасна трагічнае і ўзвышанае пачуццё, што высвечвала лепшае ў чалавечых душах:

Да скону дзён забыць я не магу —
Руінаў дым, натоўп за хлебам ноччу
І крык: «Дзетдому ў першую чаргу!»—
Хоць у людзей гарэлі смуткам вочы… [1, с. 4]

Пра гэты верш аўтар рэцэнзіі на кнігу Алесь Бачыла пісаў: «Звычайная жыццёвая хроніка тут стала самой паэзіяй, не салоннай, а той сапраўднай, якая стаяла разам з людзьмі ў чарзе за хлебам» [2, с. 122]. Верш увайшоў у першую, гарадзенскую кнігу маладой паэткі з гэткай жа маладой назвай «Раніца». Бо і напісана яна ў нашым горадзе, і выйшла, калі паэтка жыла тут, і таму гарадзенскія матывы ў ёй асабліва выразныя. Крытык Аляксей Пяткевіч таксама адзначае гарадзенскія вытокі таленту паэткі: «Гродна гадавала яшчэ адну яркую паэтычную асобу, што праявіла сябе ў творчасці вельмі living рознабакова, — Вольгу Іпатаву. Разгорнем яе першы зборнік “Раніца” і адразу кінуцца ў вочы тутэйшыя назвы: “Каложа”, “Над Нёманам ранак разліў малако…”, “Гродзеншчына”, “На вуліцы Замкавай”, “Ласасянка”. Гродзенскія вуліцы, нёманскія берагі сталі часцінкай яе жыццёвага свету» [3, с. 54].

Кніга мела шчаслівы лёс ужо таму, што было шмат водгукаў: дзесяць рэцэнзій надрукавана ў рэспубліканскім і абласным друку. Як на сёння, то гэткая ўвага да першага зборніка маладой аўтаркі проста неверагодная.

З удзячнасцю згадвае Вольга Іпатава тагачаснага кіраўніка абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Аляксея Нічыпаравіча Карпюка, які стаў «хросным бацькам» кнігі: «Рукапіс гэтай кніжкі, названай мною "Раніца" (пазней мне прыпісалі атаясамленне яе з назвай газеты, якая выдавалася ў часы вайны), Карпюк сам павёз у выдавецтва і паказаў Петрусю Броўку. Броўка прыслаў мне ліст з прапановай дапоўніць кніжку вершамі, бо іх сапраўды было малавата. Пасля працы я хадзіла між замкамі — Старым і Новым, — і радкі самі сабой нараджаліся — пра вуліцу Замкавую, пра Каложу…» [4, с. 555].

Каложа. Яе вобраз займае адметнае месца ў паэзіі Вольгі Іпатавай. Для гарадзенцаў гэта не проста самы старажытны помнік архітэктуры, што хай напалову, але ўсё ж захаваўся да нашага часу, гэта душа горада. Мо таму і ўбачылася Каложа маладой паэтцы беларускай жанчынай, што прайшла праз выпрабаванні, нягоды, але ўсё ж выстаяла, «*мяжу пераступіла ў вечнасць*». І таму зліваецца ў гэтым вобразе старадаўняе, далёкае і сучаснае, пажаноцку далікатнае, роднае, светлае:

Над ёю — цёплых ліўняў агарожа,
За ёй — вякі, падзеі, далячыні.
Стаіць здаўна над Нёманам Каложа
Сівою беларускаю жанчынай [1, с. 5].

Аўтар рэцэнзіі звярнуў увагу на яшчэ адзін «гарадзенскі» твор: «Цеплынёю і шчырасцю вее ад верша "Гродзеншчына". Для выяўлення сваіх пачуццяў паэтэса знаходзіць і свежыя вобразы, і нясцёртыя словы» [2, с. 122]. Пачуццё, перададзенае паэткай, і ёсць вышэйшай праявай любові, калі ў душы жыве неадольнае жаданне растварыцца, зліцца, стаць часцінкай таго, што любіш:

Над зямлёй — спелых яблык духмяны разліў.
Мне б упасці,
          уткнуўшыся тварам у жоўтае лісце.
Вочы поўніць пяшчота да гэтай зямлі,
Вусны поўніць прага да гэтай зямлі,
Сто разоў расстралянай
          і тысячу збітай калісьці [1, с. 61].

У наступнай страфе паэтка ўсяго некалькімі штрыхамі намалявала лёс Краю на гістарычных скрыжаваннях, калі нішчыліся духоўная спадчына, мова, нацыянальны гонар. Параўнанне дасканала перадае панаванне на нашай зямлі чужой волі, у дапамогу якой, зрэшты, тутэйшыя звычайна падстаўлялі свае плечы:

Выразалі, як хлеба акраец, яе з Беларусі.
І тапталі не раз і свае, і чужыя паны,
Каб забыць сваё слова, свой гонар
          і славу прымусіць [1, с. 61].

У вершы «Калі да цёмных вокнаў…» Гародня паўстае як места, дзе так хараша ўзыходзіць і разрастаецца каханне, дзе яно пачуваецца вельмі натуральна, а сам горад з мацярынскай пяшчотай навявае закаханым калыханкавы матыў, што чутны толькі раскрытым насустрач пачуццю маладым сэрцам:

Калі да цёмных вокнаў поўнач туліцца
І капяжы змаўкаюць каля хат,
Зноў пачынаюць гродзенскія вуліцы
Нячутна закаханых калыхаць [1, с. 35].

Каханне тут напаўняецца сілай зямных сокаў, бо ў самым цэнтры горада не закутыя ў асфальтавы панцыр дарогі і ходнікі, а вольныя наднямонскія кручы, сцяжынкі. Таму так шчыра адгукаюцца сэрцы маладых на словы прызнання, бо гэтыя сцяжынкі

Вядуць туды, дзе ліпы адубелыя
Страсаюць ў Нёман кроплі з мокрых рук,
Дзе моцна красавіцкай ноччу белаю
Кахання словы за душу бяруць [1, с. 35].

І спрадвечная сіла Каложы, і нязводная плынь Нёмана — усё служыць каханню, усё спрычыняецца, усё жывіць яго акавітай:

Дзе, казкамі-легендамі павітая,
Расце, здаецца, сіла пачуцця,
Дзе Нёман —
быццам сіняя арбіта
Не аднаго юнацкага жыцця [1, с. 35].

Наогул, вобразы Наднямоння сустракаем у многіх вершах паэткі. Нёман стаў для яе роднай ракой, тут навучылася плаваць, надзейна трымацца на паверхні без нічыёй падтрымкі, што было неабходнай умовай, каб выжыць і ўзгадавацца Асобай дзяўчынцы-сіраце. Пазней паэтка ўспамінала: «Плаваць я любіла і ўмела. Яшчэ ў дзетдоме мы спаборнічалі — хто больш разоў пераплыве Нёман, не кранаючыся дна» [4, с. 553].

Вобразы Наднямоння паўстаюць у паэзіі Вольгі Іпатавай у розных іпастасях, у розных праявах. Часам увасобленымі ў людскія постаці, са сваімі пачуццямі, з гісторыямі кахання, ростані. Так, Ласасянка, гераіня аднайменнага верша, рака на ўскраіне Гародні, кволы прыток Нёмана, адлюстравана ў вобразе закаханай дзяўчыны, што ў маналогу-песні цешыць сябе надзеяй сустрэчы з каханым:

Тоненькая,
Скача па белых каменнях,
Распявае ўслых:
«Меней,
меней
застаецца мне кіламетраў.

Бо плечы ад росаў замлелі,
Ногі ад туманоў азалелі.
Да любага рукі свае працягну,
Адагрэюся,
адпачну» [1, с. 37].

У аснове верша матыў няроўнага кахання, калі ён — славуты валадар Краю, а яна, маладая, наіўная, але надзвычай упартая дзяўчына, усяго толькі адна з многіх, хто марна летуценіць пра так жаданае шчасце, адкідаючы разумныя рады, не жадаючы слухаць і ведаць відавочнага:

Ён для цябе занадта вядомы.
Столькі паэтаў,
песняў, санетаў
Славяць па свету!
Столькі дзяўчат заклікаюць усмешкамі,
Ласкаю шчырай, цяністымі сцежкамі!
Вельмі ён славай сваёй ганарыцца,
Цябе, як другіх, прымусіць скарыцца [1, с. 37].

У вершы «Маё жыццё цяпер…» з другой паэтычнай кнігі «Ліпеньскія навальніцы» Нёман выступае адначасна як фон, як люстэрка, у якім праўдзіва, без фальшу адсвечваюцца пачуцці гераіні, і як пракаветнае прадонне, якое сцішана прымае тое, што страціла жыццёвую сілу, што аблятае, як восеньскі ліст:

Над Нёманам бярозай гонкай стыну,
І шэрань неба лістапад накінуў
На плечы мне.
І рве мяне за рукі.
Лісты — апошнія вясны дарункі
У сіні холад Нёмна ападаюць [5, с. 43].

Абрыў тут не проста месца, не проста наднямонская круча, гэта абрыў, страта пачуцця, кахання.

У трэцяй па ліку кнізе «Парасткі» шмат увагі аддадзена падзеям мінулага, тут адлюстравана шырокая геаграфія вандровак. «Але, — як заўважыў паэт Сяргей Грахоўскі, што рэцэнзаваў гэтую кнігу, — не гістарычная тэматыка вызначае стрыжнёвую плынь новай кнігі В. Іпатавай. Асабістае, глыбока перажытае і адчутае трывожыць, захапляе і хвалюе паэтэсу, будзіць думку, адкрывае сэрца» [6, с. 238]. Тут паэтка таксама часта звяртаецца да вобразаў Гарадзеншчыны.

У двух вершах, змешчаных побач у кнізе «Парасткі», па-рознаму адлюстраваны адзін і той жа матыў — вяртанне да Нёмана. Матыў вяртання да вялікай ракі — гэта вяртанне да сябе, калі адкінута мінулае, калі плынь вады адносіць у няпамяць непатрэбнае, пустое, дробнае, каб ачысціць ад усяго гэтага душу, захаваць яе ў чыстым выглядзе, вызваліць, як вызваляецца з адзення цела:

На бераг Нёмана прыйду апоўначы
І, кінуўшы адзенне на траву,
Свабодная, мінулага не помнячы,
Вадой празрыста-цёмнай паплыву [7, с. 25].

Асаблівага эмацыйнага напалу паэтка дасягае ў вершах, дзе гучыць матыў вяртання ў Гародню. Верш напісаны пасля развітання з родным горадам. Тут пераплятаюцца розныя пачуцці, розныя эмацыйныя станы. Рытарычныя пытанні толькі падкрэсліваюць незваротнасць страты і немагчымасць змяніць наканаванае:

Мой незвычайны горад, дзе была
Такою я шчаслівай — і няшчаснай!
Навошта ад цябе тады ўцякла?
Не уцячы ж нам ад душы уласнай! [7, с. 26]

Не абышла ў сваёй паэзіі Вольга Іпатава постаці гарадзенскіх творцаў, знакавыя для нашага горада. Сярод іншых твораў — верш-прысвячэнне «Міхасю Васільку». Гэта яму, тагачаснаму літаратурнаму рэдактару абласной газеты «Гродзенская праўда», прынесла юная школьніца свае першыя спробы пяра. У вершы аўтарка здолела перадаць нялёгкі лёс старэйшага гарадзенскага паэта, яго няпросты шлях у паэзію наўпрост з сялянскіх ніў:

Пад стомленымі рукамі
Кладуцца вершы радкамі.
Крамола ў хаце — вершы!
І цэнзар твой самы першы —
Пан камендант — смяецца:
«Быдла ў паэты рвецца!» [5, с. 54]

У рэпліцы гучыць пагарда, з якой вялікапольскі шавініст ставіцца да паэтычнага таленту сялянскага хлопца. Такія абразы неаднойчы давялося вытрымаць маладому паэту, каб сцвердзіць сваё права тварыць.

У Гародні пазнаёмілася Вольга Іпатава і з Васілём Быкавым. Хораша ўзгадвае паэтка сумесныя паездкі-выступленні ў школах, на розных прадпрыемствах. З гонарам піша пра тое, што стала сябрам той знакамітай «каманды»: Аляксей Карпюк, Васіль Быкаў, Данута Бічэль. Значна пазней быў напісаны верш, прысвечаны Васілю Быкаву «У час, калі твая…», у якім знаходзім паэтычную алюзію на творы пісьменніка «Сотнікаў», «Круглянскі мост». Паэтка вызначае тое асноўнае, чаму служыў Васіль Быкаў, — гэта праўда і Свабода, і тое, праз што патрэбна было прайсці яму, каб не здрадзіць праўдзе і застацца свабодным:

У час, калі да тваіх
Дзіцячых пластылінавых мазгоў
Падбіраліся абцугі сістэмы,
На іх крыжам сумлення лёг
Яго Сотнікаў — і ты

Па Круглянскім мосце пайшоў
На іншы бераг — да праўды [8, с. 38].

«Славу гораду, як і зямлі, робяць славутыя людзі» [9, с. 3], — заўсёды згадваю гэтыя словы Васіля Быкава, калі думаю пра наш горад. А самымі славутымі людзьмі другой паловы XX стагоддзя якраз і былі яны, беларускія творцы: Міхась Васілёк, Аляксей Карпюк, Васіль Быкаў, Данута Бічэль. У лістах да знакамітага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага ў Прагу Аляксей Карпюк паведамляў у 1967 годзе, што «з'явілася яшчэ маладая зусім (Оля Іпатава), таксама вельмі таленавітая» [10, с. 522]. Такім чынам ужо тады асоба паэткі была назаўсёды далучана да літаратурнай гісторыі Гарадзеншчыны.

**Літаратура**

1. Іпатава, В. Раніца. Вершы / В. Іпатава. — Мінск: Беларусь, 1969. — 80 с.
2. Бачыла, А. Чыстыя расінкі пачуцця / А. Бачыла // Маладосць. — 1969. — № 10. — С. 122–124.
3. Пяткевіч, А. Літаратурная Гродзеншчына: Мясціны. Людзі. Кнігі / А. Пяткевіч. — Мінск: Бацькаўшчына, 1996. — 96 с.
4. Іпатава, В. Успаміны пра Аляксея Карпюка / В. Іпатава // Выбраныя творы / А. Карпюк. — Мінск: Кнігазбор, 2007. — С. 551—560.
5. Іпатава, В. Ліпеньскія навальніцы : вершы / В. Іпатава. — Мінск: Маст. літ., 1973. — 96 с.
6. Грахоўскі, С. З парастка дрэву расці / С. Грахоўскі // Полымя. — 1977. — № 2. — С. 237–240.
7. Іпатава, В. Парасткі : лірыка / В. Іпатава. — Мінск: Маст. літ., 1976. — 96 с.
8. Пасланец мужнасці : Паэтычныя прысвячэнні Васілю Быкаву. — Мінск: Кнігазбор, 2009. — 104 с.
9. Быкаў, В. Максім Багдановіч — наш апостал / В. Быкаў // Я хацеў бы спаткацца з Вамі : да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча. — Гародня: Лідская друкарня, 1991. — С. 3.
10. Карпюк, А. Выбраныя творы / А. Карпюк. — Мінск: Кнігазбор, 2007. — 600 с.

АЛЯКСЕЙ ПЯТКЕВІЧ

## Крэскі з мае дарогі

**28.09.1988.** Ездзілі 22–25 верасня ў Кракаў на адкрыццё помніка на магіле Алеся Гаруна. Былі Данута Бічэль, мая Марына, Ніна Тарэлкіна, Дз. Кісель, М. Таранда, А. Аўчыннікаў, я. Спачатку спыняліся ў Беластоку, начавалі ў мілых Латышонкаў. Назаўтра, паснедаўшы, усе чамусьці адправіліся на рынак. Я застаўся з гаспадаром кватэры. Доўгая з ім гутарка пра беларускую нацыянальную ідэю. Цалкам разумеліся. Гэта ён (інжынер) з сынам Алегам адшукалі магілу А. Гаруна, знайшлі на беларускім полі пад Беластокам камень-валун, прыдатны для помніка, даставілі яго на Ракавіцкія могілкі, афармілі, заказалі тэкст.

Па дарозе на Варшаву ў цягніку моладзь усё разважала-спрачалася пра «Паходню», пра напрамкі яе працы. У польскай сталіцы ў гатэлі — сустрэча з мінчукамі (У. Казбярук, Б. Сачанка, В. Зуёнак, С. Андраюк) і з Алесем Баршчэўскім. Невялікае мужчынскае застолле. Аполец сала з запасаў Б. Сачанкі («заўсёды бяру з сабой у любую дарогу»).

У Кракаў — аўтобусам, дзе гаспадарыць А. Баршчэўскі, частуе ўсіх ахвочых, дастаючы прыпасы з нейкага схову каля кіроўцы. Размаўляем з ім пра літаратуру, лічыць, што Я. Купала больш таленавіты, чым Я. Колас, рашуча з ім не згаджаюся, даказваю. Зрэшты, ён амаль не спрачаецца.

24 верасня збіраемся ўсе на Ракавіцкіх могілках. Настрой урачыстасці. Хвалюемся. Беларуская моладзь з Бельска выступае з кампазіцыяй — песні пад гітару, вершы А. Гаруна. Разгорнуты вялікі бел-чырвона-белы сцяг, тут жа расцяжка «70 год БНР». Ля магілы гавораць Алег Латышонак, Аляксандр Баршчэўскі, англічанка Вера Рыч (аж заплакала), былы грамадовец з Беласточчыны Кастусь Сідаровіч. Данута Бічэль прачытала моцны верш пра К. Каліноўскага, прачытаў верш Віктар Швед. Выступаюць Уладзімір Казбярук, я, Васіль Зуёнак. Выступаюць людзі ад польскай інтэлігенцыі. Бярэ слова Міхась Лужынскі з Аўстраліі (мы глядзім, як на дзіва, на яго гальштук з выявай «Пагоні»). Доўга не разыходзімся, знаёмімся, размаўляем, фатаграфуемся.

Па дарозе назад у аўтобусе — доўгая размова з Алесем Баршчэўскім пра Сталіна, сталіншчыну, ад нацыянальных пытанняў чамусьці ўхіляецца. Прыемная гаворка з Міхасём Шаховічам, Міколам Гайдуком пра наша, беларускае.

Шмат уражанняў ад Кракава — велічны Вавель, Ягелонскі ўніверсітэт, Марыянскі касцёл — усё гэта дыхае гісторыяй. Умеюць палякі яе шанаваць.

**30.09.1988.** Учора на «Паходні» гаварыў пра А. Гаруна — і пра творчасць, і пра палітычную дзейнасць. Сапраўды, як многа ён паспеў зрабіць на роднай ніве. Паходнеўцы рыхтуюцца да Дзядоў, развучвалі «Пагоню» на словы М. Багдановіча.

**12.10.1988.** Сёння ў Доме палітасветы ўдзельнічаў у дыскусіі па нацыянальных пытаннях. Было каля 100 прапагандыстаў і тры іх выкладчыкі-марксісты з медінстытута. Яшчэ прыехалі з Мінска Сташкевіч М. С. і Пепяляеў В. І. Апошні — непрыкрыты сталінец. Сташкевіч паспеў «перабудавацца» і ўжо не лаяў нацыяналістаў, а казаў, што іх у Беларусі няма, а ёсць беларусафілы. Увогуле, ён адзін мяне падтрымліваў, хаця я і з ім спрачаўся. Марксісты з медінстытута мысляць даволі дагматычна і беды беларускай нацыі бачаць сёння толькі ў саміх беларусах. Зала была вельмі прыхільнай да беларускага пытання, хаця і не ўсе.

У Эстоніі свая мова ўзаконена як дзяржаўная, праўда, пакуль толькі рашэннем пленума іх ЦК.

**13.10.1988.** Гаварыў на «Паходні» пра Я. Драздовіча («і швец, і жнец…»). Што ж, калі няма ў нас спецыялістаў. Заўтра ў тэатры лялек — вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Я. Драздовіча, будуць там і іншыя выступоўцы, добра, калі знаўцы.

**2.11.1988.** У нядзелю (30.10) меўся быць у горадзе мітынг з нагоды Дзядоў, але гарвыканкам забараніў. Напярэдадні, не верачы, што «Паходня» прыме забарону, склікалі (па тэлефонах і праз пасыльных) сотні людзей з заводаў, школ на вуліцу Антонава, сабралі ў двары медвучэльні, каб супрацьдзейнічаць мітынгу і «Паходні», якая, быццам бы, маецца прыняць варожую пастанову пра адрыў БССР ад СССР і інш. Доўга трымалі людзей, пасля адпусцілі, патрабуючы маўчаць пра гэта і паабяцаўшы даць лішні выхадны дзень (гэта называецца цяпер дэмакратыяй). Мітынг мы сабралі ў зале ГДК, папярэдне паклаўшы кветкі ля помнікаў у горадзе і на могілках. Могілкі былі заблакаваныя міліцэйскімі машынамі (!), але блакаду знялі ўжо, калі мы прынеслі кветкі (каля 17 гадз.). Затым усе — у зале, дзе з'явілася шмат партыйных функцыянераў і невядомых у цывільным. Пра ахвяры і страты беларусаў гаварылі М. Ткачоў, А. Карпюк, Кісель (былы рэпрэсаваны настаўнік), І. Лепешаў і я. Дом культуры быў ачэплены міліцыяй — з двух яго бакоў дзяжурылі «Нівы», у якіх сядзелі міліцыянеры з рацыямі.

O tempora, o mores!

**5.04.1989.** Нешта не пішацца. Мусіць, таму, што жыццё такое — парванае на кавалкі. Выступленні, спрэчкі, расчараванні… Усё па нацыянальных пытаннях, якія ж трэба калісьці вырашаць, а іх старанна заганяюць у глыбіню. А ўчора ў газетах — страшная рэч — Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прыняў указ, якім унесены дапаўненні ў кодэкс БССР наконт правапарушэнняў. Імі сталі «незаконнае карыстанне флагамі і вымпеламі, распаўсюджанне або нашэнне плакатаў, эмблем і сімвалаў», таксама «незаконнае распаўсюджванне друкаваных выданняў». Гэта смярдзіць сталінізмам. Ужо тры гады пра беларускую школу — адна гаворка. Прынамсі, у Гродне — ніякіх практычных спраў. 11 красавіка еду ў Мінск, кліча Н. Гілевіч на пасяджэнне аргкамітэта «Таварыства беларускай школы». Што зможа такое таварыства пры аўтарытарным рэжыме? Будзе займацца размовамі. Але ж не сядзець склаўшы рукі.

Бурна праходзяць у Доме палітасветы лекцыі (у рамках «народнага ўніверсітэта») па беларускай гісторыі. Выбары ў Вярхоўны Савет СССР добра паказалі закулісныя махінацыі апаратчыкаў па выцісканні з ліку кандыдатаў інтэлігенцыі, людзей, здольных думаць. «Паходня» ўсё прамаўляе. Хораша, праўда, хаця толькі словамі, адзначылі памяць Кастуся Каліноўскага. Вывесілі бел-чырвона-белыя і дзяржаўныя БССР сцягі. Сказаў слова і я. Цяпер ужо не вывесіш.

**4.07.1989.** 24–25 чэрвеня адбыўся ў Вільнюсе з'езд Беларускага народнага фронту «Адраджэнне», адбыўся насуперак волі кіраўніцтва БССР. Сакалоў (1-ы сакратар ЦК) пасылаў нават у Вільнюс міністра замежных спраў БССР Гурыновіча, каб не дапусціў з'езд, ды не выйшла. БНФ, такім чынам, — ужо рэальнасць. Гэта апазіцыя палітыцы КПСС, і яна паспрыяе руху дэмакратызацыі.

Я не змог быць на з'ездзе з-за моцнай загружанасці ва ўніверсітэце і на курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў.

27 чэрвеня адбыўся ўстаноўчы з'езд Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Я быў дэлегатам, быў выбраны ў Рэвізійную камісію Таварыства. З'езд цягнуўся з 10-ці гадзінаў раніцы да паловы 11-й вечара, лепш сказаць, гарэў напалам адзінага пачуцця — болю, крыўды, гневу за стан нашае мовы.

Загадчыца дзіцячага сада Прыма (Мінск) запатрабавала аб'явіць урад БССР палітычным банкрутам. А. Белакоз пераканаўча гаварыў пра русіфікацыю Беларусі. Цікавымі былі выступленні многіх настаўнікаў. Гэтак жа тэмпераментна праходзіў і нядаўні Пленум Саюза пісьменнікаў па нацыянальным пытанні, дзе і я выступіў. Вядома, «ЛіМ» даў на сваіх палосах толькі вяршкі — самыя бяскрыўдныя моманты гэтай балючай размовы. Дзе ж тая рэальная галоснасць?

Сяджу дома, прыхворваю. Трэба пісаць, рыхтаваць артыкулы для зборніка, ды цяжка, хочацца адпачыць. Усё больш думаецца пра Свержан, маму. Трэба з'ездзіць, прыгарнуцца да родных сцежак, рэчкі, хаты. Штогод усё мацней туды цягне.

**19.07.1989.** Тыдзень таму былі ў гаркаме ў 1-га (я, І. Жук, З. Данільчык, К. Лецка). Падбіў іх, а ці варта было? Нешта ж трэба рабіць. Алёшын адразу адкінуў мае абвінавачанні ў раўнадушнасці да спраў беларускай мовы і бяздзейнасці: «А чаму вы раней не прыйшлі, Аляксей Міхайлавіч?» Як быццам раней не прыходзілі іншыя (Ткачоў, Лепешаў), не было гаворкі за круглым сталом у абкаме. Словам, пагаварылі і «вырашылі» пачаць работу па стварэнні беларускіх школ у горадзе. Я тыцнуў да таго ж даволі радыкальнай, як на сённяшні дзень, праграмай Мінскага гаркама, да якой прыклаў руку Краўчанка. Верыць ім, вядома, смешна. Але без іх, без улады, у руках якой усе рычагі, зрабіць беларускую школу ў нас наўрад ці можна. Ранейшыя спробы разбіваліся контрагітацыяй органаў народнай асветы, і бацькі забіралі заявы назад. Ох, гэтыя бацькі з іх комплексам нацыянальнай непаўнацэннасці!

Сёння былі ў гарсавеце з заявай на мітынг Беларускага народнага фронту «Адраджэнне». Адразу ж нязгода. Не даюць плошчу Леніна. Заўтра вырашае гарвыканкам. Прыйдзецца пайсці на нейкі кампраміс. Як то будзе — першы сапраўдны мітынг у горадзе!

27-га еду ў Свержан, Узяў білет.

**6.08.1989.** Гарадскі мітынг БНФ прайшоў у новым парку, на стадыёне няблага. Выступаў і я, ды нешта не надта ўдала. Прысутныя горача віталі БНФ, аднадушна падтрымлівалі крытыку сённяшняй афіцыйнай палітыкі. Ніхто з праціўнікаў Народнага Фронту не адважыўся выступіць. Выцягнулі сакратара гаркама Кудраўца, але гаварыў зусім памяркоўна.

Дома, у Свержні, пабыў шэсць дзён. Добра. Адпачываеш душою. Накупаўся ў Нёмане і нібы ачысціўся ад усяго благога. Хата, рэчка грэюць. Быў у сельсавеце і раённых установах наконт адкрыцця ў маім мястэчку царквы і касцёла, якія трэба яшчэ рамантаваць-рэстаўраваць пасля дзесяцігоддзяў выкарыстання іх пад склады. З загадчыкам аддзела культуры Грэкавым буду неўзабаве сазваньвацца, бо абяцаў неяк рухаць справу, якая стаіць.

Бяда ў тым, што амаль не пішу, г. зн. не раблю галоўнага. Усё нейкая нявыкрутка.

**29.08.1989.** Зараз — беганне па школах, каб стварыць хоць класы беларускія, бо нашы апаратчыкі, вядома ж, нічога не рабілі. Але ж трэба і ім неяк варушыцца. Учора выступаў з С. В. Цыганковай (сакратар гаркама) у СШ № 26 перад бацькамі першакласнікаў. Выступалі двойчы, бо было 2 патокі сходу. Клас будзе. Але… Гаворка мая — як у пустэчу. Позіркі халодныя. Гэта мікраён на ўскраіне, учарашняя вёска, з якой беларус уцёк ад свае беларускай ніжэйшасці, што насаджалася праз пакаленні пераследавання і здзекаў. Дык вось гэты беларус не хоча ў масе сваёй беларускай школы. Цяжка гэта бачыць. Ён глуха маўчыць, але адчуваецца яго пратэст, яго недавер да мяне: «Куды ты мяне цягнеш? Назад?» Шмат трэба будзе працаваць з людзьмі, якіх пакалечыла савецкая сістэма. Справа яшчэ ў тым, што беларускасць не атрымлівае сёння дапамогі друку. Адсюль і недавер. Польскі рух, між іншым, хоць і скупа, але падтрымліваецца прэсай. Такая зараз, відаць, кан'юнктура. Таму і класы польскія ў горадзе ствараюцца лягчэй.

Свае навуковыя справы пакуль не робяцца. Кепска.

**13.09.1989.** 11-га быў у Мінску на пашыраным сакратарыяце Таварыства беларускай мовы. Высвятлялася сітуацыя з беларускім адраджэннем у розных рэгіёнах. Малюнак у цэлым сумны. Партыйныя органы ці тармозяць справу, ці прыкметна перашкаджаюць ёй. Але моцна расце колькасць нацыянальных энтузіястаў з інтэлігенцыі. Гэта дае надзеі.

Трэба рыхтаваць з'езд ТБМ у Гродне. Я ўжо стварыў ініцыятыўную групу з настаўнікаў падчас жнівеньскіх нарад. Трэба падключыць сяброў «Паходні». Толькі вярнуся з Польшчы — 20–25 верасня будзе вялікая Міжнародная канферэнцыя ў Беластоку. Цяпер рыхтую даклад.

**28.09.1989.** Пішу ноччу. Днём няма часу. Адно беганне па грамадскіх справах — праграма «Родная мова» ва ўніверсітэце, лекторый у горадзе па гісторыі беларускай культуры, падрыхтоўка з'езда ТБМ у Гродне. Навуковая канферэнцыя ў Беластоку была і палітычнай акцыяй палякаў у сэнсе абгрунтавання іх правоў на Віленшчыну і польскасць у гэтым рэгіёне (беларусы пра беларускасць Вільні маўчаць). Былі на канферэнцыі палітычныя выступленні. Былі цікавыя навуковыя даклады. Запомніліся Лешак Бяднарскі — мовазнавец з Кракава, гісторык-беларусіст Марцэлі Коман, размовы з імі. Запомніліся былыя віленчукі і гарадзенчукі з іх настальгіяй па мясцінах маленства. Мілыя калегі пані Галіна з Беластока і пані Малгажата з Гданьска, філолаг з Калумбійскага ўніверсітэта, доктар Элізабет Валкэнер, шчырая размова з ёю. Сустрэчы з С. Яновічам і А. Мірановічам. Вабіць у Сакраце яго аналітычны розум, але ператвараецца мой даўні сябра ўсё больш у прапаведніка, які любіць гаварыць, забываючыся пра суразмоўцу.

Даклад мой на канферэнцыі, здаецца, атрымаўся. Дыскутавалі. Была і падтрымка, і нязгода («навошта шукаць беларускасць у польскіх пісьменніках»). Увогуле ж я — чалавек не надта кантактны ў такой «пярэстай» кампаніі, тым больш, што нялёгка з непрывычкі было мне размаўляць па-польску. На экскурсію не застаўся. Няблага сам вывучыў у гэтую паездку Беласток.

Стаіць рэдкая залатая восень, аж чуешся маладзейшым, лёгкім.

**13.10.1989.** Сёння сабралі ў гаркаме, у С. В. Цыганковай аргкамітэт па скліканні гарадскога з'езда ТБМ. Спіс аргкамітэта склаў я і перадаў напярэдадні ў гаркам. Цяпер бачу, што прыйшлі многія не тыя, а «тых» у большасці няма. Ну, ладна, паглядзім, як будзе далей. Абгаварылі падрыхтоўку, я выступаў з прапановамі. Спрэчак асаблівых не ўзнікла. Калі выбіралі старшыню аргкамітэта, дружна прапанавалі мяне. Але я адмовіўся на карысць Цыганковай (у яе ўсе арганізацыйныя магчымасці). Яна ж адразу выступіла супраць майго патрабавання лічыць усіх сяброў «Паходні» дэлегатамі з'езда. Я заявіў рашучы пратэст. Буду стаяць на гэтай пазіцыі да апошняга — аж да свайго выхаду са складу аргкамітэта.

Зусім няма часу. Жонка ў бальніцы. Дача запушчана. Не сяджу за рабочым сталом, а бегаю. Учора быў на ўстаноўчым з'ездзе ТБМ Гродзенскага раёна. Выступаў, сам сабе не спадабаўся, трэба было лепш.

Каторы дзень дажджыць, імжыць, няма гэтаму канца.

**31.10.1989.** Учора вярнуўся з Беластока. Быў з дакладам на семінары «белавежцаў», аналізаваў іх творчасць. Казалі, было гэта зроблена прафесійна ўпершыню. Але арганізавалі яны семінар сяк-так, і прайшоў ён досыць фармальна. Можа, тамтэйшых пісьменнікаў цікавіць зараз больш палітыка. Ствараюць жа партыю «Грамада». А Алесь Барскі прапануе некалькі партый.

Абсурд. Увогуле ж у іх цяпер — групы А. Барскага і С. Яновіча. Другая мне сімпатычней. Праўда, такія групы — беларуская бяда.

Пад канец работы семінара прыйшоў Даньчык з маці. Напярэдадні быў яго трыумфальны выступ у Гродне. Гутарылі пра гэта, пра яго творчасць. Выканаў дзве песні (у тым ліку «Зорачкі» па маёй просьбе). Уражанні цудоўныя.

Ант. Мірановіч ужо другі раз гаварыў мне пра неабходнасць кантактаў. Я то згодны. Але дзе тыя беларускія інтэлектуальныя сілы ў Гродне на сённяшні дзень? Мала іх усё ж. І не проста гэта — ездзіць. Але занатуем. Перад ад'ездам — харошая размова з М. Шаховічам. Імпануе ў ім разумная развażлівасць і непадробны патрыятызм.

**11.11.1989.** Учора прайшло пасяджэнне аргкамітэта па скліканні гродзенскай гарадской канферэнцыі (з'езда!) Таварыства беларускай мовы. Ужо другі раз. Той жа першы як бы перакрэслены, бо зараз гарвыканкам сваім рашэннем стварыў новы аргкамітэт (якое цынічнае ўмяшанне ў справы грамадскай арганізацыі), куды ўвёў палову апарату. Таму на пасяджэнні быў паядынак: найбольш — я і Ігар Жук, з аднаго боку. З другога — апаратныя работнікі. Былі супраць «паходнеўцаў» як дэлегатаў канферэнцыі. Але 50 чал. мы ўсё ж «выбілі». Паўсталі рашуча супраць запрашэння людзей з Беларускага грамадска-культурнага таварыства (Польшча). Будзем старацца паклікаць іх праз Фонд культуры. Як ні дзіўна, лёгка прайшла прапанова наконт 50 чал. з раёнаў (журналісты і настаўнікі), якіх паабяцаў камандзіраваць абкам. Асабліва загаласілі нашы ідэолагі супраць вывучэння імі беларускай мовы, як таго патрабавала рабочая праграма (праект), падрыхтаваная І. В. Жуком да канферэнцыі («не прымусіце мяне вучыць беларускую мову»). Даручылі весці канферэнцыю мне. Яны ж мовы беларускай не ведаюць. Во, як бы спатрэбілася, бо ад вядучага шмат залежыць.

Пішу для «Нівы» пра творчасць белавежцаў. Надта вялікі атрымліваецца матэрыял. Пішу ўрыўкамі, марудна. Увогуле я пішу марудна. Відаць, гэта дрэнна, слабая прафесійнасць. Бог яго знае. Вунь І. Жук піша хутка, талент.

Хочацца ў Свержан, пра гэта ўсё думаю. Надвор'е як для лістапада цёплае, + 8. Заўтра — на дачу.

**3.12.1989.** Пазаўчора прайшла ўстаноўчая канферэнцыя ТБМ імя Ф. Скарыны ў Гродне. Было 480 дэлегатаў. Не змог дабіцца, хоць шмат рабіў, каб прыехалі на канферэнцыю актывісты нацыянальнага адраджэння з раёнаў (запланавана было 50 чал.). Абкам не дапусціў. Я ў сваім выступленні на пачатку сказаў пра гэты дыктатарскі жэст, праглынулі. Усё прайшло, здаецца, добра. Працавалі з 10 да 17 гадзін. Пад канец было шумна, разгаварыліся. Запомніліся выступленні Ю. М. Астроўскага, К. Шыдлоўскага, шмат каго з моладзі. Прынялі рэзалюцыю салідарнасці з БНФ, пратэсту супраць дзяржаўнасці рускай мовы ў СССР. Выбралі мяне старшынёю Рады Гродзенскай гарадской арганізацыі ТБМ. Будзем працаваць, гэта справа нацыянальнай годнасці.

Быў у Мінску на пленуме Саюза пісьменнікаў. Н. Гілевіч чамусьці папрасіўся ў адстаўку. Задаволілі. Едучы назад, затрымаўся дзень у мамы. Моцна

яна паслабела. Гэта баліць. У Свержні рамантуюць царкву і касцёл, прычым самі вернікі. Баюся, што ўзровень будзе не той. Я патрабаваў, каб зрабілі рэстаўрацыю дзяржаўнымі сіламі. Але не прыслухаліся. Ну што ж, няхай будзе хоць так, і храмы загавораць, як у маім дзяцінстве і юнацтве. Зрухі з храмамі адбыліся не без майго штуршка — летам заходзіў у райвыканкам і папярэдзіў, што буду звяртацца ў Саўмін.

**16.12.1989.** 10–13-га быў на навуковай канферэнцыі ў Беластоку. Па сутнасці, гэта міжкафедральныя кантакты нашых «палякаў» і польскіх русістаў. Тэма — літаратура памежжа. Былі яшчэ Клімански, Стацкевіч і Бараненкава. Зноў адчуліся прэтэнзіі палякаў на «крэсы», нязгода з тым, што ліцвіны — гэта пераважна беларусы… Заходзіў у «Ніву» да В. Лубы. Сустракаўся з М. Шаховічам.

**21.12.1989.** Правялі першае пасяджэнне Рады ТБМ. Было шумна, засядзеліся. Але прынялі добрыя, канкрэтная рашэнні. Стварылі тры рабочыя камісіі. Моцна дапамагаюць І. Жук, В. Шаўцоў. Пасля Новага года трэба збірацца з кіраўніцтвам горада і пачынаць пераводзіць школы на беларускую мову.

Гэта самае галоўнае.

Цёпла, як вясною.

**8.05.1990.** Даўно не запісваў, і шмат чаго праляцела. Літва абʼявіла пра выхад з СССР. Правялі (у тэатры лялек) вечар А. Карпюка з нагоды яго 70-годдзя. Трохі смешнай і сумнай атрымалася падрыхтоўка. Толькі за тыдзень да юбілею абкам вырашыў, што трэба праводзіць (пасля артыкула В. Быкава ў «Литературной газете» пра А. Карпюка і мясцовыя ганенні на яго). Але самі на вечарыне не паявіліся — ні кіраўнікі вобласці (быў Калацэй, але неафіцыйна), ні горада. Тым больш імпрэза прайшла цёпла, пасняхова. Вёў я. Затым быў банкет у «Зубры».

Нядаўна быў на 80-годдзі Апанаса Цыхуна. Сабралася ў яго хаце мужчынская пераважна грамада. Размовы ўсе — пра палітыку, нібы юбіляра і няма. Падсвядомае адчуванне, што жывём мы неяк не так, як трэба. Мусіць, гэта час такі. Прайшоў чарговы перавыбарны зʼезд пісьменнікаў, і зноў там усё пра палітыку. Праўда, там крыху іншая сітуацыя. Валадары роднага слова не маглі не выказаць свой гнеў і боль за гэтае слова. Настрой на зʼездзе быў баявы. Моцна выступіў В. Быкаў, які назваў закон аб мовах у БССР «нацыянальным падманам».

Сустракаўся па лініі ТБМ у гарвыканкаме з кіраўніцтвам наконт беларускай школы. Зноў старыя песні пра волю бацькоў. Хаця закон патрабуе пераводу школы на беларускую мову за 10 гадоў. Значыць, трэба зараз пераводзіць 1-я класы. Але чыноўнікі на гэта не зважаюць. Быў нядаўна на калегіі аблана, там — тое ж. Рэзка выступіў за дзяржаўныя (адміністрацыйныя) спосабы стварэння беларускай школы ў горадзе. Ды людзі з абкама — і тут яны — «ещё не время» і г. д. А ціхі і рахманы А. С. Саўчык, вядома, з імі заадно. Вырашылі з В. Шаўцовым пісаць у абласную газету пра тое, што дзяржава ў сваёй палітыцы павінна кіравацца не меркаваннем нейкіх груп насельніцтва, а законам, які ёю ж прыняты.

Выклёўваецца ў нашым універсітэце кафедра беларускай культуры (на чале з прафесарам П. У. Сцяцко), дзеля стварэння якой я прыклаў многа сіл. Лічу, што чалавек з вышэйшай адукацыяй не можа не знаць нацыянальную (у першую чаргу) культурную спадчыну. І давядзецца мне пераходзіць на гэтую кафедру, хаця цяжка пакідаць выкладанне роднай літаратуры, якому аддадзены дзясяткі гадоў. Тым больш, што гэта былі гады глыбокага творчага задавальнення, нават радасці ад свае працы. Але хто ж будзе чытаць у нас гісторыю беларускай культуры?

**1.06.1990.** Апарат усяляк супраціўляецца стварэнню беларускай школы. Але мяняюцца і людзі апарату. Вось новым старшынёй гарвыканкама стаў С. М. Домаш. Я адразу ж пастараўся трапіць да яго на прыём і запрасіў на пасяджэнне Рады ТБМ. Выслухаўшы нашы прэтэнзіі, ён абяцаў склікаць гарадскую нараду. Сёння быў на гэтай нарадзе, з-за гэтага не паехаў на адкрыццё Дома-музея Ф. Багушэвіча ў Кушлянах. Выступаў. Удзельнікі нарады — дырэктары школ, чыноўнікі. Амаль усе выказаліся супраць беларускай школы па «аб'ектыўных» прычынах. Домаш у канцы нарады, праведзенай вельмі канструктыўна, сказаў сваё заключнае «за», сцісла і дакладна пры гэтым абазначыў уласныя аргументы. Дай Бог, каб яму штосьці удалося.

Цешыць незалежнасць Літвы і трывожыць блакада яе Савецкім Саюзам. А тут яшчэ абвясцілі незалежнасць Латвія і Эстонія. Якія шчаслівыя перспектывы ў гэтых народаў. Зрэшты, час пакажа, як жыць і нам. Пакуль трэба рабіць нацыянальную справу.

Як жа многа прыгожага — сонца, маё любімае лета, мой універсітэт, куды іду заўсёды з чаканнем нечага асаблівага, унук Багданка… Хочацца пісаць па сваёй навуковай тэме, але робіцца тут мала, зусім мала. Не хапае часу.

**26.06.1990.** «Выбілі» беларускія школы, дакладней, беларускія першыя класы ва ўсіх школах горада, акрамя 7, г. зн., у 23. Гэта на гарвыканкаме, што адбыўся нядаўна. Я выступаў 7 разоў, жах. Педагагічная наменклатура старалася ўсё сарваць. Выручыў аўтарытэт Домаша, яго прадуманая дзяржаўная пазіцыя. Вырашана апублікаваць у абласной газеце мерапрыемствы па праграме «Родная мова» ў горадзе, даць адозву для насельніцтва. Напісалі адозву Т. Маліноўская і я, чыйсьці варыянт пойдзе, калі ўвогуле пойдзе ў друк, бо газета — орган КПСС. Пакуль яна мае сілу і стараецца цяпер улезці ў Саветы, каб так утрымацца.

Я вось зноў згадзіўся балатавацца, на гэты раз у абласны Савет. Але на «Паходні», якая мяне і вылучае, учора мне столькі раскрылі пра махінацыі на выбарах, што я зусім сумеўся. Да таго ж мой сапернік (у 2-м туры) 1-ы сакратар абкама камсамола, і, значыць, яго будуць «піхаць».

**2.07.1990.** Праз тры дні едзем у Свержан (я, Марыйка, унук). Гэта радасная падзея.

Гарвыканкам нашу праграму схаваў у стол, нават не перадрукаваўшы начыста. Сёння гэта выявіў, зайшоўшы з В. П. Андрыеўскай да сакратара гарвыканкама Цітка, падняў шум. Той спаслаўся на занятасць машыністак

падчас сесіі гарсавета. Смешна. Паабяцаў тэрмінова надрукаваць і аддаць з адозваю ў абласную і шматтыражовыя газеты.

Учора ў выніку выбараў я стаў дэпутатам абласнога Савета. Нават здзівіўся, што мяне не «зарэзалі». Мусіць, надакучыла, бо выбары гэтак зацягнуцца бясконца. Атрымаў 57,6 % галасоў, мой сапернік — 33,4 %. Галасавала 53,6 % выбаршчыкаў — людзі стаміліся. Рэкламы асаблівай не меў. Была пра мяне інфармацыя ў газеце «Азота», у лістках, якія разнеслі хлопцы з «Паходні» і студэнты М. А. Мельнікава. Вядома, прыемна, што атрымалася. Запісаўся ў дэпутацкую камісію па нацыянальных пытаннях.

**18.09.1990.** Не атрымліваецца ў мяне рэгулярна пісаць. Справы праходзяць часам важныя. Так, чэрвеньская пастанова гарвыканкама пра стварэнне ў горадзе 23 беларускіх школ не выконваецца. У нас жа дзве ўлады (і КПСС), то ўсе аглядаюцца. Надрукаваў я артыкул у «Гродненской правде», каб штурхнуць справу, ды што толку? Выходзіць, што савецкая ўлада сама сябе сцябае. Ну, нічога, адступацца ад гэтай тэмы я не збіраюся, трэба змагацца за сваю школу.

З гэтага навучальнага года я — на кафедры беларускай культуры. Узначальвае Сцяцко П. У. Ведаючы яго патрыятычныя пазіцыі, стараўся перацягнуць яго ў Гродна. На сябе ж узяў цяжкі груз — новы курс — гісторыя беларускай культуры. Як быццам у мяне наперадзе шмат гадоў. Але ж хочацца яшчэ нешта карыснае зрабіць. Зараз стараюся, каб гэты курс чытаўся на ўсіх факультэтах універсітэта. Яшчэ пашчыруем на роднай ніве. Абы здароўе, як кажуць старыя. Чуюся няблага. Хаджу яшчэ хутка, лёгка. Галава светлая, здаецца. Яшчэ штось ёсць наперадзе. Дачакацца б нейкіх поспехаў беларускай справы.

Не паехаў на ўрачыстасці Ф. Скарыны, хаця клікалі з Мінска афіцыйна. Ці не ўзрост загаварыў, жаданне спакою? Не. Шмат працы. Напісаў вось літаратурны партрэт В. Карамазава для «ЛіМа». Рыхтую тэрмінова матэрыял пра гродзенскія друкі для нашага альманаха. Заказаны партрэт Д. Бічэль для лідскай «Памяці».

**8.10.1990.** Лекцыі ва ўніверсітэце, выступленні ў горадзе, мітынгі, спрэчкі з калегамі, дэпутацкія «выбухі» на сесіях. Гэта і ёсць жыццё? Мусіць, так. Дома — цяжка…

**28.10.1990.** Пазаўчора прыехаў з Мінска, быў на рэдакцыйным Савеце часопіса «Беларуская мова і літаратура ў школе». Выступаў. Крытыкаваў публікацыі, у якіх урокі будуюцца на ленінскім, «кастрычніцкім» матэрыяле. Здаецца, прынялі, ніхто не запярэчыў.

Сёння выступаў у Гродне на мітынгу-рэквіеме «Дзяды». Гаварыў пра вялікіх людзей Беларусі нашага стагоддзя, забітых савецкім рэжымам.

**30.10.1990.** Учора правялі ў горадзе вечар, прысвечаны 80-годдзю Ларысы Геніюш. Сабраліся ў зале НМЦ народнай творчасці, вельмі ўтульнай пасля рэстаўрацыі. Было каля 100 чал. Зрабілі мантаж яе вершаў, успамінаў пра яе, беларускіх песень. Атрымалася ўсё прыстойна і чалавечна. На пачатку слова

пра яе казала Д. Бічэль. Я ўспомніў нашы сустрэчы. Вершы вельмі хораша прагучалі ў выкананні мае былой студэнткі Валянціны Ярмусік.

**1.11.1990.** Учора быў на пасяджэнні дзвюх дэпутацкіх камісій гарсавета. Разглядалі пытанне «Выкананне закона аб мовах БССР у школе». Рабілася дзеля формы. Большасць не зацікаўлена ў стварэнні беларускай школы. Выступіў рэзка і нешта, здаецца, зачапіў у гэтай бюракратычнай атмасферы. Абвінаваціў гарана ў нежаданні выконваць рашэнні гарвыканкама.

**15.11.1990.** Будні — лекцыі, грамадскія справы, догляд Багданкі, дача. Нечага не хапае. Падумалася з сумам, што на ранейшай кватэры (на Даватара), дзе мы жылі ў 1969–1980 гг. і былі маладзейшыя, шмат пабывала ў нас харошых людзей. Добра пасядзелася за сталом. Колькі было спрэчак, жартаў, добрых думак і планаў! Пабывалі тады ў нас шматлікія былыя аднакласнікі і аднакурснікі, калегі па працы, таксама Л. Геніюш, В. Быкаў, Д. Бічэль, В. Іпатава, А. Іверс, У. Караткевіч, А. Мальдзіс, А. Слесарэнка, Ю. Голуб, А. Цыхун, М. Дукса, М. Ермаловіч, А. Рагуля, З. Верас, М. Арочка, П. Граніт, Г. Каханоўскі, М. Прашковіч, У. Урбановіч, М. Ларчанка, Я. Усікаў, В. Чамярыцкі, І. Цішчанка, М. Грынчык, Р. Хромчанка, С. Яновіч…

Усіх цяжка згадаць.

**1.01.1991.** Светлы настрой традыцыйнага свята. Ёлка, унукі, падарункі, святочны стол. А дзе справы галоўныя? Іх зусім мала. КПСС душыць усіх, маючы ўладу. У мяне многія пытаюцца, што ж рабіць. Думаю, што патрэбна актыўная палітычная барацьба. У бліжэйшым часе — вельмі многа грамадскіх клопатаў. Ці хопіць сіл? Занадта многа я ўзяў на сябе. Па-першае, трэба змяняць Раду ТБМ. Некаторыя ўжо адкінуліся. Але асноўнае ядро моцнае. Пажывём яшчэ.

**19.01.1991.** Наступае камуністычная рэакцыя — падзеі ў Літве (ваенны путч). Сёння ў Гродне быў маўклівы, недазволены мітынг з выпадку расстрэлу людзей у Вільнюсе. Збіраўся выступіць, але выявілася, што нельга пра гэта гаварыць. Нядаўна быў мой артыкул у «Гродненской правде» пра нацыянальную школу. Парэзалі. Сёння стаім на плошчы са свечкамі і маўчым. Затым пайшлі з К. Лецкам і М. Мельнікавым да апошняга, там за сталом пагаварылі. Дамовіліся, што напішу для ўніверсітэцкай шматтыражкі заяву — пратэст у падтрымку Літвы, каб падпісаліся лепшыя людзі ўніверсітэта.

Трошкі падобна на зіму, градусаў 2–3 марозу ноччу, ледзь-ледзь — снегу. Як гаворыцца, можна жыць. Увогуле ж сумна. Прыгадваецца, як сказала пра мяне студэнтка ва ўніверсітэцкай газеце — «а вочы ў яго сумныя-сумныя».

**31.01.1991.** Позна вярнуўся — святкавалі 130-годдзе Я. Карскага. Яшчэ раней былі чытанні ва ўніверсітэце. А сёння — імпрэза ў раённым арэале. З раніцы — урачыстая навуковая частка — я рабіў даклад. Па абедзе паехалі ў Лашу. Тут быў афіцыйны даклад, прамовы, выступленні. Затым — вячэра. Усё прайшло на вышыні, Я. Карскі заслугоўвае самай саліднай памяці і належнага ўшанавання. Можа, гэта некалі здзейсніцца. Пакуль жа добра і тое, што ёсць. Былі з Польшчы А. Баршчэўскі, Я. Чыквін, В. Галёнка. З Ленінграда — унучка Карскага Таццяна Сяргееўна, праўнук Аляксандр.

**С. Ч.:** *Цяпер сталі папулярнымі страшылкі. Рускія нават пішуць пра іх навуковыя даследаванні.*

**Я. С.:** Я да іх адношуся неяк кансерватыўна. Лічу, што яны нічому добраму дзяцей не навучаць. Але дзеці любяць страшылкі. Асабліва сучасныя. Калі я чытаў лекцыі па беларускім фальклоры (1988–1997), прасіў студэнтаў даваць мне праклёны і страшылкі. І быў здзіўлены, калі адна студэнтка-мінчанка, якая працавала ў дзіцячым садку, дала мне тэксты на беларускай мове. Ну, ці не цікавая сваёй незвычайнасцю такая страшылка (а можа, проста гумарэска):

Дзедка старэнькі
Пайшоў у лясок,
Дзедка старэнькі
Прысеў на пянёк.
Выбух!
Доўга над лесам
Ляталі штаны —
Гэта праклятае
Рэха вайны.

Каб спыніць тых малых, якія разышліся не на жарты, у нас казалі:

Мышка здохла,
Хвост аблез.
Хто прамовіць,
Той і з’есць.

Ніхто не хацеў есці здохлую мыш, таму адразу замаўкалі. Або вось як абыгрывалася імя Ліда. Колькі тут гумару. Праўда, хто меў такое імя, крыўдзіліся:

Ліда-гніда,
Вош пузата,
Вышла замуж
За салдата.
А пасля і за матроса,
Што падмазываў калёса.

Мяне заўсёды расчульвалі песенькі ў казках. Яны нейкія вельмі сентыментальныя, быццам разлічаны, каб малое пашкадавала персанажаў, што трапілі ў бяду. Вось як жаласна пеўнік, якога ліса схапіла, абдурыўшы, просіць катка:

Коце, браце,
Мяне ліска нясе
У высокія горы,
У глыбокія норы.
Па барах, па каменні,
Па ўсялякім зеллі.

Ратуй, братка, мяне,
Адбяры мяне ў яе.

У казцы каза просіцца ў сваіх казлянят, каб адчынілі:

Дзетачкі, казлятачкі,
Я ваша мама.
Чуць дадому прышла,
Малачка прынясла.
Поўны цыцы малачыцы.

Слухаючы казку, перачытваючы за персанажаў, малая ўнучка з вочкамі, поўнымі слёз, прыцìскаецца да цябе, ёй страшна, яна іх шкадуе, гатовая вось-вось заплакаць.

Цепяху, лепяху,
Сем вёрст па маху.
Плыве па балоце змей.

Малая перажывае, што гэтая пачвара можа паесці галоўных герояў, якія робяць дабро людзям. Думаю, што тут болей спагаднасці, дабрыні, светлых пачуццяў, чым у рускіх страшылках:

Маленький мальчик
Нашёл пулемёт,
Больше в деревне
Никто не живёт.

* * *

Мальчик на кухне
Варил холодец,
Рядом валялся
Безногий отец.

Ну, скажы праўду, чаму могуць навучыць такія «творы»? Думаю, што нічаму добраму і гуманнаму. Не так сабе на радзінах беларусы жадаюць немаўляці тры долі ўзяці: хлебавую, салявую, здаровейкую. Толькі калі змалку ў душу дзіцяці будзе закладзена тое, што вучыць яго добраму, светламу, спагаднаму, у будучым народзіць Чалавека, народзіць тую асобу, якая будзе думаць не толькі пра сябе, а і пра іншых. Усяму гэтаму выдатна вучыць наш дзіцячы фальклор. Таму і кажу, што лепшыя ўзоры трэба збіраць, друкаваць, каб выхаванне маладога пакалення ішло на высокім педагагічным узроўні, каб яно расло здаровае, вясёлае, радаснае, каб любіла бацькоў сваіх, суседзяў, усіх добрых людзей, каб думала, як не перашкаджаць жыць іншым, як дапамагаць слабейшым, як шкадаваць усё жывое на зямлі.

## Пра кнігі і календары

**С. Ч.:** *Спадар Янка, ведаю, што вы ўсё жыццё з'яўляецеся заядлым бібліяфілам. Калі гэта не сакрэт, якія каштоўныя і арыгінальныя кнігі вы маеце ў сваёй прыватнай хатняй бібліятэцы?*

**Я. С.:** Ці варта хваліцца? Але табе па сакрэту раскажу, што ў мяне цікавейшага ёсць. Па-першае, гэта зборнік Гальяша Леўчыка «Чыжык беларускі» (1912), тры тамы «Матэрыялаў…» П. Шэйна (1887–1893), том «Смаленскага этнаграфічнага зборніка» У. Дабравольскага (1891), зборнік А. Сержпутоўскага «Сказки и рассказы белорусов-полешуков» (1911), 8 тамоў «Люду беларускага» М. Федароўскага (1897–1981), камплекты часопісаў «Kwartalnik Litewski», «Калосьсе», газет «Наша ніва» (1906–1915), «Гоман» (1916–1918), «Беларускі голас» (Таронта), часопіса «Полымя» за 1945–1955 гады. «Полымя» мой аднавясковец Аляксандр Іванавіч Жыткевіч хацеў выкінуць у касцёр, а я забраў. Маю таксама кнігі «Zoologica» Юндзіла (1807, 1827), «Piosnki wiesniacze znad Niemna i Dzwiny» Яна Чачота (1846), «Opisanie powiatu Borysowskiego» Я. Тышкевіча (1847), «Sztuka u slowian» Ю. Крашэўскага, «Dzieje Litwy» К. Скірмунта (1886), «Apawiadannia i lehendy wiersam» (1914), «Dudka bielaruskaje» М. Бурачка (1914), «Памятная книжка Виленского генерал-губернаторства на 1868 год» (1868), «Программы для собирания особенностей народных говоров» Я. Карскага (1897), «Щорсовская библиотека графа Литавора Хрептовича» С. Пташыцкага (1899), «Беларусы», т. 1 Я. Карскага (1904), «Беларускія народныя песні» С. Малевіча (1907), якія падараваў мне некалі Мікола Лобан, «А хто там ідзе?» Янкі Купалы з нотамі (1909), «Обзор новейшей русской истории» М. Доўнар-Запольскага (1912), «Материалы по этнографии Гродненской губернии» Е. Раманава (т. 1–2, 1911–1912), «Вянок» Максіма Багдановіча (1913, 1927), «Движение белорусов к национальному возрождению» А. Навіны (1914), «Асновы дзяржаўнасці Беларусі» М. Доўнар-Запольскага (1919), «Дзіцячыя гульні» Л. Чарняўскай (1919), «Расейска-беларускі слоўнік» М. і Г. Гарэцкіх (1920), «Беларусь» Л. Родзевіча (1922), «Хрэстаматыя беларускай літаратуры» М. Гарэцкага (1923), «Малочная карова» Я. Пачопкі (1923), «Навука спеву» А. Грыневіча (1923), «Апавяданні» Адама Бабарэкі (1925), «Якуб Колас у літаратурнай крытыцы» (1926), «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» В. Ластоўскага (1926), «Снапок» А. Паўловіча (1927), «Па рэвізіі» М. Крапіўніцкага, «Модны шляхцюк» К. Каганца (1928), «Рунь веснаходу» (1928), «Беларускі спеўнік з нотамі» (1929), «З роднага загону» А. Зязюлі (1931), «Лясныя хаткі» В. Біянкі (1931, пераклад Зоські Верас), «Наша песня» Р. Шырмы (1938) і іншыя.

**С. Ч.:** *О, ваш кнігазбор можна параўнаць хіба што з кнігазборамі Масальскіх у Белічанах, Оштарпаў у Дукорах, Слізняў у Новых Дзявяткавічах, Пуслоўскіх у Песках і ў Альбярціне, Храптовічаў у Шчорсах. Але акрамя кніг вы ўсё жыццё калекцыяніруеце беларускія календары. Якія цікавыя календары маеце ў сваёй калекцыі? І ці не пара напісаць і выдаць добрую кніжку пра беларускія календары?*

**Я. С.:** Я маю вельмі шмат матэрыялаў па календарах. Можна напісаць вартую кніжку. Але ўсюды, як казалі ў нас дома, не ўскураеш. Калі Бог і лёс мне жыцця адпусціць, я такую кніжку напішу. Артыкулы мае пра календары ўжо былі змешчаны ў некаторых энцыклапедыях Беларусі з ілюстрацыямі, наколькі іх можна было ілюстраваць. Маю здымкі такіх календароў, як «Kalendarz polski, y ruski» (Супрасль, 1714), «Гаспадарчы каляндар» (Гродна, 1780), «Kalendarz białoruski na rok panski» (Магілёў, 1793), «Kalendarz polityczny Połocki na rok panski 1802», «Календарь Северо-Западного края на 1890 год» пад рэдакцыяй М. Доўнар-Запольскага (Масква), «Северо-Западный календарь на 1893 год» пад рэдакцыяй А. Слупскага (Менск).

У сваёй хатняй бібліятэцы маю календары-кніжкі «Нашай нівы» на 1910, 1911, 1913 гады. Ёсць насценны каляндар «Нашай нівы» на 1913 год, каляндар «Заранка» (Мінск, 1919), «Biełaruski kalendar Swajak na 1919 hod», «Biełaruski kalendar Krynica na 1920 hod». Маю заходнебеларускія календары на 1924, 1929, 1932 гады, каляндар Сахарава (Рыга) на 1937 год. Ёсць усе беластоцкія беларускія календары ад 1957 года. Маю беларускі праваслаўны каляндар на 1968 год, мінскія календары на 1974, 1976 гады, каляндар «Янка Купала і Якуб Колас», выдадзены да іх 100-годдзя з дня нараджэння ў 1982 годзе, шыкоўны каляндар «Шляхам Францыска Скарыны» (1990), увесь адрыўны каляндар «Родны край» з 1990 года, беларускі каляндар на 1991–1993 гады (выданні нашай энцыклапедыі, пасля 1993 года захлынуўся). Маю ксеракопію вельмі цікавага артыкула А. Мілавідава «Русский календарь в Северо-Западном крае, его историческое значение» (Вільня, 1908). З адрыўных беларускіх календароў ёсць толькі адзін на 1939 год, які ты мне, Сяргей, падараваў.

## Алег Лойка і сябры

**С. Ч.:** *Шмат кніг і календароў у вашу калекцыю трапілі ад знаёмых, сяброў, калег па працы. З кім вы сябруеце і сябравалі ўсё жыццё? Ці ёсць у вас сябры, пра якіх можна сказаць, што вас вадою не разальеш, ці вас вада не размые, ці вашы прыязні сам чорт не разарве?*

**Я. С.:** Самым дарагім, самым лепшым маім сябрам, з якім ішлі поплеч болей за 50 гадоў, быў прафесар, доктар філалагічных навук, выдатны беларускі паэт і празаік, перакладчык, крытык, літаратуразнавец, Чалавек з вялікай літары, слонімец ад нараджэння, улюбёны ў свой горад, — Алег Антонавіч Лойка. Усе думалі, што мы сваякі. Але ж гэта не так. Мой дзед Лявонь (памясцоваму Левась) быў чыгуначнікам. Лёс занёс яго ажно ў Іркуцк. Калі пачалася ў 1914 годзе Першая сусветная вайна, баба Зося (1880–1929), забраўшы дзяцей на воз, падалася таксама туды. Неяк даехалі. Быў там дзед па бабе (значыць, мой прадзед, які там, у Іркуцку, і памёр), мой бацька (1909–1987), яго сёстры Надзя (1908–1987) і Вольга (1902–1982). Там у 1916 годзе нарадзіўся мой дзядзька Сяргей (працаваў на чыгунцы ў Баранавічах, але калі яму паведамілі, што ім цікавіцца НКУС, уцёк у Польшчу). Дзядзька добра ведаў

польскую мову, жыў у Кашалінскім ваяводстве. Я некалькі разоў гасціў у яго. Цяпер ён ужо памёр.

Прадзед бачыў у Іркуцку, што там, калі хаваюць нябожчыкаў, у магіле паяўляецца вада. Паказваў, што хоча памерці ў сухой зямлі, у Беларусі. Добра памятаю, як жыхар нашай Малой Кракоткі Ігнат Данілавіч Мічуда расказваў, што калі быў яшчэ падлеткам, бачыў, як наш нямко страшэнна плакаў над жарабіцаю, якую забіў на пашы гром. Мусіць, любіў гэту кабылу па-свойму, бо не толькі плакаў, а абдымаў яе. Відаць, ведаў, што такое конь у гаспадарцы селяніна.

У 1921 годзе дзед Лявонь дастаў ад уладаў цэлы вагон і вяртаўся з сям'ёй дахаты ў Беларусь, якая была ўжо пад Польшчаю. На вакзале ў Іркуцку заўважылі, што па пероне ходзіць малады чалавек з чамаданчыкам і водзіць за ручку дзяўчынку (аказалася, што гэта быў бацька Алега, Антон Цімафеевіч Лойка з-пад Дзярэчына, які прасіўся ў Беларусь, а дзяўчынкай была яго родная сястра Марыся, Алегава цётка). У кнізе «Дрэва жыцця» Алег Лойка пра гэта напісаў падрабязней. Мой дзед Лявонь узяў Антона Цімафеевіча ў свой вагон.

**С. Ч.:** *Расказваў і мне пра гэты выпадак Алег Лойка. Ягонаму бацьку тады было 20 гадоў, а сястры — 13. Эшалон ішоў за эшалонам, але ніхто не браў гэтых сірат, што прасіліся ў Беларусь на Зэльвеншчыну. Ды, на шчасце, знайшоўся з Гродзеншчыны чалавек, які на свае харчы, у свой вагон-цялятнік узяў двух сірат з Крывіч. «Быў гэта бацька цёткі Надзі — Лявон Саламевіч, з Кракоткі. Шлях быў далёкі з Іркуцка да Зэльвы. Пасястрыніліся, пабраталіся — мой бацька Антон з сынам Лявона Валодзем, аднагодкі-дзяўчаткі Надзя і Маруся», — часта згадваў мне пры сустрэчы Алег Антонавіч.*

**Я. С.:** Алег Лойка мне больш за іншых дапамагаў. Спрабаваў вучыць пісаць рэцэнзіі, хоць іх не друкавалі. Дапамагаў разбірацца ў літаратуры. Як аспірантам, мною афіцыйна кіраваў загадчык кафедры беларускай літаратуры філфака БДУ Міхась Рыгоравіч Ларчанка. Але трэба ўжо нарэшце прызнацца, што ён нават не прачытаў маёй работы. Алег жа чытаў, правіў, крэсліў, падказваў, што і як лепш рабіць, як пісаць навуковую працу. Калі на абароне ў траўні 1971 года я сказаў у заключным слове, што ў мяне было два кіраўнікі — Міхась Ларчанка і Алег Лойка, Ларчанка нават пакрыўдзіўся, бо круціў носам. На банкет, праўда, прыйшоў.

Алег Лойка цяпер вярнуўся і жыў у родным Слоніме. Калі ён застаўся без правай нагі — я страшэнна за яго перажываў. А перажываў таму, што ён мне быў як брат, як мудры настаўнік, лепшы друг. Яго бацька Антон Цімафеевіч быў вельмі задаволены, што мы з Алегам сябруем. Алегава маці Марыя Іванаўна была маёй матулькаю хроснаю, трымала мяне малога ў Альбярціне да Хрыста. Бацькі былі бедныя, поп і ксёндз бралі за хрышчэнне болей, дык яны, толькі каб дзіця было ахрышчана, аддалі мяне-малечу ў рукі ўніяту. У мяне ёсць метрыка майго хрышчэння ў Альбярціне, падпісаная кім ты думаў… самім Антонам Неманцэвічам.

**С. Ч.:** *Няўжо? Вось гэта навіна. Антон Неманцэвіч — выдатны беларускі ўніяцкі царкоўны дзеяч. У свой час скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю і Петраградскую каталіцкую духоўную акадэмію. З 1929 года быў сябрам ордэна езуітаў, прыняў усходні грэка-каталіцкі абрад і прыехаў у Слонім у Альбярцін, дзе быў настаяцелем грэка-каталіцкай царквы, а з 1933 года — у Сынковічах. Выдаваў і рэдагаваў часопіс «Да злучэньня». Многія слонімцы да сённяшніх дзён яго памятаюць. Але вернемся да Алега Антонавіча Лойкі.*

**Я. С.:** Колькі мы, калі я жыў блізка ад Алега, на вуліцы Янкі Маўра ў Мінску, перагаварылі, гуляючы кожны вечар па дарожцы ў дварах! А колькі гарэлкі выпілі! Я даў нават назву аднаму з яго зборнікаў вершаў «Дзівасіл». У мяне ўсе яго кнігі з аўтографамі. А гэта ні мала ні многа — 101! Калі я выдаў манаграфію пра Міхала Федароўскага, падпісаў яе цётцы Надзі, старэйшай бацькавай сястры, у чыёй хаце на Цагельнай вуліцы ў Слоніме яе напісаў, падпісаў матульцы, якая сказала, што гэта, пасля Алегавых кніг, для яе самы дарагі падарунак, Алегу і Лілі, натуральна, былі падпісаны самыя першыя экзэмпляры. Так што Алег Лойка — мой самы дарагі, самы сардэчны, самы разумны, шчыры, самы вялікі сябар застаўся на ўсё жыццё. Яго я любіў больш за ўсіх на свеце! Ён быў маім настаўнікам, маім аднадумцам, кумірам, маім вечным захапленнем! На вялікі жаль — быў…

**С. Ч.:** *Ведаю, што вы шчыра сябруеце і з Віктарам Чабаненкам — прафесарам з Запарожжа…*

**Я. С.:** Гэта сапраўды так. Я перапісваюся з ім фактычна ўсё свядомае жыццё — з 1968 года, калі ён быў у нас у Мінску на адной навуковай канферэнцыі, дзе мы пазнаёміліся. Я лётаў да яго ў Запарожжа ў 1980 годзе. Ён паказаў мне ДнепраГЭС, Хорціцу, востраў, дзе жыло казацкае войска, звадзіў ва ўкраінскі тэатр. А жонка яго частавала мяне сапраўдным украінскім баршчом (з гесем і каб лыжка стаяла ў місе). Меў гутаркі з яго бацькам, які ў 1933 годзе перажыў голад на Украіне, бо вакол стаялі кардоны войскаў НКУС і выйсці куды-небудзь было немагчыма. Здыхайце дома! Расказваў жахі, як у сваім сяле (цяпер яно затоплена Запарожскім морам) іх 5 маладых хлопцаў хавалі мёртвых. Гутарыў і з маці Віктара. Аднойчы мой сябра пажартаваў: «Янка, давай сфатаграфуемся каля мае кніжнае паліцы. Мо я, чым чорт не жартуе, стану прафесарам». — «Абавязкова станеш», — сказаў я сябру. І ён ім стаў. Быў дэканам філфака Запарожскага ўніверсітэта болей за 10 гадоў. У бібліяграфіі да 60-годдзя В. А. Чабаненкі болей за 600 публікацый, а цяпер каля 1000. Закруціць яму ў галаве, лекцыю па параўнальным мовазнаўстве чытае па-беларуску. На перапынку студэнты пытаюцца: «Віктар Антонавіч, адкуль вы ведаеце беларускую мову?». — «То я ж білорус», — жартуе прафесар, украінец з дзядоў-прадзедаў. Калі ў Запарожжы стваралі беларускую суполку, адзіны, хто на сходзе выступіў на чыстай беларускай літаратурнай мове, быў прафесар Віктар Чабаненка. У яго на паліцах стаяць творы Купалы і Коласа, Брыля і Быкава, Пташнікава і Адамчыка, Сачанкі і Лойкі, Максіма Багдановіча (як ён яго выдатна пераклаў па-ўкраінску) і Барадуліна, Цёткі і Гілевіча, Макаля

і Сіпакова і іншых беларускіх літаратараў. Так што нашае сяброўства (ад яго ў мяне некалькі паліц украінскай літаратуры) не гасне ўжо каля 40 гадоў.

Яшчэ адзін мой сардэчны сябар жыве ў Чэрвені. Гэта Яўген Антонавіч Несцяровіч, мой аднакурснік, былы выдатны, нават скажу ад Бога, настаўнік (пакінуў выкладаць з-за інфаркту), які мяне некалі жаніў, а пасля я быў на і на яго вяселлі. У сям'і гэтага сябра заўсёды адпачываю душою, такія добрыя ён і яго жонка Шура людзі! Калі быў нядаўна ў іх у гасцях у Чэрвені, на дачы за багатым сталом жанчыны павялі гаворку пра тое, чаму мы такія дружныя, сардэчныя, добрыя, таварыскія, нават добрасардэчныя. Я ім патлумачыў: «Усё гэта ад таго, што мы з вамі з вялікіх сялянскіх сем'яў, ведаем, што такое голад, што такое не мець абутку, касцюма ў маладосці, калі хочацца апрануцца як найлепш, а няма ў што, калі хочацца перад дзяўчатамі выглядаць у новых чаравіках, а на нагах лапці ці чуні». Я на ўсё жыццё запомніў сялянскую без гучных слоў педагогіку і буду помніць яе да скону: маці падала на стол вялізную патэльню са скваркамі (сама мо была і галоднаю), усе кінуліся, каб схапіць найбольшую, бацька падняў лыжку, усе ад патэльні адхіснуліся, ён не сабе ўзяў самую большую сквäрку, а сунуў самаму меншаму нашаму брату Віцю і сказаў: «Бяры, засранец, бо з'ядуць і скажуць, што так і было!».

Шчыра сябрую з Генам Шупенькам, выдатным нашым крытыкам, некалі класным музыкантам, якому за ігру на Нямізе мы ў 1956 годзе купілі курсам баян (хлопцы скінуліся па 25 рублёў, дзяўчаты — па 15 рублёў). Гена перанёс 8 аперацый. Цяпер страціў многае з памяці (амнезія). Але мы не забыліся, як напаўгалодныя, але вясёлыя, з 1955 года жылі на Нямізе, 21, пакой 6 у Мінску (у гэтым пакоі, як высветлілася, некалі жыў Алег Лойка). Гэта быў шчаслівы час!

**С. Ч.:** *І, вядома ж, шчыра сябравалі з Генадзем Каханоўскім?*

**Я. С.:** Гэта быў добры і надзейны сябра, якога ўжо, на жаль, няма з намі. Ён быў і доктарам гістарычных навук, і краязнаўцам (ведаў Беларусь як свае пяць пальцаў), і музеязнавец (працаваў у краязнаўчым музеі ў Маладзечне адзін час), вечны вандроўнік па родным краі, па далёкіх краях таксама. Хто яго знаў, чалавека з ціхім голасам (як толькі ён вёў вяселлі?), але чалавека велізарнай сілы духу, у якога мы, здаецца, мацнейшыя за яго фізічна, вучыліся гэтай любові да свайго роднага, не можа шчыра не пашкадаваць, што яго ўжо няма, а ён цяпер нам так патрэбен. Ён натхняў нас жыць менавіта для свайго народа. Не ленавацца, не ныць, не кіснуць, а працаваць, бо застаецца толькі зробленае. Адным словам, сваім прыкладам Генадзь Каханоўскі пацвярджаў выдатныя словы Петруся Броўкі: «Мая душа, яна не спіць, чырвоным полымем палае, зялёным полымем гарыць». Ці калі Жаліа-Кюры спыталі, для чаго яму такія альтруістычныя грамадскія нагрузкі, якія ён мае, ён адказаў выдатным пытаннем: «І калі я гарэць не буду, і калі ты гарэць не будзеш, дык хто ж тады разгоніць цемру?». Словы, якія мне падабаюцца, якія нам, цяперашнім беларусам, не варта забываць.

**С. Ч.:** *Спадар Янка, відаць, добрымі сябрамі да сённяшніх дзён застаюцца і вашы аднакласнікі?*

**Я. С.:** Не будзе граху, калі ўспомню сваіх аднакласнікаў. У 1955 годзе мы скончылі Вялікакракоцкую сярэднюю школу (ужо, на жаль, зачыненую). З маёй Малой Кракоткі сябрам з дзяцінства застаецца Васіль Леўчык. Разам некалі пасвілі коней на раніцу, на начлезе. Спалі пад адною буркаю. Разам хадзілі ў грыбы, касілі, аралі. Спрабавалі нават «сачыняць» нешта накшталт «сноў» (адзін пачынаў, а другі працягваў) — апавяданні ці аповесці «без канца». Ён адзіны ў нашым класе быў сярэбраным медалістам. Я з ім доўга сядзеў за адной партай. Скончыў Васіль Мінскі політэхнічны інстытут. Быў начальнікам РЭС у Слоніме. Цяпер пенсіянер. Калі я захварэў, ён шмат разоў званіў са Слоніма, выказваў спачуванне. А калі памерла мая жонка, многа раіў патрэбнага, нават прыязджаў да мяне ў Мінск. Добра пагутарылі, паўспаміналі нашу вёску, наша не заўсёды радаснае маленства, школу, настаўнікаў. Такое многа значыць у нашым жыцці, ці не праўда?

Сябрам застаецца аднакласнік Міша Рудак з Рудаўкі. Доктар-акуліст першага класа. Зрабіў 10 тысяч аперацый.

Аднакласнік Тадзік Крушневіч з вёскі Сялявічы стаў кандыдатам фізіка-матэматычных навук. Мог бы быць доктарам. Але жыццё так склалася, што стаў (нездарма ў класе мы называлі яго прафесарам) спецыялістам па перагонцы нафты. Пабудаваў у ЗША завод. Жыве і яшчэ працуе ў Кіеве. Кожны раз, калі едзе ў свае Сялявічы або да сястры ў Слонім, бывае ў мяне ў Мінску, не мінае, на шчасце. Як забудзеш пра такіх хлопцаў (Слонімская кніга «Памяць» Крушневіча ўспомніла па маёй падказцы, а Леўчык і Кулак нават не згадваюцца. Крыўдна!). Што тут скажаш? Як казаў некалі мой бацька: «Е пра што гаварыць, німа чаго слухаць!»

У сэрцы, у душы жыве пачуццё шчырай удзячнасці сябрам, якія цябе не цураюцца, памятаюць, наведваюць. Так і павінны жыць людзі, калі яны людзі, а не чурбаны.

У адным з вершаў Алег Лойка напісаў: «Якое шчасце мець сяброў!». Гэта чыстая праўда, незапярэчная ісціна. Чалавек, калі ён пустышка, не ардынарнае смецце, не чэрствы вырадак, не манкурт, як трупа Мінскага тэатра юнага гледача, якая нядаўна без прымусу перайшла на рускую мову (французы абараняюць сваю мову ад англійскай экспансіі на дзяржаўным узроўні, законам), павінен мець шчырых аднадумцаў, сяброў, на якіх можа разлічваць у любы час дня і ночы, якія падтрымліваюць яго, калі не матэрыяльна, то добрым шчырым словам у кожную цяжкую хвіліну. Сябры павінны быць! А як жа інакш?! Хай ім заўсёды будзе добра, светла і цёпла, радасна і шчасна на гэтым свеце!

*2011*



# Хроніка

## Янка Купала, які знікае…

У Гродне адбылася купалаўская выстава. Яе назва: «Кветкі ўсіх народаў у вянок Купалы. 130 год з дня народзінаў Янкі Купалы». У мастацкай галерэі «Крыга» былі выстаўлены карціны мясцовых аўтараў і творы з фондаў Саюза мастакоў з Мінска.

Сяргей Грыневіч намаляваў чатыры партрэты Янкі Купалы, на апошнім выява нібы раствараецца. Аўтар патлумачыў: «Я для сябе выяўляю Купалу, каторы сапраўды раствараецца ў цемры ці, можа, знікае, знікае памяць пра яго. І колер я выбраў такі, каб падкрэсліць трагічнасць гэтай постаці і нашай гісторыі. Таму што яна вельмі супярэчлівая была ў апошнія гады. Шмат спрэчак, асабліва сярод літаратараў, наконт яго. Я думаю, нялішне, калі і мастакі скажуць сваё слова».

Гродзенскі мастак удакладніў, што прытрымліваецца менавіта версіі аб суіцыдзе Янкі Купалы: «Я думаю, што першую спробу, якая была, — гэта напэўна ён сам зрабіў. А калі чалавек схільны, то другая спроба заўсёды становіцца выніковай. Мне здаецца, ён быў у такой дэпрэсіі, таму што быў пазбаўлены роднай зямлі, бо ішла вайна. Таму мая версія такая. Я не ведаю, я не літаратуразнаўца, але гэта асобная гісторыя, аб ёй можна спрачацца, але я лічу, што ён сам скончыў самагубствам. Тым больш там была балюстрада амаль паўтара метра… Можа, і дапамаглі, але, прынамсі, ён невыпадкова туды кінуўся, гэта не было выпадковасцю».

На адкрыцці купалаўскай выставы выступалі прадстаўнікі абласных аддзяленняў абодвух саюзаў пісьменнікаў. Дарэчы, усе чатыры партрэты Купалы аўтарства Грыневіча былі куплены замежным аматарам мастацтва.

## «Паляванне на зубра»

«Паляванне на зубра» — новы спектакль Гродзенскага тэатра лялек. Паводле вядомай паэмы Міколы Гусоўскага яго стварыў галоўны рэжысёр Алег Жугжда, назваўшы пастаноўку «гістарычна-экалагічным экскурсам».

У спектакль перанесена гісторыя стварэння паэмы Міколам Гусоўскім, які з'яўляецца ў выглядзе лялькі. Ён распавядае гледачам пра падзеі часоў Вітаўта, да вобраза якога вяртаецца раз-пораз, а таксама спрабуе зазірнуць у будучыню, якая для беларусаў не абяцае салодкіх пернікаў. Стваральнікі якраз прапануюць гледачам «успомніць мінулае нашага краю, а таксама паразважаць пра яго будучыню».



■ *Выступае прафесар Аляксей Пяткевіч.*

■ *Мастак Сяргей Грыневіч.*

Важным персанажам ёсць каралева Бона Сфорца. Яна прысутнічае ў спектаклі ў выглядзе трох партрэтаў па чарзе. У яе рухаюцца вочы і рукі, аднойчы яна нават перакладае з рукі ў руку кніжку, падараваную Гусоўскім. Спачатку гэта мудрая, поўная жыццёвай сілы правіцельніца. Апошні партрэт: каралева ператварылася ў старую вар'ятку, рукі актрысы, што знаходзяцца ззаду, вырываюць з кнігі аркушы і суюць у рот Навуцы і Мастацтву, каб тыя жавалі.

Каралева тлумачыць, што ёй было загадана, калі атрымала ў рукі кнігу: «Вазьмі і з'еш яе, і яна будзе горкая ў чэраве тваім, але ў вуснах будзе салодкай, як мёд. Я ўзяла кніжку і ела яе, яна была салодкая ў вуснах маіх. Але калі з'ела яе, горка зрабілася ў чэраве маім. Ён сказаў: табе трэба зноў прарочыць пра плямёны і народы, і роды, і цароў многіх…» З гэтымі словамі каралева памірае, партрэт выносяць «нагамі наперад».

Пачынаецца спектакль вельмі змрочна: сучасны час, постаці ў чорных балахонах, з капюшонамі на галовах, закідаюць чорныя мяхі са смеццем у вялізную сетчатую скрыню пасярод сцэны, у якой стаіць абцятае, нежывое дрэва. Вырашыўшы са смеццем, яны кідаюцца да шашы галасаваць. Аднак машыны не спыняюцца, ніхто іх не бярэ.




■ *Афіша спектакля.*

Гэтыя мяхі са смеццем потым ляжаць уздоўж сцэны, падзяляючы ўдзельнікаў дзеі і гледачоў. Побач з мяхамі паўтара дзясятка фігурак зубра, якія ў нейкі момант будуць пахаваны.

Стваральнікі выкарысталі нямала прыёмаў, якія робяць спектакль, з аднаго боку, крыху эклектычным, з другога — разнастайным. Вялікая галава зубра, якую трымае ў руках акцёр, мае вочы, якія заплюшчваюцца, цалкам перадае вобраз жывой жывёліны. Партрэт Маці Божай Вастрабрамскай, які паміж рагоў зубра, раптам траціць твар, ён знікае. Нечаканы напамін пра будучую вайну: у драцяной скрыні кабарэтная спявачка выконвае «Лілі-Марлен». Вельмі добра зроблены нумар, які выглядае цалкам самадастатковым.

У другой палове спектакля калейдаскоп падзей, вобразаў. Зуброў нашчэнт забіваюць цар (сведчыць архіўны здымак) ды іншыя. Ад дрэва беларускага застаецца толькі пень. Але гледачоў не пакідаюць без надзеі: палеткамі рушаць наўскапыт (кінакадры) статкі зуброў, у небе кружляюць буслы, гучыць фанаграма «Песняроў» пра Белавежскую пушчу.

## Не стала Мікалая Мельнікава

У Гродне ва ўзросце 88 гадоў памёр Мікалай Мельнікаў, член Саюза беларускіх пісьменнікаў. Яму было каля васьмідзесяці гадоў, калі ён знайшоў у сабе сілы, каб напісаць успаміны з маленства. У 1930-х гадах яго сям'я была рэпрэсіравана. Як «кулакоў»-хутаранаў з Чавускага раёна Мельнікавых вывезлі ў Валагодскую вобласць, дзе ў суровых зімовых умовах беларускія сяляне мусілі будаваць сабе канцлагер.

Першая кніга называлася «Адчай, боль, горыч». Мікалаю Мельнікаву ўдалося па чарзе напісаць і апублікаваць тры кнігі ўспамінаў. Дзякуючы сваякам яму пашчасціла апынуцца зноў у родных мясцінах. Затым была вайна, партызаны, фронт.

У 1990-я гады Мікалай Мельнікаў уступіў у Грамаду, стварыў дэмакратычную арганізацыю ветэранаў. У 2003 годзе разам з паплечнікамі заснаваў грамадскі музей Васіля Быкава. Да апошніх дзён ён прыкладаў намаганні, каб музей набыў адпаведны статус, атрымаў дзяржаўную падтрымку. Але экспазіцыя па-ранейшаму размяшчаецца ў невялікім пакоі ветэранскай арганізацыі.

У 2012 годзе, за тры месяцы да смерці, Мікалай Мельнікаў атрымаў прэмію імя Алеся Адамовіча. Беларускі ПЭН-цэнтр адзначыў яго за захаванне гродзенскай спадчыны Васіля Быкава.



■ *Мікалай Мельнікаў.*

## Зоська Верас любіла Гродна

У Гродне было адзначана 120-годдзе з дня нараджэння Зоські Верас. Вечарына адбылася ў гарадской выставачнай зале на вул. Элізы Ажэшкі. Падрыхтавалі яе музей Максіма Багдановіча і каледж мастацтваў. Навучэнцы каледжа паказалі паэтычную пастаноўку, прысвечаную Зосьцы Верас і Максіму Багдановічу. Яны ў 1916-1917 гадах працавалі разам у Мінску ў таварыстве дапамогі пацярпелым ад вайны. Іх ролі выканалі Марыя Пстыга і Аляксей Бойка. На вечарыне прагучалі творы Зоські Верас і ўспаміны людзей, якія ведалі яе і падтрымлівалі ліставанне.

Зоська Верас — літаратурны псеўданім Людвікі Сівіцкай. Яна была дзяячкай нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі, літаратарам. Жыла ў Гродне з 1909 да 1913 года, закончыла гімназію і паехала вучыцца ў Варшаву. Была актыўнай удзельніцай Гродзенскага гуртка беларускай моладзі. Пазнейшае жыццё было звязана з Вільняй, дзе яна памерла і была пахавана ўвосень 1991 года. Яна дажыла амаль да ста гадоў (нарадзілася ў 1892 годзе).

Прафесар Аляксей Пяткевіч распавёў аб тым, як Зоська Верас прыязджала ў Гродна ў 1972 годзе. Хацелася паказаць ёй новы горад, казаў ён. Узяў для гэтага таксоўку, але хутка заўважыў, што ёй нецікава: «А калі даехалі да гістарычнага цэнтра, яна сказала: давайце машыну адпусцім. І пайшлі мы па старых вулічках, яна добра ўспомніла горад і натуральна накіравалася туды, дзе жылі яе дзед і бабуля. Гэта на рагу вуліц Кірава і Сацыялістычнай. Яна зазірнула ў арку, зайшла ў двор і стала таптацца на месцы разгублена. Дзе ж яно ўсё падзелася? Здаецца ж, тут, але нешта не тое: нейкія хлеўчукі з'явіліся, раней былі дрэвы, кусты, цяпер гола, таму яна нават не была зусім упэўнена, што гэта было тут. Мы прайшліся па Гараднічанскай вуліцы, дзе быў дом, у якім яна жыла з маці».

Міхась Скобла рыхтуе да друку двухтомнік успамінаў і лістоў Зоські Верас. Ён прывёз сшытак, у якім яна пакінула звесткі пра беларускіх дзеячаў, многіх з якіх ведала, якім не знайшлося месца ў Беларускай савецкай энцыклапедыі. Даследчык яе творчасці прывёз таксама паказаць гродзенцам копію апошняга ліста З. Верас, дасланага ёю мастаку Вячку Целешу, у якім пытанне: «Як справы ў Гродне?»

У Гродне яна апынулася неспадзявана: калі раптоўна памёр бацька, яны з маці вырашылі паехаць да сваякоў. Дзяўчына пайшла ў прыватную гімназію Кацярыны Баркоўскай. Яна размяшчалася ў былым доме караля Стэфана Баторыя, камяніца захавалася.

Той жа восенню ўтварыўся гурток беларускай моладзі, у якім Зоська Верас стала бібліятэкаркай. Яна ўспамінала пазней, што яны з маці жылі амаль насупраць Брыгіцкага касцёла. Храм ацалеў, насупраць яго таксама існуе старая забудова.

Затым была іншая кватэра — з пяці пакояў, на вуліцы Гараднічанскай. Зоська Верас успамінала: «Мама атрымала дазвол у школьных уладаў арганізаваць у нас "вучнёўскую кватэру"... Вучняў набралася восем чалавек — усе



■ *Выступаюць навучэнцы каледжа мастацтваў.*

беларусы, сябры гуртка. Бібліятэку перанеслі сюды. Наш дом стаў кватэрай гуртка. Тут адбываліся рэпетыцыі хору, спектакляў, лекцыі і вечарынкі».

У 1910 годзе памерла гродзенская пісьменніца Эліза Ажэшка. Зоська Верас узгадвала пра дзень пахавання: у доме пісьменніцы яе найбольш прывабілі гербарыі на сценах з лісця і кветак, зробленыя рукамі Элізы Ажэшкі. Яе творы гімназісткі ведалі і любілі, пісала Зоська Верас.

## «Птушкі без гнёздаў» Ларысы Геніюш

У Гродне адбылася прэзентацыя аўдыёкнігі ўспамінаў Ларысы Геніюш пад назвай «Птушкі без гнёздаў», створанай у Беластоку. Кіраўнік Беларускай інтэрнэт-бібліятэкі kamunikat.org Яраслаў Іванюк паведаміў, што гэта гукавая версія вядомай кнігі «Споведзь», якая выйшла ў Мінску ў 1993 годзе. Восемсот восемдзесят хвілін успамінаў Ларысы Геніюш начытала народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка.

Узнавіць успаміны Ларысы Геніюш пастанавіла Беларускае гістарычнае таварыства ў Польшчы. Гэта было зроблена са згоды сям'і Геніюш. Чаму не «Споведзь», а — «Птушкі без гнёздаў»? Яраслаў Іванюк патлумачыў, што першая назва не зусім падабалася нават самой аўтарцы. Ён знайшоў у тэксце словы «мы, як тыя птушкі без гнёздаў» і вырашыў, што гэта будзе добрая назва. Гэта словы датычаць усяго яе пакалення, хаця пісала яна пра сваю



■ *Яраслаў Іванюк прадстаўляе аўдыёкнігу ўспамінаў Ларысы Геніюш, побач Зінаіда Бандарэнка.*

сям'ю, зазначыў Я. Іванюк. Ён паведаміў, што гэтая кніга выйдзе таксама ў перакладзе на польскую мову, які выканаў Чэслаў Сенюх.

Сваімі ўражаннямі ад агучвання ўспамінаў паэткі расказала Зінаіда Бандарэнка. Выступіў даследчык творчасці Ларысы Геніюш Міхась Скобла і людзі, каторыя яе добра ведалі, — паэтка Данута Бічэль і прафесар Аляксей Пяткевіч. Свае песні на словы Ларысы Геніюш выканаў Алесь Камоцкі.

## Семдзесят сем вершаў Эдуарда Мазько

У Варшаве выйшла кніга вершаў Эдуарда Мазько «Займеннікі». Гэта пасмяротнае выданне. Аўтара не стала ў 2011-м, яму было сорак гадоў. Ён падрыхтаваў зборнік паэзіі, але зацікаўленага выдаўца не дачакаўся. Сваёй кніжкі паэт так і не ўбачыў. Аб яе выданні падбала Галіна Мазько, удава, былыя калегі паэта. Ва ўніверсітэце імя Янкі Купалы, дзе ён працаваў, адбылася прэзентацыя. У кнізе «Займеннікі» 77 вершаў.

Пасля заканчэння Гродзенскага ўніверсітэта Эдуард Мазько працаваў у музеі Максіма Багдановіча, у 1990-я гады актыўна друкаваў вершы,



■ *Эдуард Мазько.*

уваходзіў у верш-гурт «Дыяген» — суполку гродзенскіх паэтаў. Ва ўніверсітэце ён выкладаў сацыялогію культуры, культуралогію. Абараніў кандыдацкую пра Беларускую хрысціянскую дэмакратыю ў міжваенны час, працаваў над доктарскай дысертацыяй, прысвечанай беларускай народнай культуры.

Паэт пісаў пра свой любімы горад:

Святы анёл са шпілю пекнай Фары
Штоночы шпацыруе па Гародні.
І я патрапіў на яго сягоння,
Калі вяртаўся да цябе з вакзала.
І скрозь святло неонавых рэкламаў
Мы моўчкі з ім па вуліцах блукалі
І тое, што не страцілі, шукалі
На польскім бруку, у вітрынах крамаў.

«Займеннікі» Эдуарда Мазько выдаў Інстытут Усходняй Еўропы Варшаўскага ўніверсітэта.

## Беларускія кнігі сярод польскіх

*Зацемкі з кніжнага кірмаша ў Варшаве*

Калі ехаў у Варшаву з Гродна, мне было вядома, што ў каралеўскім замку адбудзецца прэзентацыя Беларускага гістарычнага таварыства. У час работы XXI кірмаша гістарычных кніг. Што ж, якраз я спыніўся побач са Старым горадам, кірмаш непадалёк.

У замку спачатку паглядзім — што прадаецца. Ахоўнік паказвае, куды ісці. Апынаешся ў непаразуменні на невялікай пляцоўцы з букіністычнымі выданнямі. І гэта ўсё? Бачыш неўзабаве знаёмую постаць: па лесвіцы спускаецца Алег Латышонак. Яны ідуць з дырэктарам кірмаша Вальдэмарам Міхальскім. Яны гавораць, што беларускае мерапрыемства будзе наверсе, у замку, а ў доле, куды спускаешся на эскалатары, — якраз сам кірмаш.

Кірмаш — быццам людскі вулей. Дзясяткі выдавецтваў прапануюць свой тавар. З чаго пачаць агляд? Вочы разбягаюцца. Але спачатку прыемная, як і нечаканая, сустрэча: знаёмыя твары, знаёмыя выданні. У рамках кірмаша «Першы салон беларускай кнігі» ўдзельнічаюць дзесяць прыватных выдавецтваў, ёсць і адно гродзенскае. Паездку ў Варшаву ім дапамог ажыццявіць Польскі інстытут у Мінску.

Але неўзабаве пачнецца беларускае мерапрыемства наверсе. Вялікая зала, дзе ўсёй мэблі — трон Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Зверху залачоны вензель апошняга караля з каронай. Зусім такі, як на фасадзе палаца ў былым Станіслававе ў Гродне. Ты просіш у даглядчыцы зрабіць здымак. Калі ласка, толькі без успышкі — адказ. У зале за сцяною, пры якой трон, якраз беларуская сустрэча. Яна пройдзе пад партрэтам караля, які і цяпер звязвае напрасткі Варшаву з Гродна.

Алег Латышонак з Беларускага гістарычнага таварыства робіць уводзіны: кароткі экскурс аб паходжанні назвы «Беларусь». Даследчыца літаратуры

Наталля Русецкая выкладае ў Інстытуце славянскай філалогіі Люблінскага ўніверсітэта. Яна падрыхтавала агляд сучаснай беларускай гістарычнай прозы. Апошні акцэнт: нарэшце на польскай мове выйшаў «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Вядома, гэта ці не самы грунтоўны раман Уладзіміра Караткевіча, бацькі беларускага гістарычнага рамана. Пераклад зрабіла Малгажата Бухалік.

Першы пасол Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь Эльжбета Смулкова занепакоена становішчам часопіса «Arche», які апынуўся пад пагрозай. Алег Латышонак: «Arche» на беларускім салоне кірмаша пыталі найчасцей.

Перакладчык Чэслаў Сенюх: у Польшчы малая зацікаўленасць значным творам беларускай літаратуры — паэмай «Новая зямля» Якуба Коласа, перакладзенай ім. Беларускае асяроддзе на Беласточчыне, на жаль, таксама не паспрыяла, каб пашырыць пераклад «Новай зямлі» на польскую мову. Між тым паэма — такі ж значны твор для суседзяў-беларусаў, як «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча — для палякаў, падсумоўвае перакладчык.

Знаёмства з Чэславам Сенюхам. Ты слухаў яго пераклады з беларускай паэзіі па беларускай праграме Польскага радыё. У прыватнасці, турэмныя вершы Уладзіміра Някляева. Чэслаў Сенюх чытае і пераклад, і арыгінал. Ён зазначае, што такіх перадач выйшла ўжо больш за шэсцьсот. Вельмі значная праца.

Што стала з перакладам рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», які некалі зрабіў спадар Сенюх? Ён успамінае: гэта было пры канцы 1980-х гадоў, калі ў сацлагеры ўсё пачало ламацца. «Ксёнжка і ведза», вядомае выдавецтва, аплаціла перакладчыку працу, якой ён займаўся два гады. Але раман не выйшаў. Пазней стала вядома, што правы на яго выданне былі прададзены, але што стала з перакладам — невядома. Спадар Сенюх здаў яго ў выдавецтва ў двух асобніках і не мае копіі. Такая вось гісторыя.

За апошні час пачала разбурацца нябачная заслона паміж беларускай і польскай літаратурамі: перакладаюцца кнігі на абедзве мовы. Праўда, беларускія пакуль радзей атрымліваюць польскамоўнае гучанне, чым наадварот. Праўда таксама ў тым, што ініцыятыва ідзе з польскага боку. Беларускі кнігадрук сучасныя творы аўтараў з Варшавы, Кракава і Гданьска цікавяць мала, уся ўвага — Адаму Міцкевічу, што, зрэшты, таксама няблага.

Кніжны кірмаш у каралеўскім замку — гэта тысячы тамоў. Перагледзець усё немагчыма. І людзей, здаецца, таксама тысячы. Значыцца, кнізе на польскай мове нішто не пагражае. Але знайшліся сярод наведнікаў таксама і тыя, хто зацікавіўся беларускімі выданнямі. Сярод іх былі кнігі, прысвечаныя Гродну.

Атмасферу на кірмашы стваралі маладзёны са зброяй, у тым ліку ў мундзірах варшаўскіх паўстанцаў 1944 года. Пахаджалі таксама савецкі салдат і матрос са стрэльбамі, з медалямі на грудзях, толькі здымак у мяне атрымаўся змазаны, на жаль… Але кірмаш сканчаецца: зброя здадзена, кніжкі складзены ў скрынкі.

*Сяргей АСТРАВЕЦ*



■ *Першы салон беларускай кнігі ў Польшчы адбыўся ў каралеўскім замку.*

■ *Беларускі стэнд.*






■ *Беларускія кнігі на кірмашы.*

■ *На сустрэчы, прысвечанай беларускаму кнігадруку: у цэнтры Алег Латышонак, злева ад яго Наталля Русецкая.*




■ *На кірмашы: прадстаўніцтва аднаго з польскіх выдавецтваў.*

# ЗМЕСТ



## ПАЭЗІЯ

**Алесь Жамойцін**



**Мікола Канановіч**



**Мечыслаў Курыловіч**



**Пятро Макарэвіч**



**Яўген Петрашэвіч**

## ПРОЗА



## ПЕРАКЛАДЫ

У альманаху выкарыстаны фотаздымкі паасобных аўтараў
з архіва Ю. Голуба.

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**НОВЫ ЗАМАК**

*Літаратурны альманах. Гродна. MMXII*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Юрка Голуб*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 30.12.2012. Фармат 70x100 $^{1}/_{16}$.
Друк афсетны. Папера афсетная.
Ул.-выд. арк. 13,52. Ум. друк. арк. 20,15.
Наклад 200 асобнікаў. Зак. 48.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.